Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 16 (4560) 23 красавіка 2010 г.

# У нумары:





Мабыць, у кожнай нацыянальнай літаратуры ёсць паэты, творчасць якіх, з'яўляючыся адной з самых адметных старонак, усё ж стаіць крыху адасоблена, наводдаль ад астатніх майстроў пяра. Пра такіх лягчэй развважаць "не ў кантэксце", і хаця кантэкст, — літаратурны, грамадскі, культуралагічны, — безумоўна, ёсць, пішуць і гавораць пра іх усё ж часцей асобна. Беларускі паэт Уладзімір Жылка, з дня нараджэння якога сёлета спаўняецца 110 гадоў, бясспрэчна, далучаецца да гэтай нешматлікай кагорты творцаў.



# Па волі лёсу беларус

У вёсцы Макашы Нясвіжскага раёна яшчэ і цяпер стаіць хата, на сцяне якой прымацавана мемарыяльная дошка з надпісам: "У гэтым доме 27 мая 1900 года нарадзіўся і жыў да 1914 года беларускі паэт, перакладчык, крытык Уладзімір Адамавіч Жылка (1900 — 1933)". Непадалёк ад дома стаіць і помнік з партрэтам паэта, і прынамсі мясцовыя дзеці ведаюць, кім быў гэты чалавек.

Жылку з самага юнацтва давялося вандраваць па блізкім і далёкім свеце. Скончыўшы ў 1914 годзе Мірскую гарадскую вучэльню, ён разам з бацькамі пераехаў у Мінск, пасля, падчас Першай сусветнай вайны, сям'я разам з іншымі бежанцамі апынулася ў Тульскай губерні. Там малады паэт паспеў скончыць Багародзіцкае агранамічнае вучылішча, што і дало яму магчымасць па вяртанні ў Мінск у 1917 годзе працаваць аграномам у дзяржаўным маёнтку пад Мінскам. Затым былі Вільня, Коўна, Дзвінск і нарэшце, у 1923 годзе, — Прага. Там, студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Карлава ўніверсітэта, Жылка пражыў тры гады, беспрапынна ведучы актыўную грамадскую і культурную дзейнасць.

Аднак "эмігрантчына была яму неўмагату", як сам ён прызнаваўся ў адным з лістоў. І таму У. Жылка нарэшце прыняў рашэнне вярнуцца ў Беларусь, дзе, дарэчы, засталіся яго бацькі. Прыехаўшы на Акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу, што з вялікім пафасам прайшла ў Мінску ў 1926 годзе, Жылка застаўся ў Савецкай Беларусі. Яўхім Кіпель, які апісваў свае апошнія сустрэчы з паэтам і апошнія дні яго жыцця, прыгадваў: калі сябры яму казалі пра трагічную памылковасць таго рашэння (пазней, ужо пасля арышту), Жылка адказваў: "Ведаеш, браце, мае раны мне і так баляць — ты іх больш не цвялі". Ці значыць гэта, што паэт шкадаваў аб сваім вяртанні на радзіму? Цяжка адказаць, ці мог аўтар радкоў "О, як соладка сэрцу маліцца: Беларусь, Беларусь, Беларусь!", шкадаваць аб гэтым. Хутчэй за ўсё, ён балюча перажываў тое, што радзіма сустрэла яго падманам, што вяртанне ў краіну мараў аказалася ўсяго толькі спакуслівай ілюзіяй... Перажываў, але, разам з тым, і прадбачыў гэта. Нездарма, ужо прыняўшы рашэнне вярнуцца, яшчэ з Прагі пісаў Антону Луцкевічу, што "байца браць з сабой у падарожу найдрабнейшыя надзеі".

У Беларусі Жылка быў літсупрацоўнікам рэдакцыі газеты "Звязда", выкладаў беларускую літаратуру ў Беларусім музычным тэхнікуме, займаўся перакладамі для Белдзяржкіно. На той час ён ужо быў вядомым паэтам – дэбютаваў вершамі ў 1920 годзе ў заходнебеларускіх выданнях "Беларускія ведамасці", "Наша думка", "Наша будучыня", "Новае жыццё", а ў 1924 годзе ў Вільні выйшаў яго зборнік "На ростані".

Паколькі У. Жылка быў сябрам чэшскага літаратурнага аб'яднання "Маладняк", ён "аўтаматычна" далучыўся да беларускіх маладнякоўцаў. Аднак ненадоўга. Надта крыклівымі і утылітарнымі былі для паэта маладнякоўскія лозунгі, а таму неўзабаве ён стаў сябрам згуртавання "Узвышша". Гэта было заканамерна і непазбежна — Жылка так ідэальна "ўпісваўся" ў шэрагі ўзвышаўскіх паэтаў Язэпа Пушчы, Уладзіміра Дубоўкі, Сяргея Дарожнага, Максіма Лужаніна... Дарэчы, тэарэтыкі "Узвышша" ўзорам творчай асобы абвясцілі Максіма Багдановіча. А Жылка, носячы ў сабе не толькі тую ж мару выдаць невялічкі зборнічак дасканалых вершаў, цалкам прысвечаных хараству і каханню, але і тую ж спапяляльную хваробу, не мог не адчуваць, што ідзе Максімавымі слядамі.

Статус узвышаўца быў неадназначны ў тагачасным літаратурным асяроддзі. Разам з прэстыжам далучэння да элітнага творчага кола і магчымасцю друкавацца ў часопісе "Узвышша" Жылка атрымаў і ўсё тое, што з самага пачатку заснавання згуртавання атрымлівалі ўзвышаўцы, — далёка не заўсёды аргументаваную, затое абавязкова пафасна-знішчальную крытыку і абвінавачанні ў адхіленні ад прынцыпаў пралетарскага мастацтва. "Звіхнуліся яны ў бок ідэалістычнасці (чыстае хараство як антытэза казённай радасці)" — пісалася ў газеце "Звязда", а Тодар Глыбоцкі (Алесь Дудар) на старонках аўтарытэтнай "Савецкай Беларусі" называў узвышаўцаў "літаратурнымі сектантамі". Аднак у сваю " літаратурную секту" ўзвышаўцы прымалі далёка не ўсіх...

Як і Максім Багдановіч, Уладзімір Жылка пакінуў нам не проста паэтычную спадчыну, але запавет, каштоўнае пасланне. У прыватнасці, яго знакамітыя паэмы "Уяўленне" і "Тэстамент" успрымаюцца як нешта сакральнае і сімвалічнае. Паэт, які быў перакананы, што "няма збавення, апроч пекнаты", які ведаў, што "ніколі не быць яму простым", сам вызначыў у вершах не толькі творчае крэда, але і месца сваёй творчай ідэі ў сучаснай яму рэчаіснасці:

Душа мая тужлівая —
Лілея між балот.
Яна ўзрасла, маўклівая,
Між багны сонных вод.

Рэчаіснасць патрабавала іншых радкоў і іншых паэтаў.

Уладзімір Жылка быў арыштаваны 18 ліпеня 1930 года (першы з узвышаўцаў) па справе так званага "Саюза вызвалення Беларусі" і атрымаў судовы вырак — 5 гадоў высылкі ў горад Уржум Кіраўскай вобласці. Аднак у астатнім ён не падзяліў лёс сваіх паплечнікаў па "Узвышшы": 1 сакавіка 1933 года Жылка памёр ад сухотаў ва Уржумскім шпіталі.

Пакараўшы паэта болем раздарожжа, існаваннем у перадчаснасці, лёс адначасова ўзнагародзіў яго яркім, адметным талентам. Магчыма, без першага, не было б і другога. Ва Уладзіміра Жылкі было мала часу — і для жыцця, і для вершаў. Аднак і таго, што ён пакінуў нам у спадчыну, дастаткова, каб не забывацца: быў такі незвычайны чалавек, адзін з лепшых айчынных паэтаў —

Уладзімір, сын Адамаў,
Жылка,
Па волі лёсу беларус.

Жанна КАПУСТА

## Пункцірам

•Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народнага артыста СССР Уладзіміра Васільева, паведамілі ў прэс-службе Кіраўніка дзяржавы. У віншаванні гаворыцца, што беларускія гледачы з'яўляюцца адданымі прыхільнікамі творчасці Уладзіміра Васільева, высока цэняць яго як выканаўцу і пастаноўшчыка балетных спектакляў. Мастацтва гэтага артыста пераадольвае межы, збліжае краіны і народы.

•Тры месяцы таму па ініцыятыве Міністэрства культуры Беларусі стартавала рэспубліканская акцыя "Культурная сталіца 2010 года". Гонар распачаць гэты праект, які стане традыцыйяй у жыцці нашай краіны, выпаў старажытнаму Полацку, і тут прыкметна актывізавалася канцэртна-тэатральная і выставачная дзейнасць. Найбольш яркай падзеяй красавіка сталіся два канцэрты Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча (мастацкі кіраўнік М. Дрынеўскі), вяснова-велікодная праграма якога эфектна прагучала ў сценах Полацкага Сафійскага сабора.

•Больш за 70 млрд. рублёў вылучана сёлета на аднаўленне помнікаў гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі, паведамляе БелТА. Цяпер праектныя і рэстаўрацыйныя работы вядуцца на 750 аб'ектах, цалкам скончана іх інвентарызацыя ў Мінскай вобласці і 11 раёнах Віцебшчыны. Адначасова ўлічаны помнікі археалогіі ў Брэсцкай, Гродзенскай і Магілёўскай абласцях. Разам з аблвыканкамамі падрыхтаваны пералік закінутых старажытных сядзіб і замкаў у сельскай мясцовасці і малых гарадах, якія можна перадаць прыватным асобам і фермерам для арганізацыі аграэкатурызму.

•Заўтра, суботнім днём, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі ўрачыста адкрыецца выстаўка "Святыя заступнікі ў праваслаўным іканапісе XVI — XIX стагоддзяў". У экспазіцыі прадстаўлены абразы з фонду НММ Беларусі, а таксама Яраслаўскага мастацкага музея — выявы нябесных заступнікаў, якія найбольш шануюцца вернікамі ў Беларусі ды на Яраслаўшчыне. Выстаўка прымеркаваная да 75-годдзя Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.

•Выйшаў чарговы нумар газавіка "Скарыніч", які выдаюць беларусы Масквы. Выданне прысвечана тысячагоддзю летапіснага ўзгадвання назвы "Літва" і беларускай прысутнасці ў Расіі. Пад адной вокладкай друкуюцца пераклады верша Максіма Багдановіча "Пагоня" на польскую, рускую, украінскую, англійскую, нямецкую, французскую мовы. Таксама ўрыўкі з хронік, артыкулы Алега Рудакова, Аляксея Марачкіна, Віталя Скалабана і іншых.

•Упершыню ў Мінску адбыўся паказ балета "Рустэр" знанага сучаснага ізраільскага харэографа Барака Маршаля. Маэстра сам зрабіў музычны калаж для пастаноўкі — з этнічных мелодый, электроннай і рок-музыкі, а стылістыку харэаграфіі вызначыў як "ізраіла-балканска-цыганска-басаногую". Складаны і напоўнены гумарам спектакль, сюжэтная аснова якога — "У чаканні Гадо" С. Бэкета, увасабляюць 12 танцоўшчыкаў і оперная спявачка. Балет "Рустэр" створаны па замове сусветна знакамітага ізраільскага Цэнтра сцэнічнага мастацтва імя Сюзан Дэлаль.

Падрыхтавалі Лана ІВАНОВА, Бажэна СТРОК і Павел РАДЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Вынікі плённай працы

У Нацыянальным прэс-цэнтры нашай краіны ладзілася прэс-канферэнцыя на тэму "Вынікі работы грамадскага аб'яднання "Саюз пісьменнікаў Беларусі" ў 2009 годзе і планы на 2010 год". У ёй бралі ўдзел старшыня СПБ Мікалай Чаргінец, першы сакратар саюза Генадзь Пашкоў, сакратар пісьменніцкай арганізацыі Георгій Марчук, пісьменнік-ветэран Алесь Савіцкі і галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі.




Распачынаючы прэс-канферэнцыю, Мікалай Чаргінец зазначыў, што СПБ у мінулым годзе даволі актыўна працаваў па шматлікіх кірунках. Прыкладам, развіццё літаратурнага працэсу, работа па ўмацаванні аўтарытэта ды ролі пісьменніка ў грамадстве, работа з маладымі літаратарамі. Вялікая ўвага надавалася выданню кніг нашых пісьменнікаў, бо сёння як ніколі востра стаіць пытанне па прапагандзе літаратуры. Таксама адзін з галоўных напрамкаў — супрацоўніцтва з іншымі саюзамі, міжнароднымі арганізацыямі. Так, шляхам падпісання дамоў усталявалі кантакты з прадстаўнікамі пісьменніцкіх саюзаў у 21 краіне.

На сённяшні дзень у СПБ налічваецца каля 550 творцаў, з якіх 206 перайшлі з Саюза беларускіх пісьменнікаў. Сярод іх 16 лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Беларусі, адзіны ў краіне акадэмік-літаратар — Уладзімір Гніламёдаў. 16 членаў прыняты ў саюз з ліку тых, хто ўваходзіць у саюзы пісьменнікаў іншых краін: Аўстрыі, Расіі, Германіі, Балгарыі...

Мікалай Іванавіч распавёў журналістам пра кіраўніцтва, структуру, працу секцый і літаратурныя конкурсы СПБ, дзейнасць Камісіі па этыцы. Падрабязна спыніўся на створанай у мінулым годзе секцыі краязнаўства, намаганнямі якой за гэты час вызначана паўтары тысячы знакамітых ва ўсім свеце людзей — выхадцаў з Беларусі.

Нашы пісьменнікі-ветэраны і сёння актыўна працуюць над новымі творамі. Іх кнігі выдадзены ў серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі". Пленум праўлення СПБ вырашыў абвясціць спецыяльны конкурс для пісьменнікаў-франтавікоў, а таксама ветэранаў Узброеных сіл і ўдзельнікаў лакальных войн. На конкурс будуць прымацца творы, што выйшлі ў 2009 — 2010 гадах. А калі франтавікі возьмуцца за напісанне новых твораў, дык тэрмін падвядзення вынікаў конкурсу можа быць перанесены на больш позні перыяд. Вельмі ўдалым і эфектыўным з'яўляецца праект "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі". На сённяшні дзень ёсць запыты больш як з дваццаці краін свету, у тым ліку і ЗША, каб ім даслалі гэтыя выданні.

Літаратурны працэс нельга ўявіць без яго прапаганды. У мінулым і бягучым гадах пісьменнікамі СПБ арганізавана каля васьмі тысяч выступленняў у працоўных калектывах, воінскіх часцях, школах, ВНУ, музеях... Усё гэта робіцца для павышэння прэстыжу літаратуры ў грамадстве і ўмацавання пазіцый беларускай мовы.

Нядаўна было прынята рашэнне па стварэнні новага часопіса пад умоўнай назвай "Брат", які будзе органам Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, у ім будуць друкавацца як сталыя пісьменнікі, так і маладыя абедзвюх краін. Мяркуецца, першы нумар часопіса пабачыць свет у бліжэйшыя месяцы.

Прадстаўнікі СПБ адказалі на шматлікія пытанні журналістаў пра стасункі Саюза пісьменнікаў Беларусі з Саюзам беларускіх пісьменнікаў, выдавецкія праекты, конкурсы, школьныя праграмы па літаратуры...

Больш падрабязную справаздачу з прэс-канферэнцыі чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў "ЛіМа".

Віктар КАВАЛЁЎ

Фота Кастуся Дробава

## Праекты

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры стартаваў культурна-адукацыйны праект "У музей усёй сям'ёй". Яго сузаснавальнікам поруч з музеем з'яўляецца рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва", а таксама камітэт па адукацыі Мінскага гарвыканкама і ўпраўленне адукацыі адміністрацыі Ленінскага раёна сталіцы.



# Усёй сям'ёй — у музей

Асноўныя мэты праекта — спрыяць выхаванню дзяцей у сваім нацыянальным культурным асяроддзі, мець прыярытэтам сямейнае выхаванне, калі бацькі і дзеці разам спасцігаюць культурныя каштоўнасці, ды абуджаюць цікавасць да беларускай кнігі. Найперш — мастацкай і навукова-папулярнай.

У праграме першай такой сямейнай сустрэчы значылася багата цікавых кірункаў. Гістарычны, які прадбачыў знаёмства з самім музеем; адукацыйны, які скіраваў увагу наведвальнікаў-сямейнікаў на выставу "Васіль Быкаў. Шлях, вызначаны лёсам"; мастацкі, што ўвабраў у сябе прэзентацыю кніг РВУ "Літаратура і Мастацтва", пра якія падрабязна распавяла намеснік дырэктара Ала Корбут; ды больш дэталёвае, удумлівае знаёмства з кнігай Алеся Бадака "Жывёлы". Кніга з серыі "Усім пра ўсё", якую можна чытаць і самастойна, і ў сямейным коле, і ў школе. Новае выданне багата ілюстраванае фотаздымкамі, таму вельмі дарэчы прыйшлася і мультымедыйная яго прэзентацыя. Такім чынам, на скрыжаванні жанраў — традыцыйных і сучасных — валадарыла Яго Вялікасць Слова.

Нязмушаным працягам сустрэчы сталі музейна-педагагічныя заняткі "Гуканне вясны", у якіх дзеючымі асобамі сталіся і дзеці, і іх бацькі.

Плануецца, што такія сустрэчы будуць праводзіцца перыядычна, наступная чакаецца ў маі.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: вядучая імпрэзы Вера Буланда і аўтар кнігі "Жывёлы" Алесь Бадак падчас прэзентацыі.

Фота Кастуся Дробава

## Прэзентацыі

У межах святкавання 65-годдзя Вялікай Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы правёў прэзентацыю ўнікальнага музейнага прадмета — легкавога аўтамабіля Янкі Купалы "Шэўрале", які ў 1939 годзе быў падораны ўрадам БССР першаму народнаму паэту Беларусі. Менавіта на гэтым аўтамабілі Янка Купала 24 чэрвеня 1942 года пакінуў Мінск і накіраваўся спачатку ў Ляўкі, потым у Маскву, а пазней у эвакуацыю ў Казань.



# «Шэўрале» песняра

Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка звярнуў увагу на тое, што гэта акцыя асаблівая: праз супрацоўніцтва музея і адной з камерцыйных структур краіны паказана, што беларускі бізнес можа дапамагаць развіццю і захаванню беларускай культуры. А гэта прыклад, які хацелася б памнажаць.

Унікальны музейны прадмет быў адрэстаўраваны сіламі СААТ "Мінск-Лада", афіцыйнага дылера кампаніі "Шэўрале" ў Беларусі. Як адзначыла памочнік генеральнага дырэктара СААТ "Мінск-Лада" Алена Воранава, для супрацоўнікаў кампаніі было вельмі адказна працаваць з прадметам, які з'яўляецца часткай гісторыі беларускай культуры.

Як адзначыла дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Мацевасян, у час рэалізацыі праекта абыякавых людзей не было. На прэзентацыі прысутнічала і ўнучатая пляменніца Янкі Купалы Жанна Дапкюнас, якая з бацькамі калісьці ездзіла на гэтым аўтамабілі.

Асаблівую атмасферу на мерапрыемстве стварылі духавы аркестр "Нёміга" пад кіраўніцтвам А. Сасноўскага, які выконваў музычныя кампазіцыі 30 — 40-х гг. XX ст., а таксама артысты студэнцкага тэатра "Жывое слова" Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка ў вобразах гараджан першай паловы XX ст. Падчас прэзентацыі гучалі і песні на вершы песняра ў выкананні бардаў і фольк-рок-гуртоў "Хорціца", "Alta Mente".

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: адрэстаўраваны аўтамабіль-рарытэт.

Фота аўтара

## Конкурсы

У адпаведнасці з рашэннем пленума праўлення СПБ "Подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне на старонках нашай літаратуры" Саюз пісьменнікаў Беларусі абвясціў літаратурны конкурс "Байцы ўспамінаюць", умовы правядзення якога друкуюцца ніжэй.

### Умовы правядзення літаратурнага конкурсу «Байцы ўспамінаюць»

Агульныя звесткі

1. Літаратурны конкурс "Байцы ўспамінаюць" прысвечаны 65-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

2. Мэты конкурсу:

праўдзівае асэнсаванне неўміручага подзвігу савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны;

прапаганда літаратуры беларускіх пісьменнікаў на ваенна-патрыятычную тэматыку;

умацаванне народных патрыятычных традыцый і пераемнасці пакаленняў.

Арганізатар конкурсу

Арганізатарам конкурсу з'яўляецца грамадскае аб'яднанне "Саюз пісьменнікаў Беларусі".

Удзельнікі конкурсу

Удзельнікамі конкурсу з'яўляюцца члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, якія прымалі непасрэдны ўдзел у падзеях Вялікай Айчыннай вайны, а таксама пісьменнікі-ветэраны Узброеных Сіл, у тым ліку ўдзельнікі лакальных войнаў, хто адлюстроўвае ваенна-гераічную тэматыку на старонках сваіх твораў.

Парадак правядзення конкурсу

1. Да конкурсу дапускаюцца арыгінальныя творы паэзіі (вершы, паэмы), прозы (раманы, аповесці, апавяданні, эсэ), публіцыстыкі (дакументальныя аповесці, нарысы, успаміны), драматургіі (увасобленыя ў пастаноўках п'есы, сцэнарыі дакументальных і мастацкіх фільмаў), якія выйшлі з друку на працягу 2009 — 2010 гг.

2. Прыём твораў на конкурс праводзіцца да 31 снежня 2010 года.

3. Падвядзенне вынікаў пройдзе ў два этапы:

першы — на працягу студзеня 2011 года;

другі — у першай палове лютага 2011 года.

Вынікі конкурсу аб'яўляюцца напярэдадні свята Дзень абароны Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

Узнагароджванне пераможцаў

Пераможцы конкурсу "Байцы ўспамінаюць" узнагароджваюцца дыпломамі ГА "СПБ", трыма асноўнымі і дзвюма заахвочвальнымі грашовымі прэміямі.

## Літ-абсягі

# Энцыклапедыя: і грунтоўная, і чаканая



У красавіку 2010 года ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" выйшаў першы том новага беларускага энцыклапедычнага выдання "Культура Беларусі".

Загадчык рэдакцыі літаратуры і мастацтва выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" Ганна Малей паведаміла, што задума стварыць энцыклапедыю, прысвечаную культуры Беларусі, вітала ў энцыклапедыстаў даўно. Літаральна адна за адной выдаваліся такія энцыклапедыі, як 18-томная універсальная "Беларуская энцыклапедыя", 6-томная "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі", 7-томная "Рэспубліка Беларусь", таму распачаць працу над новым выданнем было няпроста.

У стварэнні энцыклапедыі прымалі ўдзел навуковыя ўстановы, творчыя аб'яднанні, аддзелы культуры абласных выканкамаў, абласныя цэнтры народнай творчасці, розныя грамадскія аб'яднанні. Амаль год вялася праца над складаннем слоўніка для шасці тамоў энцыклапедыі "Культура Беларусі". У выніку ў яго ўвайшло больш як 18 тысяч артыкулаў па самых розных галінах ведаў: культуралогіі, гісторыі, археалогіі, этналогіі, літаратуры, мовазнаўстве, кнігадрукаванні, музыцы, кіно, мастацтве.

Адметная асаблівасць энцыклапедыі ў тым, што значнае месца ў ёй адведзена развіццю і сучаснаму стану матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў і прадстаўнікоў тых нацыянальнасцей, што жывуць на тэрыторыі Беларусі, — сувязям беларускай культуры з культурамі дыяспар.

Стваральнікі энцыклапедыі ўключылі ў выданне ўсю культуру Беларусі: са старажытнасці і да нашых часоў. Імкнуліся не абмінуць ніводнай значнай падзеі, ніводнай адметнай фігуры ў гісторыі беларускай культуры. Гэта артыкулы пра пісьменнікаў, перакладчыкаў, музыкантаў, мастакоў, акцёраў.

Шмат увагі ў энцыклапедыі адведзена аматарскаму мастацтву. Тут змяшчаецца інфармацыя пра кожны заслужаны, народны і ўзорны аматарскі калектыў, пра народныя рамёствы, у тым ліку саломапляценне, разьба па дрэве, ганчарства, а таксама інфармацыя пра фестывалі, што сталі вядомымі далёка за межамі нашай краіны: "Славянскі базар у Віцебску", "Лістапад", "Белая Вежа" ды іншыя.

Плануецца, што паступова, кожны год, будзе з'яўляцца па адным новым томе энцыклапедыі "Культура Беларусі". У хуткім часе першы том паступіць ужо у кнігарні.

Уладзімір ПАДАЛЯК
Фота аўтара

## Арт-лінія

# Фотасесія Беларусі-чараўніцы

Надыходзяць цёплыя, сонечныя дзянькі, якія так і запрашаюць адправіцца ў нейкае незвычайнае і цікавае падарожжа! Але, сябры, не спяшайцеся наведваць разрэкламаваныя тур-агенцтвы і набываць пуцёўкі ў Турцыю або на Кіпр. Я вам прапаную невялічкую, але вельмі захапляльную вандроўку па нашай краіне — Беларусі чароўнай…

Менавіта пад такой назвай — "Чароўная Беларусь" — у Міністэрстве культуры Беларусі пры падтрымцы Нацыянальнага мастацкага музея праходзіць фотавыстава, прысвечаная нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыне. Адны з самых вядомых у Беларусі майстроў фотаздымка — Сяргей Плыткевіч, Юрый Іваноў, Уладзімір Багданаў — у сваіх працах адлюстравалі маленькую кропельку з усяго мора хараства і унікальнасці беларускай зямлі.

Паверце, вельмі складана і адказна на 42 здымках прадставіць шматгранны вобраз нашай Радзімы, яе багаццяў. Ды, магчыма, экспазіцыя, своеасаблівая завочная экскурсія па адметных куточках Беларусі, крыху прысароміць тых, хто шукае прыгажосці толькі ў экзатычных краінах — дзе заўгодна, але толькі не вакол сябе…

Наведвальнікі фотавыставы за некалькі хвілін змогуць пабываць і ў розных таямнічых куточках Беларусі, і нават пападарожнічаць у часе! Зірніце на Лідскі і Навагрудскі замкі, Полацкі Сафійскі сабор, Барысаглебскую (Каложскую) царкву ў Гродне, Мураванкаўскую царкву-крэпасць у Шчучынскім раёне, Спаса-Еўфрасіньеўскую царкву — і вы ўжо ў беларускім сярэднявеччы. Магутныя рыцары (напэўна, толькі ім па сіле разбурыць такія замкі-волаты падчас войнаў і ўзводзіць іх у мірны час!), гаспадарлівыя жанчыны, жорсткія бітвы з крыжакамі…



А вось Нясвіжскі і Мірскі замкі, Касцёл Божага Цела ў Нясвіжы — і перад вамі часы рэнесансу на Беларусі ва ўсёй красе! Першыя друкаваныя кнігі, шумныя балі і вясёлыя забаўкі шляхты, рамантычнае каханне Барбары Радзівіл і Жыгімонта Аўгуста…

Некранутая прывабная прыгажосць азёрнай Мядзельшчыны, нацыянальных паркаў "Браслаўскія азёры" і "Прыпяцкі", напэўна, нагадаюць той напаўдзікі, але вольны лад жыцця першабытных беларусаў. Празрыстасць вады, непраходнасць лясоў, удалае рыбалоўства і паляванне…

Усе багацці нашай зямлі створаны продкамі і шчодрай прыродай не для таго, каб быць забытымі, пакінутымі і незаўважанымі! Яны павінны жыць у сэрцах, стаць нашай гісторыяй, сучаснасцю і будучыняй… Паверце, чароўная Беларусь гэтага заслугоўвае!

Спадзяюся, сябры, што пасля такой міні-экскурсіі вы ўжо дакладна вырашылі, дзе будзеце бавіць летні адпачынак…

Надзея ПЯКАРСКАЯ

На здымку: такім убачыў Навагрудскі замак Сяргей Плыткевіч.

## Повязі

# Магія вялікай музыкі

Дзякуючы нашым знакамітым гасцям, аркестру "Sinfonia Varsovia" і піяністу Марэку Драўноўскаму з Польшчы ды грузінскаму дырыжору Георгію Чычынадзе, у Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбылася незабыўная сустрэча з музыкай Фрыдэрыка Шапэна ды Роберта Шумана, 200-гадоваму юбілею якіх прысвечаны сёлетні Міжнародны фестываль "Мінская вясна".



Дырэктар аркестра "Sinfonia Varsovia" Януш Марыноўскі і мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі Юрый Гільдзюк у гутарцы з журналістамі выказалі асаблівую ўдзячнасць Пасольству Польшчы ў нашай краіне, якое пасадзейнічала гэтаму творчаму візіту. Дарэчы, канцэрт быў арганізаваны пры падтрымцы Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча і фірмы "KULCZYK investments".

Магія жывой музыкі, шчодрасць таленту, высокі прафесіяналізм, асаблівы душэўны настрой выканаўцаў, якія, да таго ж, выступалі ў Мінску ўпершыню, — усё гэта паспрыяла ўзрушальнай і непаўторнай атмасферы ў зале. Воляю лёсу ў поліфанію кранальнага па тонкасці эмоцый і грандыёзнага па глыбіні перажыванняў музычнага вечара дадалася пранізлівая нота нядаўняй трагічнай падзеі — канцэрт прыпаў на час жалобы па ахвярах жудаснай авіякатастрофы пад Смаленскам... Шапэн, Шуман: у творчасці гэтых вялікіх кампазітараў рамантыкаў моманты трагічныя спакроўленыя з аптымізмам, суровыя і змрочныя матывы — з вобразамі святла і надзеі... Прагучаў Канцэрт № 2 фа мінор Фрыдэрыка Шапэна. На "біс" Марэк Драўноўскі сыграў Накцюрн фа-дыез мажор і папулярны Сёмы вальс. У другім аддзяленні выконвалася Сімфонія № 4 Роберта Шумана. А яшчэ ў той вечар атуляла нашы сэрцы малітоўная чысціня Арыі геніяльнага Баха з яго Сюіты № 3...

Аркестр пад кіраўніцтвам маэстра Георгія Чычынадзе (выбітнае артыстычнае аблічча, віртуозная мануальная тэхніка, яркі творчы тэмперамент!) іграў — як дыхаў. Саліста Марэка Драўноўскага слухалі са шчырым захапленнем: непараўнанае прачытанне творчасці "паэта фартэпіяна"! Нездарма рэжысёр Кшыштаф Занусі менавіта яго зняў у ролі самога Шапэна...

Жывое гучанне музыкі слушна параўноўваюць са стыхіяй: натхнёнае выкананне майстроў здатнае і ў самым папулярным творы адкрыць свежыя, незаёмныя штрыхі, зноў пераконваючы спанатраную публіку ў непаўторнасці, непрадказальнасці, унікальнасці кожнага канцэртнага выступлення.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: заслужаны артыст Беларусі мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі Юрый Гільдзюк, генеральны дырэктар БДФ Аляксандр Гарбар, дырыжор Георгій Чычынадзе і дырэктар аркестра "Sinfonia Varsovia" Януш Марыноўскі падчас прэс-канферэнцыі.

Фота Віктара Кавалёва

## З-пад пяра

У Магілёўскім абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці і культасветработы выйшла ў свет кніга "Слоўцы-адмыслоўцы" Віктара Арцем'ева. Аўтар яе — вядомы на Магілёўшчыне краязнаўца, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. У кнізе змешчаны эсэ, абразкі і слоўнік дыялектаў вёсак Ордаць і Радзішчына Шклоўскага раёна, дарагіх і блізкіх Віктару Арцем'еву па нараджэнні і па жыцці. "Слоўцы-адмыслоўцы" сталі скарбонкай дыялекту, на якім гавораць яго землякі, на якім ён сам гаварыў у дзяцінстве і ў раннім юнацтве. Вось што піша ў прадмове да кнігі мовазнаўца Вольга Сотнікава: "Думаецца, вельмі своечасова, напярэдадні Года роднай мовы нарадзілася гэтая кніга… Яна сапраўды пра словы-перлінкі, якія захоўваюцца ў мове і памяці старэйшага пакалення, — носьбітаў спрадвечнай мовы продкаў…".

Іван ПЕХЦЕРАЎ

Пад назваю "Для мяне паэзія споведзь" у спецыялізаванай бібліятэцы-філіяле № 12 цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы горада Брэста адбылося свята паэтычнага слова. Гасцямі былі і ўжо вядомыя сярод чытачоў аўтары, і тыя, хто не так часта выступае са сваімі творчымі набыткамі. Да першых можна аднесці Расціслава Бензерука (Жабінка), Івана Дацкевіча (в. Ракітніца, Жабінкаўскі раён), Анатоля Казакевіча, Надзею Парчук (Брэст), да другіх — Андрэя Божуля, Яніну Грыгаровіч, Аляксандра Стасюка, Аркадзя Чавускага (Брэст), Марыю Якімук (в. Кавярдзякі, Брэсцкі раён). Гучалі вершы пра малую радзіму, свята Вялікай Перамогі, каханне. Кожны з гасцей атрымаў у падарунак зборнік вершаў членаў ГА "БелТІЗ" "За всё тебя благодарю" (Мінск, 2008) ад гарадской арганізацыі інвалідаў па зроку. Вяла сустрэчу загадчык бібліятэкі Людміла Валюшка.

Уладзімір ТАРАСЮК

Традыцыйныя, 19-я па ліку, Міжнародныя навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці знанага беларускага музыколага, фальклараыста, педагога Лідзіі Мухарынскай, прайшлі ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Сёлетняя тэма форуму — "Музычная культура Беларусі ў суквецці нацыянальных культур" — абумовіла яго правядзенне ў спалучэнні з міжнародным фестывалем этнакультур. Удзельнікамі чытанняў і фестывалю былі прадстаўнікі навуковых і навучальных устаноў Арменіі, Беларусі, Кітая, Латвіі, Расіі, музыказнаўцы і этнаграфічныя калектывы з гэтых краін, а таксама з Ірана і Японіі. Даклады і дыскусіі за "круглым сталом", відэапрагляды, канцэртныя праграмы, выстаўкі музычных інструментаў, прэзентацыі выданняў стварылі спрыяльнае асяроддзе для абмену досведам і абмеркавання гістарычных ды сучасных аспектаў у галіне міжнародных культурных сувязяў, развіцця нацыянальных традыцый музычнай творчасці, выканальніцтва, педагогікі.

Лана ІВАНОВА

Прадстаўнікі каля дваццаці школ Мінскага раёна бралі ўдзел у святочнай імпрэзе літаратурна-творчай суполкі "Купалінка". У вершах юных літаратараў гучалі тэмы Перамогі, прыроды, кахання, школьнага жыцця... Было прадстаўлена каля паўсотні твораў. Іх якасць ацэньвалі галоўны спецыяліст аддзела адукацыі Мінскага райвыканкама Лілія Жаўняркевіч; кіраўнік "Купалінкі" Мікалай Чарняўскі; паэтэса Эльвіра Ярчак і галоўны рэдактар дзіцячага часопіса "Качели" Эмілія Луканская, якія адзначылі высокі ўзровень паэтычных радкоў. Дарэчы, сябры гэтай суполкі часта друкуюцца ў дзіцячых часопісах, удзельнічаюць і перамагаюць у літаратурных конкурсах. Падчас пасяджэння Мікола Чарняўскі ўручыў вучаніцы Ждановіцкай сярэдняй школы Святлане Жастковай дыплом пераможцы конкурсу "Люблю Беларусь", які праводзіўся часопісам "Вясёлка".

Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

# Манускрыпт на хатняй паліцы

З усіх выданняў тыя, што ствараліся першымі, вабяць да сябе найбольш. Яны захоўваюць мудрасць стагоддзяў і гавораць многае пра развіццё асветы, пра тое, які быў пачатак кнігавыдання, і тое, як пашыралася культура ды ўзрасталі веды. Таму цікавасць да манускрыптаў — агульнасусветная. Але як да любой гістарычнай каштоўнасці, доступ да манускрыптаў абмежаваны. Найперш — тым, што яны пераважна ў адзінкавым экземпляры. Да таго ж, патрабуюць асаблівых умоў захоўвання. Цяпер тым карыстальнікам, хто імкнецца ўбачыць і па магчымасці пагартаць жаданы асобнічак, дапамагаюць сучасныя тэхналогіі.

Вядомы многім чытачам інфармацыйны рэсурс "Manuscriptorium" карпаратыўна ствараюць еўрапейскія бібліятэкі, архівы, музеі і іншыя ўстановы. Лідэрам і каардынатарам кантэнта з'яўляецца Нацыянальная бібліятэка Чэшскай Рэспублікі. У 2007 годзе праект "Еўрапейская электронная бібліятэка рукапісаў" стаў еўрапейскім рэсурсам — дзякуючы фінансаванню Еўрапейскай камісіі ў межах праекта ENRICH ("Еўрапейскія сецевыя рэсурсы і інфармацыя па культурнай спадчыне").

Нацыянальная бібліятэка Беларусі таксама далучылася да гэтай найцікавейшай праграмы.

Пра тое, якія дакументы мы прадастаўляем для Manuscriptorium і што каштоўнага можам знайсці ў сусветным сеціве, нам распавяла Ала ШАРАМЕЦЬЕВА, начальнік інфармацыйнага цэнтра Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.



— Партнёрамі праекта "Манускрыпторыум" з'яўляюцца розныя бібліятэкі, сярод іх нацыянальныя, універсітэцкія, некалькі манастырскіх, а таксама музеі і архівы. Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі таксама прапанавалі ўзяць удзел у еўрапейскім праекце. Гэта адбылося ў 2008 годзе, падчас чацвёртых кнігазнаўчых чытанняў, дзе абмяркоўвалася пытанне электронных інфармацыйных рэсурсаў. Ухлір Здэнек, кіраўнік і каардынатар праекта "Манускрыпторыум", не абмінуў увагай і НББ. Ідэя праекта — сабраць у адной бібліятэцы звесткі пра дакументы, рукапісы і старадрукі, якія былі выдадзены не пазней за 1800 год, з усёй Еўропы. Каб пасля даць магчымасць доступу да гэтай інфармацыі ўсім бібліятэкам-удзельніцам названага праекта. У 2009 годзе Нацыянальная бібліятэка Беларусі падпісала дагавор, які дае права на стварэнне электроннай бібліятэкі "Манускрыпторыум" і дамову аб субліцэнзіі на яе выкарыстанне.

— Якія магчымасці дае "Манускрыпторыум" удзельнікам праекта?

— Партнёры маюць магчымасць бясплатна атрымоўваць доступ да ўсіх дакументаў, якія ў ім прадстаўлены. Ёсць і свае ўмовы: каталог выданняў праекта знаходзіцца ў вольным доступе ў Інтэрнеце, аднак цалкам тэкстамі дакументаў маюць права карыстацца толькі тыя арганізацыі, з якімі была заключана дамова. Электронная бібліятэка складае больш як 185 тысяч бібліяграфічных запісаў. З іх толькі 4 тысячы маюць ссылкі на поўныя тэксты.

— Дзе можна атрымаць звесткі пра бібліяграфічныя запісы?

— На партале Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі можна праглядзець бібліяграфічныя спісы выданняў самой бібліятэкі, а поўны доступ да дакументаў можна ажыццявіць толькі з НББ. І зрабіць гэта можа любы наведвальнік бібліятэкі. Карыстацца "Манускрыпторыумам" вельмі проста, як і любой сістэмай пошуку ў Інтэрнеце.

— Цікава, электронныя копіі якіх дакументаў увайшлі ў спіс дакументаў НББ, размешчаных у "Манускрыпторыуме"?

— Спіс складаецца з 56 электронных копій старадрукаў на рускай, польскай і царкоўнаславянскай мовах. Гэта каля 25 тысяч старонак. Нацыянальнай бібліятэкай прадстаўлены інкунабулы, палеатыпы, кірылічныя кнігі беларускіх друкарань, рэдкія выданні Пятроўскага часу, гербоўнікі, кнігі з калекцыі "RADZIVILIANA", напісаныя і надрукаваныя прадстаўнікамі роду Радзівілаў ва ўласных друкарнях.

— Якой аўдыторыі адрасавана электронная бібліятэка?

— У першую чаргу праект зацікавіў гісторыкаў, кнігазнаўцаў, даследчыкаў, археолагаў. Але "Манускрыпторыум" дае магчымасць азнаёміцца з набыткамі еўрапейскай культуры ўсім, хто прагне ведаў.



— Ці ёсць магчымасць у карыстальніка раздрукаваць неабходную старонку, альбо скінуць яе на флэшку?

— Бясспрэчна. Кожная старонка адсканіраванага дакумента ўяўляе сабой фотаздымак фармату JPEG, таму ніякіх цяжкасцей з карыстаннем не ўзнікае.

Больш падрабязна пра выданні "Манускрыпторыуму" распавяла загадчыца навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Галіна КІРЭЕВА:

— Калі складалі спіс літаратуры для "Манускрыпторыуму", найперш звярнулі ўвагу на кнігі, якія б адлюстроўвалі культуру Беларусі, гісторыю кнігадрукавання. Як вядома, у нашай краіне яно ўзнікла раней, чым у іншых усходнеславянскіх дзяржавах. Да таго ж, па змесце выданні вельмі разнастайныя, гэта і літургічныя кнігі, і свецкая літаратура. У краіне выдаваліся кнігі на царкоўнаславянскай, польскай, лацінскай мовах, маюцца пераклады з іншых моў. Неабходна, каб увесь кніжны скарб — набытак нашай культуры, стаў вядомы шырокаму колу людзей.

Сярод выданняў ёсць і агульнакаштоўныя. Напрыклад, кнігі Пятроўскага часу, надрукаваныя ў 1708 — 1725 гадах у Маскве. Іх у бібліятэцы — 13 экземпляраў. Кніга Эрнста Брауна "Новейшее основание и практика артиллерии, капитана артиллерии во Гданьске 1682 года". (Масква, 1710), якую рэдагаваў Пётр Першы. "География генеральная" (1718 год, Варэніус, Бернхардус) настолькі была папулярная ў Еўропе, што перавыдавалася некалькі разоў. Калі казаць пра беларускія выданні, то ў бібліяграфічны спіс электроннай бібліятэкі ўваходзяць фаліянты, надрукаваныя ў Куцейнаўскай друкарні — "Лексикон славено-российский" (1653 г.) Памвы Бярынды, "Диоптра, или Зерцало" (1654 г.), "Новый Завет с Псалтирью" (1652 г.). "Путешествие ко святым местам и в Египет" М.Х.Радзівіла, выдадзенае ў Санкт-Пецярбургу ў 1787 годзе. У бібліятэцы ёсць рэдкая Біблія, выдадзеная Мікалаем Шарфенбергерам у Кракаве. У яго друкарні ў 1577 г. была выдадзена так званая Biblia Leopolita, якая ілюстравана 162 гравюрамі і ўпрыгожана шматлікімі ініцыяламі, застаўкамі і канцоўкамі. У бібліятэцы захоўваліся кнігі таксама прыродазнаўчага зместу, напрыклад, гербарыі. Гэта кніга пачатковага перыяду кнігадрукавання — "Herbarius Moguntiae impressus" (Майнц, 1484), выдадзены сусветна вядомым Петэрам Шэферам, выпускніком Парыжскага універсітэта і выдатным каліграфам. У 1450-х гадах ён жыў у Майнцы, быў вучнем і памочнікам І.Гутэнберга, а затым кампаньёнам знакамітага друкара Фуста. "Гербарыус" змяшчае малюнкі розных раслін з каментарыямі аўтара. Кнігамі такога кшталту карысталіся лекары, медыкі. Напрыканцы года плануецца дадаць у спіс яшчэ каля сотні электронных копій.

Марына ЯЎСЕЙЧЫК

На здымках: старонкі выданняў з праекта "Manuscriptorium".

# Крыніцы б'юць з глыбінь

**На базе Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі ствараецца музей пісьменнікаў Гомельшчыны, чые імёны вядомыя далёка за межамі нашай краіны. Цяпер у скарбніцы можна "пабачыць" некалькі электронных музеяў, прысвечаных народным пісьменнікам Беларусі Івану Шамякіну ("Майстра"), Івану Мележу ("Іван Мележ: старонкі жыцця"), Івану Навуменку ("Крыніцы б'юць з глыбінь"), пісьменніку Барысу Сачанку ("Святло яго душы"), Андрэю Макаёнку ("Андрэй Макаёнак: асоба і лёс"). Матэрыялы падрабязна асвятляюць іх жыццё, творчую і грамадскую дзейнасць. Пра новую ініцыятыву бібліятэкараў распавядаюць намеснік дырэктара па навуковай рабоце Юрый МАКСІМЕНКА і галоўны бібліятэкар аддзела краязнаўства Ніна СЕРЫКАВА.**




Абласная бібліятэка супольна з "Гомельскім палацава-паркавы ансамблем" і "Гомельскім дзяржаўным універсітэтам імя Ф.Скарыны ўжо пяты год рэалізуе праект "Культурна-гістарычнае развіццё Палесся". Праект дзейнічае з 2005 года, і менавіта ў рамках яго створаны шэраг электронных музеяў пісьменнікаў-землякоў.

Мы хацелі ў такіх музеях паказаць творцу і як моцную асобу, і як пісьменніка з вялікай літаратурнай спадчынай. Праўда, вялікім аказаўся перыяд падрыхтоўкі, калі вялася пошуковая і даследчая работа, вывучалася інфармацыя, якую неабходна было сістэматызаваць, і толькі потым пачынаць работу над стварэннем макетаў музеяў.




Публікацыі твораў пісьменнікаў прадстаўлены ў электронных версіях вельмі шырока: асобныя выданні, пераклады на іншыя мовы, гутаркі, інтэрв'ю. Максімальна паказана літаратурная крытыка — ад аўтарэфератаў дысертацый, матэрыялаў з цэнтральнага і мясцовага друку да водгукаў чытачоў. Прысутнічаюць матэрыялы аб пастаноўках п'ес і інсцэніроўках твораў пісьменнікаў, аб стварэнні фільмаў паводле іх твораў. Акрамя гэтага, сюды ж уключаны ілюстрацыйныя матэрыялы — пераважна фотапартрэты, здымкі з сямейных фотаархіваў.

Перавага такіх музеяў у тым, што яны змяшчаюць усе віды публікацый, якія так альбо інакш звязаны з жыццём, творчасцю і грамадскай дзейнасцю пісьменнікаў. Матэрыялы групуюцца тэматычнымі комплексамі, якія найбольш характэрныя для дадзенай асобы. Кожны раздзел музея дапаўняецца бібліяграфічнымі спіскамі літаратуры.

Стварэнне падобных паўнатэкставых баз дадзеных — гэта першая спроба сабраць увесь каштоўны фактаграфічны і бібліяграфічны матэрыял, сістэматызаваць атрыманыя звесткі і сфарміраваць агульнае, цэласнае ўяўленне аб пісьменніках. Хацелася б мець адзіную інфармацыйную прастору па вывучэнні і захаванні спадчыны пісьменнікаў для будучых пакаленняў.

Зразумела, што сабраныя матэрыялы прадстаўляюць цікавасць як для даследчыкаў творчасці пісьменнікаў, так і для студэнтаў, навучэнцаў школ, тэхнікумаў. Уявіце: толькі за 2009 год наведвальнікамі віртуальных музеяў сталі каля 24 тысяч інтэрнэт-карыстальнікаў. Першым са створаных музеяў быў электронны музей "Майстра", прысвечаны народнаму пісьменніку Беларусі Івану Шамякіну. Лагічным працягам электронных музеяў з'яўляецца традыцыйны літаратурны музей.

На пачатковым этапе мы плануем стварэнне экспазіцый, прысвечаных жыццю і творчасці Івана Навуменкі, Івана Шамякіна, Анатоля Грачанікава, Міхася Башлакова. Кожная будзе складацца з архіваў пісьменнікаў, прадметных калекцый, а таксама літаратуры аб іх жыцці і творчасці.

Ужо чакае ў аддзеле краязнаўства сваіх наведвальнікаў першая экспазіцыя, падрыхтаваная да 85-годдзя з дня нараджэння Івана Навуменкі, яна ўключае асабістыя рэчы пісьменніка, ненадрукаваныя рукапісы апошніх гадоў. Асабліва мы ўдзячныя сыну пісьменніка Паўлу за аказаную дапамогу ў падрыхтоўцы экспазіцыі.

На здымках: экспазіцыя, прысвечаная Івану Навуменку; так выглядае электронны музей "Майстра".

# Дакументальная спадчына Віцебшчыны

2009 год для Віцебскай абласной бібліятэкі быў знакавым. 80 год таму, а дакладней 3 студзеня 1929 года, газета "Заря Запада" абвясціла пра адкрыццё ў Віцебску навуковай бібліятэкі, якая з'ўлялася аддзяленнем Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі.

Плануючы мерапрыемствы на 2009 год, калектывы аддзелаў прапанавалі адзначыць свой юбілей значнымі праектамі па стварэнні інфармацыйных рэсурсаў.

Аддзел краязнаўчай літаратуры прапанаваў стварыць электронную калекцыю старадрукаваных кніг пра Віцебскую губерню. Шматлікія карыстальнікі раней былі вымушаны ездзіць у Мінск, Пскоў, Смаленск, каб здабыць якія-небудзь звесткі XVIII — XX стагоддзяў пра Віцебшчыну. Зразумела, такія дакументы ў асноўным знаходзяцца ў фондах НББ. Праца пачалася са складання іх спіса і перамоў з супрацоўнікамі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Частку калекцыі мы атрымалі ўжо ў сярэдзіне года, а напрыканцы, у снежні, да нас паступілі асноўныя "выданні" калекцыі, якая зараз налічвае больш як 300 дакументаў аб'ёмам 55 тысяч лістоў.

Цяпер кожны жадаючы мае магчымасць знайсці інфармацыю, якая яго цікавіць. Супрацоўнікі аддзела аўтаматызацыі зрабілі зручным пошук дакументаў, маюць магчымасць іх раздрукаваць. А калі ўзнікне якое пытанне — хутка дапаможа дзяжурны бібліёграф, які заўсёды побач. Спіс усіх матэрыялаў калекцыі размешчаны на сайце бібліятэкі ў раздзеле "Праекты" — "Віцебшчына: дакументальная спадчына".

Аляксандр СЁМКІН,
дырэктар Віцебскай абласной бібліятэкі імя У.І.Леніна

# Бібліятэка? Майстэрня!

Бібліятэка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў вылучаецца з шэрага бібліятэк ВНУ тым, што абслугоўвае яна патрэбы не звычайнага студэнта, а будучага прафесіянала-бібліятэкара. Пра асаблівасці працы гэтай незвычайнай бібліятэкі нам расказала яе дырэктар Аксана Валодзіна.



— Універсітэт культуры і мастацтваў ажыццяўляе падрыхтоўку спецыялістаў-бібліятэкараў, таму бібліятэку гэтай ВНУ можна назваць "бібліятэкай для бібліятэкараў". У чым, Аксана Барысаўна, асаблівасці дзейнасці такой бібліятэкі?

— У нашай бібліятэцы студэнты розных курсаў штогод праходзяць практыку, тут яны пацвярджаюць тэарэтычныя веды, атрыманыя ў ходзе навучання, а таксама набываюць уменні і навыкі, якія ім будуць неабходныя ў будучай прафесійнай дзейнасці. Яны навучаюцца амаль усім тэхналогіям. Наша бібліятэка не толькі імкнецца падтрымліваць традыцыйныя формы працы, але і актыўна ўкараняе новыя напрацоўкі для таго, каб студэнты маглі навучыцца працаваць з найноўшымі тэхналогіямі ў галіне збору, захоўвання, перадачы інфармацыі. Гэта перш за ўсё праца з рэсурсамі аддаленага доступу іншых бібліятэк, праца з Інтэрнетам, з навуковымі рэсурсамі буйнейшых электронных выдавецтваў свету.

— Якія ўмовы павінны выконвацца для таго, каб бібліятэка стала для студэнтаў факультэта дакументна-інфармацыйных камунікацый сапраўднай лабараторыяй прафесійнага майстэрства?

— Па-першае, разнастайнасць і дастатковы склад матэрыяльнай базы. Менавіта ад яе залежыць тое, як бібліятэка пазіцыяніруе сябе ў прафесійнай сферы. Па-другое, адпаведнасць кампетэнтнасці штату бібліятэкі ўзроўню сучаснай бібліятэчнай навукі і практыкі. А гэты ўзровень дастаткова высокі: бібліятэчная навука абапіраецца не толькі на свае напрацоўкі, але і на міжнародны вопыт. Па-трэцяе, пастаяннае ўзбагачэнне фондаў новымі дакументамі, рэсурсамі. Выкананне гэтых умоў дазваляе бібліятэцы быць не толькі сховішчам, але і лабараторыяй прафесійнага майстэрства.

— Сучасны студэнт універсітэта культуры і мастацтваў прыходзіць у бібліятэку толькі па вучэбную літаратуру? Ці запатрабаваная ў студэнтаў беларуская мастацкая літаратура?

— Існуе патрэба і ў мастацкай літаратуры. Беларуская літаратура ўваходзіць у праграму вывучэння па некаторых дысцыплінах. Таму яна карыстаецца попытам. І ў гэтым працэсе больш важную ролю адыгрывае цеснае супрацоўніцтва бібліятэкі з кафедрай беларускай філалогіі і сучаснай літаратуры нашага універсітэта. Гэта перш за ўсё класіка, якая ўключаецца ў спісы для вывучэння. З задавальненнем студэнты звяртаюцца і да твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў, пра якія яны даведваюцца са старонак беларускай літаратурнай перыёдыкі (мы выпісваем увесь спектр літаратурных перыядычных выданняў і стараемся папулярызаваць іх сярод нашых студэнтаў) і на шматлікіх літаратурных мерапрыемствах, што праводзіць наша бібліятэка. Не магу пахваліцца тым, што мы набываем усе навінкі беларускай літаратуры (спецыфіка ВНУ іншая), але па магчымасці стараемся папаўняць фонды і беларускімі кніжнымі навінкамі, што адпавядаюць пэўным крытэрыям: станоўчым водгукі крытыкаў, наяўнасць твора ў вучэбнай праграме. Такой літаратурай мы забяспечваем не толькі нашых чытачоў, але і перадаём частку кніжных фондаў у бібліятэкі інтэрнатаў, каб студэнты ў любы час маглі іх чытаць. Адным з аспектаў дзейнасці нашай бібліятэкі з'яўляецца папулярызацыя беларускай мовы і літаратуры. Прыкладам працы ў гэтым накірунку можа служыць акцыя, што прайшла ў 2007 годзе, дзякуючы беларускім выдавецтвам. Невялікая бібліятэчка (каля 800 асобнікаў) кніг сучасных беларускіх аўтараў была перададзена ў дар Нацыянальнай дзіцячай бібліятэцы Арменіі. Справа ў тым, што прадстаўнікі беларускай дыяспары Арменіі сёння адчуваюць недахоп кніг на роднай мове, і іх дзеці не маюць магчымасці вывучаць беларускую мову і знаёміцца з сучаснай літаратурай Беларусі. Існаванне не такой бібліятэчкі ў Арменіі дасць магчымасць нашым суайчыннікам прачытаць новыя кнігі беларускіх аўтараў.

— Бібліятэкі краіны сёння актыўна рэалізоўваюць шмат праектаў у розных кірунках…

— Праектная дзейнасць — важны аспект працы і нашай бібліятэкі, бо гэта дазваляе вырашыць шмат актуальных пытанняў за непрацяглы прамежак часу. Задумак у нас шмат: і рэалізаваных, і тых, што яшчэ рэалізоўваюцца, і запланаваных. З тых, якія зараз рэалізуюцца, магу адзначыць праект "Геаграфія традыцыйнага абрадавага фальклору беларусаў у кантэксце сусветнай культурнай спадчыны". На яго рэалізацыю мы атрымалі грант Пасольскага фонду ЗША па захаванні культурнай спадчыны (ён фінансуе многія нацыянальныя праграмы ў розных краінах свету). Праца ў гэтым накірунку доўжыцца ўжо тры гады. Праект блізіцца да завяршэння, і ў хуткім часе яго вынікі будуць шырока прадстаўлены публіцы. Студэнты і выкладчыкі нашага універсітэта складаюць невялікі банк дадзеных нематэрыяльнай спадчыны Беларусі: падарожнічаюць па розных кутках краіны, дзе робяць аўдыё- і відэазапісы традыцыйных беларускіх абрадавых песень, танцаў, фатаграфуюць абрадавыя месцы і прадметы. Гэты працэс суправаджаецца і аналізам спадчыны, што дазваляе прасачыць механізм фарміравання нацыянальнай культуры.

У ліку апошніх невялікіх праектаў можна назваць выданне кніг, прысвечаных рашэнню актуальных праблем і з нагоды юбілейных дат. 2010 год аб'яўлены ЮНЕСКА годам вялікага польскага кампазітара Фрэдэрыка Шапэна. З гэтай нагоды наша бібліятэка вырашыла падрыхтаваць выданне, прымеркаванае да юбілею кампазітара, — біябібліяграфічны ўказальнік усёй літаратуры пра Ф. Шапэна і яго творчасць, што знаходзіцца ў фондах самых буйных бібліятэк горада Мінска. Такое выданне можа быць карысным і бібліятэкарам, і карыстальнікам бібліятэк, і музыкантам, і спецыялістам.

Не магу не адзначыць яшчэ адзін вельмі карысны для нашых студэнтаў і бібліятэкараў праект па выданні серыі кніг "Прафесіяналам бібліятэчнай справы", які мы рэалізоўваем разам з выдавецтвам "Новое знание". Мы ўжо выдалі пяць кніг, прысвечаных актуальным пытанням бібліятэчнай справы. Дарэчы, гэта серыя кніг у верасні 2009 года стала пераможцам першага расійскага міжрэгіянальнага конкурсу "Университетская книга — Золотое кольцо" ў намінацыі "Лепшы выдавецкі праект". Конкурс быў арганізаваны выдавецкім домам "Университетская книга" і Міжнароднай акадэміяй бізнесу і новых тэхналогій, пры падтрымцы Федэральнага агенцтва друку і масавых камунікацый і Федэральнага агенцтва адукацыі Расійскай Федэрацыі.

Ужо некалькі год мы рыхтуем і праводзім мерапрыемствы ў галіне нефармальнай прафесійнай дадатковай адукацыі. Адным з такіх мерапрыемстваў стаў праект "Міжнародная школа дырэктараў бібліятэк: мастацтва рэзультатыўнага кіравання сучаснай бібліятэкай". Ён праводзіцца сумесна з Беларускай бібліятэчнай асацыяцыяй, а ў гэтым годзе мы будзем супрацоўнічаць яшчэ і з бібліятэкай Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У якасці "трэнераў" запрашаюцца буйныя спецыялісты з Расіі, Украіны, Германіі, ЗША і інш. Тэматыка заняткаў штогод змяняецца адпаведна ўзроўню спецыялістаў. У гэтым годзе працу школы плануем прысвяціць праектнай дзейнасці бібліятэк. Трэба адзначыць, што ў межах праекта праводзяцца адкрытыя публічныя лекцыі вядучых спецыялістаў і вучоных у галіне бібліятэчнай справы для студэнтаў, выкладчыкаў універсітэта і бібліятэкараў рэспублікі. Рэалізацыя гэтага праекта будзе працягвацца не толькі ў межах Беларусі. Мы ўжо маем заяўкі ад бібліятэк іншых краін: Расіі, Украіны, Казахстана, Грузіі, Арменіі, таму ў наступным годзе плануем правесці школу дырэктараў бібліятэк краін СНД.

— Напэўна, і самім супрацоўнікам бібліятэкі даводзіцца ўвесь час вучыцца, "трымаць марку", каб быць для студэнтаў прыкладам паспяховай прафесійнай дзейнасці?

— Калектыў нашай бібліятэкі актыўна ўдзельнічае ў бібліятэчных канферэнцыях, праходзіць стажыроўкі за мяжой (штогод Бібліятэчная асацыяцыя Беларусі арганізоўвае прафесійны тур па бібліятэках Еўропы). Нашы супрацоўнікі становяцца больш адукаванымі, у выніку ў спрыяльным становішчы аказваецца і наш чытач, і адпаведна, будучы бібліятэкар-спецыяліст.

Гутарыла Марына ВЕСЯЛУХА
Фота аўтара

## Кніжная паліца



У выдавецтве "Харвест" у "Бібліятэцы Саюза пісьменнікаў Беларусі" выйшаў салідны том выбраных паэтычных твораў Андрэя СКАРЫНКІНА "Чёрный аист". Гэта шасцацаты вершаваны зборнік паэта. Яго склалі лепшыя творы, напісаныя за трыццаць гадоў творчай працы. Сярод буйных жанраў — раманы ў вершах "Совраснана", "Слепец", паэма "Подкидыш", навела ў вершах "Полёт над блудницей", апавяданне ў вершах "Окольцованный зверь", ліра-эпічны дзённік "Последний герой". У кнізе ёсць фота і пашыраная біяграфія паэта.



У РВУ "Літаратура і Мастацтва" выдадзена кніга Уладзіміра ВАСІЛЕНКА "Улица До свидания". Героі аповесцей аўтара — моладзь 70-х — 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Гэта пакаленне сённяшніх "пяцідзесяцігадовых", якія азіраюцца на сваё юнацтва і спрабуюць аднавіць сыходзячую натуру, тым самым як бы зближаючы рэальнасць з плынню свядомасці.



У Магілёве пабачыў свет зборнік гумару Міхаіла УЛАСЕНКІ "Базар житейской суеты". Гэта выданне вядомага паэта з Магілёўшчыны складаецца з даволі шырокага па аб'ёме палатна напісаных ім па-руску чатырохрадкоўяў, эпіграм, міні-пародый, прыпевак (на беларускай мове), сатырычнай паэмы "Талисман" і многіх іншых рознажанравых тэкстаў гумарыстычнага характару. Пра пэўны прафесійны ўзровень кнігі гаворыць і прадмова аднаго са старэйшын беларускага цэху гумарыстаў Георгія Юрчанкі.



У РВУ "Літаратура і Мастацтва" выйшла кніга Ірыны МАСЛЯНІЦЫНАЙ і Міколы БАГАДЗЯЖА "Беларусь далетапісная". Гэта пераклады "Велесавай кнігі" (так далі ўмоўную назву збору тэкстаў-прапаведзяў язычніцкіх жрацоў, што датуюцца VIII — IX стагоддзямі. Пераклады зроблены з украінскай мовы з кнігі В. і Ю. Гнацюкоў, якая выйшла ў 2006 годзе. Некаторыя з тэкстаў беларускія аўтары пераклалі на свой лад. Выданне арыгінальнае, для шырокага чытацкага кола.



У Гродне асобнай кніжкай выйшла арыгінальная паэма Тамары КАШАВОЙ "Каханне ваўкалака". Гэта казачная легенда пра рамантычнае каханне юнай княгіні і маладога лоўчага, заснаваная на гістарычных паданнях мясцовага краю і майстравіта вытканая таленавітым аўтарам. Твор як бы тлумачыць і назву самога горада Ваўкавыска, дзе жыве паэтэса.



У Баранавічах (дзякуючы грамадскай арганізацыя "Творчае згуртаванне "Святліца") пабачыў свет зборнік вершаў трагічна загінуўшага (1999) мясцовага паэта Анатоля СТАНКЕВІЧА "Скрыжалі дабрыні". Гэта выданне прымеркавана сябрамі і калегамі аўтара да дзесяцігоддзя з дня яго смерці. Усе выбраныя вершы ў зборніку — вядомыя і знойдзеныя ў хатнім архіве – напісаныя на беларускай мове напрыканцы мінулага стагоддзя. Улічваючы, што доўгі час пісаў на рускай мове, такі ход прыхільнікаў і спадчыннікаў яго творчасці выклікае павагу, і, няма сумневу, атрымае ўдзячны чытацкі водгук. Прадмова А. Бакача. Рэдактар І. Лагвіновіч.

## З рэдакцыйнай пошты

# Плагіят па дамоўленасці

Даўно ўжо не была на пасяджэнні раённага літаратурнага аб'яднання. Але неяк вырашыла наведаць. І тут, як гром з яснага неба, адзін паэт кажа:

— Нядаўна звярнуўся да мяне мой сябар. Яго сыну задалі ў школе напісаць верш, вось я і дапамог, дакладней, напісаў за яго. Паслухайце, што атрымалася, — і ўсе прысутныя пачулі напісаны за вучня радкі.

Цяжка перадаць словамі, што я адчувала, калі слухала гэты верш: ён мне быў да болю знаёмы. Успомніла: некалькі тыдняў таму давялося быць на прэзентацыі кнігі вершаў, напісаных школьнікамі, і чуць гэты твор з вуснаў сябравага сына.

Тут жа высветлілася, што гэты паэт не адзінокі ў сваёй гуманітарнай дапамозе вучням. Адна жанчына падарыла пляменніцы верш, які таксама надрукаваны ў той кнізе.

Нарэшце, я не вытрывала і звярнулася да прысутных:

— Што ж вы робіце? Ці ж гэта можна? Вы дорыце свае вершы іншым, але і свайго аўтарства з іх не здымаеце.

Тады адна з "добрых цётак" кажа:

— Дык я яго выкрасла са сваіх твораў. Няхай дзяўчынка карыстаецца.

— Прабачце, але мы з вамі не ў дзіцячым садку, каб дзяліцца цацкамі з сябрамі. Больш за тое, вы самі вучыце дзяцей падманваць, і не толькі ў паэзіі. Потым не здзіўляйцеся, калі гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі, ужо не запытаўшыся ў вас, возьмуць вашыя вершы і надрукуюць як свае.

Дарэчы, раз-пораз у дзіцячым часопісе, у рэдакцыі якога я працую, аб'яўляюцца конкурсы на лепшае апавяданне, крыжаванку і г.д. Дык вось, тройчы дзеці дасылалі творы, перапісаныя з нашага ж выдання, але ўжо пад сваім імем. Аднойчы было апавяданне з вядомай кнігі. Дык гэта тое, што высветлілася. А колькі яшчэ такіх плагіятараў, якія не выкрыліся?

Я думала: ну, гэта ж дзеці. Прывыклі спісваць адно ў аднаго дамашнія работы, вось і тут — па аналогіі. Але ж, аказваецца, мы, дарослыя людзі, часам падштурхоўваем іх да гэтага. Вось і атрымліваецца нейкі плагіят па дамоўленасці. З аднаго боку, верш не мой, а з другога — аўтар сам аддаў.

Хацелася б пачуць, што мяркуюць на гэты конт іншыя пісьменнікі і паэты. Як змагацца з гэтай з'явай? Як выяўляць такіх плагіятараў?

Мая прапанова такая. Было б добра, каб настаўнікі, якія праводзяць падобныя конкурсы, запрашалі ў журы хаця б мясцовых аўтараў. Зразумела, гэта не вырашыць праблемы, але ўсё ж такі скароціць колькасць такіх учынкаў. Я наўмысна не называю раён, у якім гэта адбылося. Думаю, што такіх прыкладаў хапае.

Наталля КАНДРАШУК

№ 16 23 красавіка 2010 г. ЛіМ

Распачатая на старонках "ЛіМа" дыскусія пра становішча і перспектывы развіцця беларускай фантастычнай літаратуры скончылася не зусім лагічным шматкроп'ем. У працяг недагаворанага мы паспрабуем цягам некалькіх нумароў пазнаёміць чытачоў з разнастайным жанрава-відавым спектрам айчыннай фантастыкі, у галерыі якога знаходзіцца вялікая колькасць твораў. Аўтар праекта Марына Аммон пачынае з артыкула, які знаёміць з экатопіяй.

# У чаканні апакаліпсісу, альбо Надзённыя клопаты беларускай экатопіі

Любая мяжа, якую перасякае чалавецтва, мае сэнс толькі пры яе суаднесенасці з будучымі вынікамі гэтага працэсу. У сённяшнім сцыентысцка арыентаваным свеце больш-менш аб'ектыўнае вывучэнне асноўных тэндэнцый і перспектыў развіцця соцыуму забяспечвае футуралогія. Грамадства заблытаецца ў бяздушнай сістэме падаўлення індывідуальнага, адмовіцца ад агульнапрынятых нормаў маралі, распачне войны не дзеля атрымання перавагі адной дзяржавы над другой, а з мэтай біялагічнага выцяснення пэўнай папуляцыі людзей для выжывання іншай — вось невялікі пералік пазбаўленых аптымізму карцін будучыні.

Да праблемы прагназавання магчымых вынікаў разгортвання падзей сучаснасці звяртаецца і такі фантастычны жанр, як экатопія. Яго з'яўленне ў беларускім мастацтве слова ў многім абумоўлена канцэптуальным асэнсаваннем пісьменнікамі вобраза гіпатэтычнага "заўтра" праз прызму апакаліптычнага светаадчування як неад'емнага кампанента эпохі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.

Адметнай у дадзеным кантэксце з'яўляецца аповесць А. Адамовіча "Апошняя пастараль", на старонках якой разгортваецца непрыглядная карціна апошніх дзён жыцця чалавечай цывілізацыі. Ідылічнае існаванне галоўных герояў на ўлонні прыроды супрацьпастаўлена ў творы хаатычнаму, поўнаму агрэсіі урбанізаванаму свету.

У прасторы экатопіі аўтар мадэлюе гарманічнае жыццё людзей з натурай у выглядзе ізаляванага вострава, адзінай ацалелай пасля ядзернай катастрофы часткі сушы. Паміж дадзенымі персанажамі не існуе дзяржаўных межаў і маёмаснай няроўнасці — з гэтага міні-грамадства поўнасцю зняты атрыбуты сучаснасці з характэрным для яе ўскладненнем сацыяльных адносін. Людзі, максімальна набліжаныя да сваёй сутнасці, паводзяць сябе найбольш натуральна. Доўгія разважанні-спрэчкі герояў наконт прычын дэградацыі чалавечай цывілізацыі, спробы асэнсаваць і пераадолець тыя праблемы, якія сталі прычынай немагчымасці дасягнення міру ва ўсім свеце скончыліся… дуэллю двух мужчын за права валодаць жанчынай.

Так, апошняя надзея чалавецтва на жыццё, магчымасць напісання на старонках напаўсцёртага палімпсеста новай, пазбаўленай войнаў і разбурэнняў, гісторыі не атрымала свайго здзяйснення.

Пытанне аб захаванні прыроднага балансу на Зямлі раскрываецца і ў апавяданні А. Мінкіна "Карова", у якім пісьменнік звяртае ўвагу чытача на патэнцыяльныя вынікі імкнення да максімальнага задавальнення людзьмі сваіх матэрыяльных патрэб.

Сапраўды, сітуацыя ў створаным аўтарам свеце дасягнула крытычнага ўзроўню: Зямля выступае ў творы як суцэльны сметнік, без якіх-небудзь канкрэтных праяў жывёльнага ці расліннага свету. Бясконцым пірамідам бруду супрацьпастаўлена ў творы лугавіна з зялёнай травой і свежым паветрам, што носіць казачную назву Шамбала. Дадзенае паняцце, паводле будыйскай філасофіі, нярэдка звязваецца са спецыфічным станам чалавечай душы, які можа быць ахарактарызаваны як адзінства асобы і Бога. Так, герой А. Мінкіна, знайшоўшы невялікі астравок некранутай цывілізацыяй прыроды, адчувае своеасаблівае прасвятленне, ачышчэнне душы ад ганебных думак і памкненняў.

З'яўленне экатопіі ў беларускай літаратуры ў многім стымулявана наяўнасцю фундаментальнага вектара грамадскай думкі, непарыўна звязанага з чарнобыльскім светаадчуваннем. Таму адной з асаблівасцей айчыннай рэалістычнай прозы стала перанясенне сітуацыі перажывання людзьмі трагедыі развітання з жыццядайнымі стыхіямі, атручанымі радыяцыяй, — на прастору фантастычнай рэальнасці.

Адметнай сваёй скіраванасцю ў бок праблемы асэнсавання Чарнобыля як з'явы планетарнага парадку і канкрэтнага яе вырашэння ў беларускай культурнай прасторы з'яўляецца творчасць В. Казько. У тэкстах пісьменніка на экалагічную тэму прырода нярэдка паўстае цэласным і самастойным арганізмам, сакральным пачаткам усяго жывога на Зямлі, са знішчэннем якога прэтэндуе на канчатковую анігіляцыю і само чалавецтва.

Так, матывы апакаліпсісу гучаць у аповесці аўтара "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел". Спецыфічным увасабленнем дэградацыі людзей, адлюстраваннем парадаксальнага імкнення грамадства да поўнага знікнення з твару Зямлі ў творы з'яўляецца жыццё калгаса "Верны шлях". Ідэя страты чалавекам духоўных арыенціраў узмацняецца ў аповесці агульным адчуваннем бесперспектыўнасці ўсялякіх намаганняў па аднаўленні забруджанай нуклідамі тэрыторыі. Людзі-здані, прырода-нябожчыца, атамныя Адам і Ева з'яўляюцца ў творы выразнымі сімваламі новага, постчарнобыльскага свету: "Дзед каля мёртвай яблыні з нежывымі яблыкамі аберагаў ад мёртвых неспажыўных гусей таксама мёртвае атрутнае жыта, старая варыла варэнне з тых мёртвых яблык…".

Агрэсіўнае наступства тэхнагеннай цывілізацыі супрацьпастаўляецца ў тэксце паэтызацыі першабытнай, некранутай чалавекам прыроды, якая паказана ў аповесці адзіным сродкам супраціву вар'яцтву. Паказальнай у дадзеным плане можа служыць сцэна пахавання Лазарам Кагановічам свайго мезенца, якая з'яўляецца ў тэксце сімвалам яднання чалавека і лесу.

Матыў сумнення ў магчымасці шчырага асэнсавання кожным асобным індывідам абранай мадэлі развіцця цывілізацыі яднае твор В. Казько з раманам Л. Дайнекі "Чалавек з брыльянтавым сэрцам". У апошнім тэксце своеасаблівым сімвалам пошуку людзьмі сваіх каранёў, дасягнення адзінства з прыродай выступае Зялёная Постаць. Знайсці яе — значыць зразумець памылкі мінулага, стаць на шлях духоўнага самаўдасканалення, што, дарэчы, і робіць адзін з герояў Клён Дубровіч.

У рамане таксама прадстаўлены альтэрнатыўны варыянт асэнсавання чалавецтвам згаданай праблемы. Так, у творы двайніком Зямлі з'яўляецца цывілізацыя Сіняй Зоркі, якой таксама характэрны эгаізм да навакольнага свету. Пісьменнік сутыкае сваіх персанажаў з соцыумам, які ставіцца да іх так, як і яны ставіліся да іншых жывых істот. Эксперымент дзеля эксперыменту — галоўная мэта іншапланецян. Такое грамадства падпарадкоўвае ўсё сваім інтарэсам. Менавіта сустрэча з ёю і з'яўляецца штуршком да пераацэнкі героямі ролі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ў працэсе імкнення асобы да захавання ўласнага дабрабыту і спакою.

Карціну тэхнагеннай экалагічнай катастрофы стварае ў сваёй аповесці "Блуканні па іншасвеце" Я. Сіпакоў. Радзім Яснавец, створаны аўтарам персанаж, трапляе ў паралельную рэальнасць і вымушаны наведаць цэлы шэраг невядомых яму краін. І першым месцам, у якое ён трапляе, становіцца зямля, спустошаная чалавекам. Прычынай гэтаму з'яўляецца немэтазгоднае прыродакарыстанне. Каб дабіцца вялікіх ураджаяў, атрымаць сінтэтычныя матэрыялы для гаспадарчых патрэб, людзі шырока выкарыстоўвалі ўсё новыя і новыя здабыткі навукі. Таксічныя адходы вытворчасці выліваліся ў рэкі і азёры, траплялі ў паветра, што хутка прывяло да экалагічнай катастрофы.

Чалавек у аповесці Я. Сіпакова выступае ў якасці асобы, замкнёнай у сваім уяўным свеце, заснаваным на нематываванай агрэсіі ў дачыненні да прадстаўнікоў іншага кола інтарэсаў. Нянавісць не толькі раз'яднала людзей, але і паралізавала іх творчыя здольнасці.

Відавочна, што беларуская экатопія пры ўсім сваім імкненні стварыць аптымальную мадэль суіснавання чалавека і прыроды цесна пераплятаецца з апакаліптычнымі і постапакаліптычнымі матывамі. Прычыны дадзенага скептычнага падыходу, на думку многіх пісьменнікаў, палягаюць у кожнадзённых праблемах сучаснага ім грамадства. І галоўнае месца сярод іх займае пытанне рацыянальнага выкарыстання тэхнічных сродкаў, якія, у сваю чаргу, выступаюць натуральным спараджэннем і арганічным працягам самой сутнасці чалавека, найбольш дакладным адлюстраваннем яго адносін да свету, дзе тэхніка з'яўляецца толькі сродкам задавальнення, карыстаючыся словамі М. Хайдэгера, "запатрабавання ў спажыванні".

Марына АММОН



Малюнак з інтэрнэт-сайта

# «Ты выдыхся, а дух трывае…»

Так атрымалася, што маё першае знаёмства з пісьменнікам Федарэнкам адбылося праз "Вёску". Даўно тое было, але добра памятаю супярэчлівасць яе ўспрымання і адначасова прадчуванне значнасці такой з'явы ў нашай літаратуры, як Федарэнка. Доўга не магла вызначыць для сябе сутнасць гэтага феномена. Дапамагла "інтэрпрэтацыя", згаданая ў "Мяжы": "белораша… Тшэхофф".

Ні белорашн, ні нават рашн, ні яшчэ чыйгосьці Чэхава зноў не будзе. Дый і не патрэбна. А вось ад "чэхаўскага сіндрому" не адмовіўся б, мяркую ніводзін самавіты творца, які не пячэ блінцы кшталту данцоўскіх, а "капае рэчышча ўласнай ракі".

Прызнайма, што сярэднестатыстычны чытач, разгортваючы кнігу, разлічвае на тое, што, захапіўшыся праблемамі герояў, забудзецца на ўласныя. Дый на мярзотнае ў сабе любасным таксама…

Парадокс у тым, што чытач Федарэнкі, свабодны ад яго дыктату, міжволі вымушаны рэфлексаваць, а не рэлаксаваць. Пісьменнік-"рэвізор" пазбаўляе чытача спакусы бачыць тое, што хацелася б бачыць. Заадно пазбаўляе яго пазіцыі староннягa назіральніка чужых "рэвізій"…

Урэшце, і "Мяжа" не толькі пра тое, што яе герой "выдыхся, а дух трывае".

Падазраю, што аўтар так распрануўся зусім не дзеля таго, каб абвясціць нам пра свой творчы крызіс.

Мяркую, што і не дзеля таго, каб справакаваць нядобразычліўцаў і зайздроснікаў на "шчырасць" кшталту "вось ён і выпісаўся". Агонь на сябе выклікаюць дзеля нейкай іншай мэты…

Дарэчы, пра "агонь". Ад крытыка нельга патрабаваць лаяльнасці і талерантнасці. Крытык — селекцыянер і ў пэўным сэнсе "чалавек с ружжом". І тое тычыцца да крытыка ўвогуле: нехта ж павінен "адсочваць" графаманаў і вытворцаў трэш-літаратуры ці хаця б імкнуцца ўплываць на чытацкі густ. Ён, паводле Южыка, "двума словамі і на трох пальцах" павінен даводзіць нам, чытачам, што ёсць дабро, а што кепска ў яго парафіі.

Сёння катэгарычна сцвярджаюць, што і аб'ектывізм не прэрагатыва крытыкі. Ад крытычных артыкулаў так і патыхае сімпатыяй ці наадварот антыпатыяй да аўтара, якія пераносяцца на яго твор. Даводзілася быць сведкай, як зацята змагаюцца з нейкімі ёмістымі, гаваркімі словамі, бо імі, як потым высвятлялася, карыстаюцца антаганісты…

Упэўнена, крытык Сяргей Грышкевіч (ягоны артыкул пра "Мяжу" быў надрукаваны ў №8 "ЛіМа" за 26 лютага 2010 года) і сам не можа не разумець, што федарэнкаўскія ліліпуты дадуць фору многім гуліверам. Але мімаходзь іранічна зазначае: "Аўтар "Сечкі"… У народзе кантэкстуальныя перлы такога кшталту называюць тым, пасля чаго аб'екту насмешкі застаецца толькі "абцякаць"…

Аднак такое — дробязь у параўнанні з праявамі "невменяемости", неадэкватнай рэакцыяй крытыкаў на пэўныя з'явы. У кантэксце гаворкі пра "Мяжу" — рэакцыяй крытыка на … уласнае сцвярджэнне. Так ён робіць катэгарычную выснову, што "Мяжа" — усяго толькі аўтарская спроба самааналізу, прычым спроба няўдалая. Здавалася б, тут бы і спыніцца. Напісанае ўжо і так адпавядае патрабаванню крапівінскага Караўкіна да Дабрыяна: "Напішы, каб моцна было!" У крытыка атрымалася "моцна". Дык не! Пасля гэтага: "Маё віншаванне!"

Помніцца, у дзяцінстве мяне вучылі і падавалі прыклад, як належыць рэагаваць на чыесьці няўдачы, — шчыра паспачуваць чалавеку. І тут да месца былі б: "на жаль", "на вялікі жаль"… Перапрашаю за "лікбез": віншаванне стасуецца з удачай, шанцам, адкрыццём — з плёнам. Крытыкі не абцяжарваюць сябе клопатам адпаведнасці. Нават крылоўскі персанаж перад тым, як з'есці Ягня, імкнуўся свайму "дзейству" "надаць хоць бы законны від і толк". Сучасныя крытыкі і гэтым сябе не напружваюць.

Андрэю Федарэнку — маё шчырае віншаванне. Канкрэтную яго "спробу", як і ўсе іншыя, няўдачай не лічу. Варта здзяйсняць спробу за спробай, нават калі не ўпэўнены ў яе выніковасці. Наперакор усяму, каціць пракляты камень на вяршыню гары. У літаратуры тое, паводле А. Камю, называецца не сізіфавай працай, а подзвігам Сізіфа.

Марыя ВЕРЦІХОЎСКАЯ




Заўсёды, пры знаёмстве з творчасцю Сяргея Давідовіча, быццам нанава адкрываю для сябе выбраныя старонкі ягонага лёсу. Адбываецца гэта нават тады, калі аўтар не згадвае канкрэтных рэалій свайго жыцця. Тым не менш прысутнасць С. Давідовіча відавочная, бо апроч усяго іншага ёсць яшчэ тое, што патрапляе пад вызначэнне "ўнутраная біяграфія", якая выяўляе сутнасць чалавека, сведчыць аб ягоных памкненнях, поглядах. Калі ж мець на ўвазе таго, хто прысвяціў сябе пэўнаму віду творчасці, то гэта яшчэ і духоўная напоўненасць таго свету, што нараджаецца дзякуючы таленту.

# У царстве хараства

Талент жа С.Давідовіча, як вядома, шматгранны. С.Давідовіч — і мастак, і празаік, але перадусім — ён паэт. Пры тым не толькі таму, што паспяхова абжывае жанры верша, паэмы, а і паэт па складзе сваёй душы, па светаўспрыманні. У гэтым лішні раз упэўніўся, калі пазнаёміўся з яго кнігай "Зямлі святая памяць", што нядаўна пабачыла свет дзякуючы РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Ёсць, праўда, у гэтым томіку, які лёгка ўзяць у кішэню, і творы, якія чытаў раней (з імі знаёмы ці не ўсе, хто ўважліва сочыць за творчасцю гэтага, несумненна, таленавітага аўтара), але пры перачытванні яны не страчваюць сваёй навізны, а на тое, бадай, дзве істотныя прычыны.

Па-першае, кожная кніга, калі яна ўдала скампанавана (а гэта ў "Зямлі святой памяці" — вызначальная рыса), нават тыя творы, што публікаваліся ў папярэдніх зборніках, суадносна з іншымі, атрымліваюць па сутнасці новае гучанне, новую, калі можна так сказаць, акрасу.

Па-другое, што таксама немалаважна, паэзія – на тое яна і паэзія, каб кожным разам гучаць па-свойму. У залежнасці ад чытацкай настраёвасці. У залежнасці ад таго, наколькі ёсць гэтая патрэба сустрэцца з "госцяй нябеснай", каб зусім іншымі, чым дагэтуль, вачыма зірнуць на акаляючы свет, адкрываючы для сябе ягонае хараство нават у тым, што, здавалася б, у чымсьці знаёмае.

Яна не можа ўспрымацца абыякава, калі гэта тое, да чаго ніколі не стоміцца далучацца душа, бо звязана з жыццёвымі каранямі кожнага з нас. Няважна, як называюцца нашы родныя мясціны — Случчына альбо Нясвіжчына яны для нас тое, што выказаў С. Давідовіч у вершы "Зямлі святая памяць", які і даў назву гэтай кнізе:

Лагойскі край, зямля бацькоў,
Святая памяць землякоў —
Што сэрцу болей трэба!
Мне гэта крылы надае,
Узрушвае гады мае,
Нясе мяне да неба.

Я плынню стаў жыцця ракі,
Часцінкай вашай, землякі,
Стаў рэхам вашай мовы.
Наш лёс сумесна выспяваў,
Адзінай марай спавіваў —
Сустрэць світанак новы.

Яшчэ адным прызнаннем у любові да зямлі маленства гучыць завяршальная страфа твора: "І мой, да болю родны кут, // І новы па жыцці маршрут // Мяне няспынна вабяць. // Я з часам знікну назаўжды — // Не замятай мае сляды, // Зямлі святая памяць". Усё гэта не толькі паэтава, а ў нечым і тваё асабістае. Асабліва калі ты гэтаксама, як і С. Давідовіч, нарадзіўся ў вёсцы, і, хоць даўно стаў, кажучы словамі Міхася Стральцова, "гараджанінам першага пакалення", усё адно не растраціў у сабе патрэбы далучацца да прыроды, а праз яе прыгажосць, адчуваць і хараство усяго жыцця — як адну з найвялікшых таямніц на зямлі.

Сімптаматычна назва твора С. Давідовіча "Не я складаю вершы". За крыху гумарыстычным пачаткам "Я, пэўна, ў плагіяце самы першы, // Але маўчаць сумленне не дае. // Сазнаюся — не я складаю вершы, // Якія ў свет выношу, як свае" хаваецца сама ісціна, бо і на самай справе нішто б у яго не магло напісацца "без аўтараў, хто талентам — сам Бог". А гэта зноў жа сама прырода ў яе разнастайных праяўленнях.

Бяда некаторых нашых паэтаў у тым, што яны не жадаюць у такой повязі сваёй творчасці з паўсядзённасцю прызнаца, хоць, калі быць шчырым, асобныя з іх пры ўсім сваім жаданні гэтага не могуць зрабіць, бо тое, што пішацца імі, вельмі ж далёкае ад рэальнасці. Калі ж чытаеш С. Давідовіча, то быццам увачавідку бачыш тое, што ён расказвае. Інакш і быць не можа, бо пастаянна ў яго творчасці відавочна наяўнасць гэтых "сааўтараў". Таму і ўсё хораша, непасрэдна, а лепшыя радкі так і свецяцца сваёй нерушанасцю.

Хоць бы гэтыя з ужо згаданага верша:

Застыў паўмесяц, як агарак-свечка,
Задумаўся аб нечым нібы спіць.
Пасерабрыла сваю песню рэчка
І між каменняў ціхенька звініць.

Гэткі ж шчыры, натуральны — на адным дыханні — працяг:

А што сказаць пра дзеяслоў зімовы!
Яго я тайну разгадаць паспеў.
У ім — крыштальна-казачныя словы,
І сумны, і пагрозлівы напеў.

Сапраўды ўжо: "вось так пішу — падслухаю, падгледжу, // Настрой адчую, зазірну ў душу. // Я ад сваіх "сааўтараў" залежу, // Яны складаюць мне, а я – пішу". Дарэчы, у кнізе "Зямлі святая памяць" ёсць паэма з характэрнай назвай "Паэт". Герой гэтага лірычнага аповеда дзядуля, які нямала пражыў, цяпер, на схіле гадоў са шкадаваннем прызнаецца: "Чаму ж я не паэт? // Я ж столькі перажыў і перабачыў". Ягоная жонка, пачуўшы гэта, паставілася да ўсяго скептычна: "Які з цябе паэт? Курам забава!".

Аднак пачынае стары згадваць перажытыя гады, і атрымліваецца, што ён увесь гэты час у душы ўсё ж заставаўся паэтам. Ва ўсялякім разе з той часіны, калі стаў дарослым, а потым напаткаў сваю будучую жонку. Дый пазней жыла ў ягонай душы цяга да прыгажосці ў яе паўсядзённым праяўленні: "Я чую, як кветкі між сабой гавораць. // Я з лесам мог на роўных гаманіць, // Я чую, як ноччу зорачка звініць — // Адна, другая — і усе пацíху. // Мне знічка паспявала перадаць, // Што разам з ёй душа не згарае".

Пасля ўсяго гэтага пачутага з вуснаў свайго гадамі старога, ды душой маладога мужа мусіла бабуля пагадзіцца, што ён і сапраўды "як ёсць паэт!". Глыбокі сэнс закладзены ў паэме, што зместам сваім лішні раз пераконвае ў тым, наколькі паэтычная душа і ў самога аўтара.

Царства пяшчоты і хараства, царства прыгажосці — прастора пражывання лірычнага героя С. Давідовіча. Ён, герой гэты, пастаянна прапісаны ў горадзе, нязменна імкнецца туды, дзе засталося яшчэ цяпло ягоных басых ног. Але гэта не значыць, што яго не турбуе тое, што адбываецца ў свеце – асабліва публіцыстычна-вострымі атрымаліся некаторыя вершы з другой, рускамоўнай часткі кнігі — "Неизбежность". Хоць, бадай, правільней сказаць, што ў большай ступені С. Давідовіча цікавіць тое, што адбываецца ў самім чалавеку.

У гэтым сэнсе шмат гаворыць верш "Глабальнае пацяпленне". Лірычны герой паэта, а найперш ён сам, перакананы, што ёсць пагроза іншага кшталту, пры тым куды больш небяспечная: "Ды цень другой бяды накрыў планету //— Глабальнае пахаладанне душ". Сказанае — сведчанне выразнасці жыццёвай і грамадзянскай пазіцыі аўтара кнігі "Зямлі святая памяць". Але адначасова яно сведчыць і пра тое, наколькі ў паэзіі С. Давідовіча — шырокі спектр тэм, думак, пачуццяў, што лішні раз гаворыць на карысць таго, які ў яе вялікі духоўны патэнцыял.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

## Калонка Міхася ЮЖЫКА

# Праблема арыентацыі



Раней я пісаў пра тое, што беларускую літаратуру, асабліва сучасную, мала чытаюць і дрэнна ведаюць жыхары Беларусі. Што ж, у наш тэлевізійны і інтэрнэтаўскі век гэта не так і дзіўна. А можа, не так і страшна. І нават не вельмі страшна, што пісьменнікі амаль не чытаюць адно аднаго. Тут усё ясна: кожны заняты пісаннем сваіх нятленных твораў, а таму чытаць бяздарнага сабрата — не паважаць сябе геніяльнага. Але вось тое, што крытыкі, якія бяруцца ацэньваць літаратурныя творы, амаль не чытаюць сучасную беларускую літаратуру — гэта, як той казаў, ужо ні ў якія вароты не лезе.

Я даўно назіраю за нашымі крытыкамі ў перыядычных выданнях, сачу за іхнімі выказваннямі на сайтах і інтэрнэт-блогах. І дыягназ несуцяшальны: пераважная большасць спадароў крытыкаў пасрэдна абазнаныя і дрэнна арыентуюцца ў літаратурным працэсе. Па прычыне банальнай: ім лянота чытаць. У лепшым выпадку якісьці крытык уважліва чытае аднаго-двух, максімум пяцярых аўтараў, сваіх улюбёнцаў, тых, пра каго ён пастаянна піша, творчасць якіх абслугоўвае і на імёнах якіх робіць сабе кар'еру. Або чытае толькі тыя літаратурныя творы, што публікуюцца ў выданні, якое друкуе крытычныя опусы самога крытыка. Або чытае, напрыклад, толькі прыватныя выданні, а іншымі зацята пагарджае, бо там друкуюцца пісьменнікі "не таго" саюза, а значыць, там не можа з'явіцца нічога вартага ў прынцыпе. А нехта, наадварот, лічыць сапраўднай літаратурай толькі тое, што з'яўляецца на старонках "Полымя" і "Маладосці", на астатняе пыхліва крывіцца. Смех, дый годзе. Але смяяцца не хочацца. Бо крытык, які не арыентуецца ў літаратурным працэсе, аўтаматычна дэзарыентуе беларускага чытача. А папросту — падманвае.

Даводзілася назіраць такую карціну. Апублікуюць у часопісе аповесць, і тут жа, з гэтага ж часопіса, раздаюцца задзірыстыя галасы: гэта лепшае, што надрукавана з прозы за апошнія некалькі гадоў! Галасы падхопліваюцца паплечнікамі, тыражуюцца ў Інтэрнэце, людзі, пазбаўленыя літаратурнага густу, завучваюць і паўтараюць гэты цэтлік, як папугаі. Я заінтрыгаваны! Бяруся чытаць аповесць: ад яе патыхае мастацкім убоствам з першай жа старонкі. Выказваю сваё меркаванне ў Інтэрнэце — на мяне з лаянкай абрынаюцца прыхільнікі злашчаснай аповесці, нічога не хочуць слухаць, гатовы сцерці мяне на парашок, пырскаюць віртуальнай слінай і жоўцю. Аднак у спрэчцы высвятляецца, што амаль усе мае апаненты — гэта аўтары ці супрацоўнікі часопіса, дзе аповесць надрукавана, а аўтар яе — добры сябар галоўнага рэдактара. Мала таго, мае апаненты няўзнак прагаворваюцца, што яны, за адсутнасцю вольнага часу, практычна не чытаюць сучасную прозу, а меркаванне наконт геніяльнасці той аповесці выспела ў іх пераважна на мімалётных словах літаратурнага мэтра, які, зайшоўшы ў рэдакцыю (дзе сам стала друкуецца), у якасці кампліманта надзяліў яе высокімі эпітэтамі. Сам мэтр, праўда, прынцыпова не чытае выданні РВУ "Літаратура і Мастацтва", г.зн. тры тоўстыя літаратурныя часопісы і адзін тыднёвік (недзе тры чвэрці ўсёй літаратурнай перыёдыкі Беларусі!). Не чытае таму, што не любіць. Тварам не выйшлі. Што не перашкаджае яму назваць аповесць любімага выдання "лепшай з усяго беларускага за апошнія некалькі гадоў". Во як! І так у нас паўсюдна і пастаянна.

Што кожны кулік сваё балота хваліць – гэтым мяне не здзівіш. Але ж літаратура, спадары, не балота, а крытыкі — не базарныя гандляры. Ацэнка і аналіз любога твора можа праводзіцца толькі ў кантэксце ўсяго літаратурнага працэсу, як айчыннага, так і сусветнага. А для гэтага крытыку трэба не толькі дасканала ведаць асноўныя класічныя творы, але пажадана ўважліва і рэгулярна чытаць літаральна ўсю літаратурную перыёдыку і хоць колькі-небудзь прыкметныя кнігі мастацкай літаратуры, што выдаюцца ў Беларусі. Чытаць незалежна ад таго, любіш ты дзяржаўныя ці недзяржаўныя выданні, любіш ты канкрэтнага аўтара ці ненавідзіш яго. Чытаць найперш для сябе, каб не выглядаць дылетантам і не рабіць такія камічныя глупствы, якія я вышэй апісаў.

# Настаўнік і вучань: тонкая повязь

Нядаўна выйшла з друку новая кніга паэзіі нашага земляка, тонкага лірыка, паэта з "залатым пяром" Віктара Гардзея. Называецца яна "Трыадзінства".

Гэта кніга ўжо паступіла ў раённую і сельскія бібліятэкі Ганцаўшчыны. А мне, былому настаўніку мовы і літаратуры Круговіцкай сярэдняй школы, у якой вучыўся паэт, пашчасціла атрымаць такі дарагі падарунак з дарчым надпісам-успамінам. Вось што напісаў Віктар Гардзей на кніжцы: "Майму любімаму настаўніку, вялікаму эрудыту Вячаславу Іосіфавічу Несцеруку, які калісьці, у сёмым класе, адкрыў мяне на гэтай палявой дарожцы, што віхляе паміж даспелага жыта і старасвецкіх шышкінскіх соснаў". А потым працягвае ў лісце: "Прашу Вас узнавіць на паперы той урок літаратуры ў 7-м класе, калі мы пісалі сачыненне па карціне І. Шышкіна "Рожь". Вам, мусіць, будзе прыемна, што, памятаючы той урок, я знарок папрасіў мастакоў паставіць фрагменты вядомай карціны на вокладку кнігі "Трыадзінства". Прызнаюся, усё гэта расчуліла мяне да слёз. Я адразу ж пачаў чытаць кнігу, дайшоў да верша "Імшэчак"…

Здаецца: падумаеш, звычайнае балотца ў звычайным лесе! Але сапраўдны паэт "дакрануўся" да яго — і яно ажыло, заіграла казачнымі краскамі, усхвалявала, стала візітнай карткай Малых Круговіч. Віктар Канстанцінавіч, безумоўна, перабольшыў маю заслугу ў станаўленні сябе як паэта. Але яго праўда ў тым, што я заўважыў тады ў ім дараванне. Ён лепей за ўсіх у класе ў сваім сачыненні змог прайсці па той прасёлачнай дарозе сярод высокіх жытоў і пры гэтым свежа, па-свойму ўбачыў прыгажосць і веліч зямных прастораў.

Памятаю, як я тады перад класам зачытаў, пракаменціраваўшы работу Віктара, і заслужана ацаніў яе найвышэйшым балам. Шкада, канечне, што таленавіты вясковы хлапчук з-за сваёй сціпласці не рашыўся ні тады, ні пазней паказаць настаўнікам свае вершы. У нас, думаю, хапіла б педагагічнага ўмення і тактоўнасці, каб паскорыць яго паэтычнае сталенне.

Я перачытаў лірыку паэтаў Ганцаўшчыны і Брэстчыны, у тым ліку І. Кірэйчыка, М. Рудкоўскага, А. Каско, У. Марука, "Вышыванку" С. Локтыш. Гэта майстры. Але вершы Віктара Гардзея (я не раз перачытваў яго кнігі "Межань", "Узрушэнне", а цяпер і "Трыадзінства") мне чымсьці бліжэй па духу і адлюстраванні навакольнага свету, роднага Палесся. Яны чытаюцца на адным дыханні, хвалююць, робяць чалавека больш чулым, цярплівым, чысцейшым душою. Упэўнены, для ўсіх аматараў сапраўднай беларускай паэзіі цудоўная кніга "Трыадзінства" стане верным сябрам, дапаможа ўмацаваць веру і любоў да роднай Беларусі.

Сёння, на схіле гадоў, я сам ужо з'яўляюся вучнем сёмага класа ў паэзіі і саромеюся паказваць Віктару Гардзею свае літаратурныя пробы. Мы, пачынаючыя паэты, павінны часцей звяртацца па парады да яго вершаў, вучыцца ў яго лірызму, беражлівым адносінам да роднага слова.

Вячаслаў НЕСЦЯРУК,
вёска Вялікія Круговічы
Ганцавіцкага раёна



Святлана ЛОКТЫШ

* * *

У гарачых вугельцах вачэй згараю.
Скрыжаванне жадання, надзей…
Кахаю?
Па дыханне.
Па дотык.
Па шэпт.
І толькі
Цішыня паўстае ў поўны рост, да столі.
Нервы сталі тугою
струной гітарнай.
Непрыступная?
Божа, граю бяздарна!
Запаволіўся час,
каб разбіць сумненні,
Разагнаць недавераў мінулых цені.
У гарачых вугельцах
вачэй згараю.
Скрыжаванне жадання, надзей…
Кахаю.

* * *

Няхай банальна: прыцемак густы,
і свечкаю разбітая прастора,
і кветак яснавокіх поўны кворум,
і келіх мой крыштальны не пусты.
Няхай не надта трапны дыялог,
скаваныя ад хвалявання рухі,
і не знаходзяць месца нашы рукі
Ды для мяне ўсё! Я вар'ят і бог!

І твор мастацтва бачыцца ў акне,
і спазнаюцца ўсе глыбіні слова.
Як па-чайкоўску светла, пранікнёна
гучала тая музыка ўва мне!

* * *

Пазабіралі дзяцей гарады.
Плачуць у вёсках дыхтоўныя хаты,
Рана старэюць ад чорнай нуды
Ганкі прыветныя, стройныя дахі.

Верна чакаюць-глядзяць на дарогу
Вочы хацін у аправе разной.
Цяжка паверыць —
не вернеш былога,
Нельга змірыцца са стратай такой.

Пазабіралі дзяцей гарады.
Чым яны грэюць і радуюць сэрца?
Едуць нашчадкі ад продкаў туды,
Дзе ім зручней
і камфортней жывецца.

Ці ж да падміргвання ранішняй зоркі
і разнатраўя бяскрайніх лугоў?!
Вабяць здалёк яны, ды не настолькі,
Каб адарвацца ад ліфта й метро…

Рэдкія стрэчы, вялікія святы,
Сумна мільгаюць гадзіны, гады.
Плачуць, старэюць вясковыя хаты —
Пазабіралі дзяцей гарады.

* * *

А давай мы маханём на Кіпр:
Мора, сонца, бананы, пальмы…
Капялюш густы саламяны
Свой прыдасць каларытны штрых.

Паглядзім на людзей другіх,
Адпачнем на заморскіх пляжах
і крыху засумуем па нашых,
Па-другому ацэнім іх.

Цешыць будуць і зрок і слых
Малпы смешныя, папугаі.
А ў далёкім стозвонным гаі
Зачакаюцца салаўі.

Што ж ты, любы, адразу "знік"?
Не да смелых такіх аказій?
Хоць на хвалях нашых фантазій
Маханём удваіх на Кіпр!

* * *

Над струнамі лёталі ўмелыя пальцы,
Лунаў па-над дэкай слухмяны смычок,
І плакала скрыпка слязамі Вівальдзі,
і ўзмок ад напружання скрыпкі бачок.

Ў адзінай вялікай любові зліліся
Стары інструмент і сівы музыкант.
Да гукаў чароўных у сонечнай высі
Прымешваўся думак
сугучных дыскант.

Здавалася, быт наш пазбавіўся друзу
Праз гэты эфірна-празрысты матыў.
І доўга над месцам, асвечаным музай,
Нябачны нячуйным, анёлак кружыў.



Яўген ХВАЛЕЙ

* * *

Маладая чарняўка
палошча бялізну ў рацэ...
Маладая чарняўка —
Ты жораў у небе,
Ці сініца ў руцэ?
Я не ведаю, хто ты?
Ды, здаецца б,
насустрач пабег...
Плоткай плешча
твая "начнушка",
Што ўчора была на табе...

## Майскія яблыні ў снежні

А—і

Майскія яблыні ў снежні –
Снежных камочкаў суквеццi
На зольных галінах пад сонцам
Імем тваім мне свяціць.

Холадна яблыням, зябка –
Люты мароз.
Вечарэе...
Дзіўная ж снежная квецень
Сэрцы нашы сагрэе
Белым агнём, як у траўні...

Майскія яблыні ў снежні –
Зыркіх камочкаў суквецці
Зорaць тваёю ўсмешкай...

З цыкла «Вершы з Міжземнамор'я»

## Навальніца ў гарах Барселоны

Спякота. Горача. Залева.
Не дождж, а з неба вадаспад.
Па горных выступах-каленях
Бяжыць абрынуты каскад.

Маланка. Гром.
У хмарах горы —
Аж цісне той свінцовы груз.
Здаецца, зноў тут стала мора,
Ізноў — патоп і землятрус.

## Фламенка

Ружа ў валасах,
Агонь — сукенка.
І сама яна — агонь.
Бачу танец я —
ФЛАМЕНКА,
Што скарае і багоў.
Стук абцасаў — кастаньеты,
Стан — як гнуткая змяя.
Першы раз на гэтым свеце
Не баюся джала я.

## Букет лаванды

Рву дачцы я горную лаванду,
А здаецца, кветкі сінія — табе,
Быццам,
я ламлю ў зялёным траўні
Бел-ліловы беларускі бэз.

На стале стаіць лаванда ў вазе,
З мора, з гор — прыемны тонкі пах.
З алеандрамі яе суцяблінку
Я вазьму у свой зваротны шлях.



Фота Уладзіслава Басько



Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ

## Пейзажная замалёўка

Цені. Сутонне. Вечар.
Шумных каштанаў плечы,
Як крыж свой,
нясуць між дамоў
Воблака — месяца схоў.

* * *

Сонца корміць маннай кашай
Паркі і сырыя скверы,
А ў рацэ гарбата стыне
(асабіста мне – без цукру).
Вецер праз акно латашыць
Мяккай лапаю паперы,
І чамусьці пахне дыняй
Ад калюжыстага бруку.

Вымыў дождж двары і сходні,
Вокны, дзверы і балконы
І за ноч паспеў аддзерці
Плямы жоўтага святла;
Спрацаваўся – і даходзіць
Дзесь за горадам сягоння.
А пакуль што могуць дзеці
Свежы брук размаляваць.

* * *

Кожны — Байран на свой манер;
Хтосьці белыя носіць кашулі
і пярсцёнкамі пальцы муштруе,
на дуэлі каб чорную рулю
ў час належны
падняў рэвальвер.

Кожны — Байран на свой манер;
Хтосьці покліч краёў далёкіх
ўчуў, і месяц цяпер вірлавокі
разразае бялюткім бокам
порсткай шхуны
пад музыку сфер.

Кожны — Байран на свой манер;
Хтось плыве адно па чарніле,
Апяваючы тын пахілы,
Родны кут, назаўсёды мілы,
Несучы на далонях папер.

Кожны — Байран на свой манер;
Нехта плавае,
нехта страляе,
Хтось радком сваім
ў сэрцы цаляе.
Некаторыя ж –
толькі кульгаюць:
Кожны — Байран на свой манер…

# Чаму Гаген?



Аляксей ЧУБАТ

Тралейбус рэзка збавіў хаду, і жанчына, побач з якой стаяў малады міліцыянер Іван, ускінула руку і зачапіла шапку. Той падняў галаўны ўбор з падлогі і стаў свідраваць поглядам нейкага маладзёна.

— Прабачце, — прашаптала жанчына, — я незнарок.

— Дык гэта вы? — адказаў ён. — Я думаў — гэта хлопец. Тады нічога.

Тралейбус спыніўся, і Іван выйшаў. Цырульня знаходзілася ў завулку, да яе было некалькі хвілін пешшу. "...За апошні год колькасць судовых памылак практычна не зменшылася...", — радыё ў машыне, якая прыпаркавалася каля цырульні, гаманіла гучна. Іван увайшоў: у фае нікога не было — працоўны дзень — і ён рушыў у "Залу для мужчын".

— Як стрыгчы? — далікатна спытаў цырульнік.

— Пад нуль, — адказаў Іван без эмоцый.

— Пад нуль дык пад нуль, — весела прамовіў цырульнік. "Прычоска" хлопца казала аб тым, што прайшло не больш за два месяцы, як ён "абнуліў" сябе.

За гады праз яго рукі прайшлі тысячы мужчынскіх галоў. Быў час, да яго прыходзілі з доўгімі валасамі. У іншыя гады юнакі стрыглі свае валасы, каб потым настройваць кіслотныя хаеры. Наступным пакаленнем валасы адмаўляліся наогул. І калі раней цырульнік ведаў, якую прычоску папросіць зрабіць кліент, дык цяпер гэта было цяжка ўгадаць. "Маскультура на двары, — думаў ён, — а ў пашане — індывідуальнасць. Тым не менш, людзі заўсёды застаюцца людзьмі".

Цырульнік зрабіў сваю справу хутка.

— Колькі з мяне? — спытаў малады чалавек. Атрымаўшы адказ, дастаў партманет і разлічыўся.

Іван працаваў ахоўнікам у невялікай галерэі "Гаген". Яму падабалася ўтульнасць невялікіх залаў экспазіцыі. Іван не надта каб разбіраўся ў жывапісе і не запамінаў імёны мастакоў, але карціны падабаліся яму. Хаця ў галерэі карцін і не было — на сценах размяшчаліся прафесійныя копіі. На працягу дзвюх першых працоўных начэй Іван экскурсіі сабе не зрабіў: пакуль яму падабалася начная адзінота.

...Мацвей разумеў жывапіс, любіў апранацца як след, не па сродках. Адзенне з буцікоў, дарагая прычоска — яму падабаліся яго чорныя, як смоль, валасы, элітны парфум — каб усё казала пра тое, што ён чалавек вышэйшага гатунку. Мацвей умеў падтрымаць размову, асабліва на тэмы мастацтва — за яго спінай была няскончаная акадэмія. Цяжка сказаць, якіх поглядаў прытрымліваўся хлопец. У картатэцы цырульніка ён дакладна не значыўся.

З годнай працай, як ён лічыў, не шанцавала: большую частку года ён шукаў яе. Пакуль дапамагалі бацькі, але ён бачыў, што іх цярпенне канчаецца. Учора сказалі, што будуць даваць грошы толькі на харчаванне і кватэру, а на забавы і спартыўную секцыю хай зарабляе сам. Але на працягу тыдня Мацвей хацеў наведаць некалькі вечарынак, таму грошы былі патрэбны тэрмінова.

Людзі ўспрымалі Мацвея як сумленнага чалавека, і ніхто не мог падумаць, што ён здольны на крадзеж. Гэтае стаўленне людзей малады чалавек і хацеў выкарыстаць, калі заходзіў у салон дарагіх мабільных тэлефонаў.

— Чым я магу вам дапамагчы? — праз некалькі секунд пасля таго, як ён увайшоў, звярнулася да яго мілавідная дзяўчына-кансультант.

Мацвей вытрымаў паўзу.

— Учора да нас завезлі партыю новых мадэляў, — яна першая не вытрымала.

— Пакажыце, калі ласка, вось гэты тэлефон, — упэўнена сказаў Мацвей і скіраваў палец на самы дарагі апарат.

— Гэта якраз учарашні завоз, — хутка сказала дзяўчына. "Цудоўна", — падумаў пра сябе хлопец. Яна адчыніла шкляную вітрыну і дастала мабільны: "Калі ласка".

Мацвей узяў яго ў рукі, дзелавіта агледзеў.

— Скажыце, а ці ёсць у вас маладзёжны варыянт, не такі строгі?

— Мне трэба ўдакладніць.

— Буду вам абавязаны.

"Паглядзі, калі ласка, я адыду", — сказала дзяўчына свайму напарніку. — "Добра", — адказаў той. І пакуль ён развітваўся з кліентам, Мацвей хутка ацэньваў сітуацыю. Ён павярнуўся спінай да відэакамеры, і тэлефон ужо быў гатовы саслізнуць ва ўнутраную кішэню яго курткі, як краем вока ён убачыў, што падыходзіць кансультант. Тэлефон застыў у руцэ Мацвея. Кансультант спыніўся побач, напаўабарота, і стаў размаўляць з іншым наведвальнікам. "... Ён гутарыць не з табой, але тое не азначае, што ён не касавурыцца, — прашаптаў унутраны голас. — А не скосіць вочы ён — прыглядзецца відэакамера..."

— На жаль, нічога маладзёжнага няма, — пачуў ён голас за спінай. — Ці можна вам прапанаваць іншую мадэль? — ветліва ўсміхаючыся, спытала дзяўчына.

— Дзякуй. Не трэба.

Ён вярнуў кансультанту мабільны і пашыбаваў да выхаду.

На гэтай жа вуліцы месцілася буйная ювелірная крама. Мацвей зайшоў і ў яе. Дзяўчына, якая паказвала яму дарагі пярсцёнак, не пільнавала яго, як маці, немаўля. Закінуць упрыгожванне ў кішэню было справай секунды, але ўдалы момант не настаў. У ювелірнай краме Мацвей пакінуў толькі "дзякуй".

"Досыць гульняў, — сказаў ён сабе, — заходжу ў першую элітную краму, якая будзе на шляху і выходжу з таварам. Заўтра вечарынка, яго яшчэ трэба збыць".

Ён не змог абмінуць "Гаген".

Мацвей наведваў галерэю неаднойчы: спачатку школьнікам, а потым студэнтам. Галерэя змяшчалася амаль у сутарэнні, і каб дайсці да касы, трэба было спусціцца па лесвіцы і прайсці з дзесятак крокаў па калідоры. Ніша пад лесвіцай не змянілася з дзяцінства.

Праседзеўшы некалькі гадзін у кампаніі швабры і вядра, Мацвей вылез са свайго схову. Перш-наперш ён падняўся па лесвіцы і адшчапіў уваходныя дзверы, затым сышоў уніз і ціха пачаў пераступаць нагамі па калідоры.

Было цёмна, толькі летні ліхтарык свяціў на сцяну праз вакенца пад столлю. Свет ліўся на карціну "Відзеж пасля казання"*: да яе і падыходзіў Мацвей. Ён прыпыніўся, паднес запальнічку. Барвяны фон карціны зазіхацеў крывавымі язычкамі.

Ён паклаў запальнічку ў кішэню, узяўся абедзвюма рукамі за раму і паспрабаваў зняць карціну. Але яна вісела надзейна. Мацвей рэзкім рухам ірвануў раму ўніз — затрашчала. У галерэі запалілася святло: у канцы калідора, які быў супрацьлеглым выхаду, стаяў Іван. "Прымі рукі ад карціны і ляг на зямлю", — грозна сказаў ён Мацвею. Мацвей ірвануў карціну так моцна, як толькі мог, — яна паддалася, і ён кінуўся з ёй наўцёкі. Іван панёсся следам, але Мацвей хутчэй апынуўся каля ўваходных дзвярэй і выбег на начную вуліцу.

Іван хутка працаваў рукамі і нагамі і не выпускаў з віду няпрошанага госця. У ім узнялася злосць: "Злаўлю — з карцінай далёка не ўцячэ!" І секунда за секундай ён наганяў хлопца.

Мацвей шуснуў у двор дома — там было цёмна. Іван трохі сцішыў бег, але пабег за Мацвеем. Звыкаючыся з цемрай, ён круціў галавой управа-ўлева і глыбока дыхаў.

Рэзкі ўдар у сківіцу трохі вывеў яго з раўнавагі, але Іван застаўся на нагах. Яшчэ некалькі ўдараў — і хлопец зваліўся на зямлю. Мацвей агледзеўся навокал: было ціха, нават не гаўкалі сабакі. Ён падняў карціну з зямлі і пашыбаваў да святла.

Праз некалькі гадзін патруль натрапіў на хлопца ў цёмным завулку. "Знаёмая фізіяномія, — падумаў адзін з міліцыянераў, асвяціўшы твар Івана ліхтаром. — Хутчэй за ўсё, адзін з нашых кліентаў". Патрульныя выклікалі машыну і адвезлі хлопца, які ўжо набываў прытомнасць, ва ўчастак. А раніцай яго адпусцілі дахаты.

На працягу тыдня Івана выклікалі на допыт, і ён зразумеў, што могуць абвінаваціць у змове са зладзеем. Але ў хуткім часе ва ўчастак прыйшоў Мацвей. Яго вочы былі чырвонымі ад бяссоння, на твары — стомленасць і спакой. Ён разгарнуў пакунак перад дзяжурным — у ім была карціна.

---

* Карціна Поля Гагена "Відзеж пасля казання" намалявана ў 1888 годзе. Мастак стварыў яе па матывах вядомага біблейскага сюжэта "Барацьба Якава з Анёлам". Сутнасць гісторыі ў тым, што Якаў хоча атрымаць бласлаўленне ў Анёла і, каб дамагчыся свайго, бярэцца з ім дужацца. Анёл прыкладае звышнатуральныя магчымасці і выкручвае Якаву сцягно. Але той не пужаецца: фізічны боль робіць яго трывалым. Вера Якава ўзмацнялася на працягу барацьбы, і Анёл убачыў, што Якаў не адступаецца і блаславіў яго.

Мікола ШАБОВІЧ

# Марынка

## Апавяданне

Заўсёды шкадуеш аб нечым нязбытным, страчаным. Міжволі і мяне колькі часу не пакідае такое адчуванне, што і я штосьці гублю, штосьці забываю, і калі стараюся ўспомніць, што менавіта, на памяць прыходзіць ненапісанае апавяданне. Я жыў ім колькі год, пісаў яго, але так і не закончыў, не дапісаў.

Дзе ты цяпер, чарнявая Марынка, мая гераіня? Як складваецца тваё жыццё? Напэўна, каб сутыкнуліся дзе-небудзь на вуліцы, то і не пазналі б адно аднаго.

Канечне, не пазналі б. Гэта і не дзіўна, бо наша знаёмства (калі можна так назваць выпадковую сустрэчу) працягвалася толькі дзень. Усяго толькі адзін дзень.

Далёкі ліпеньскі ўспамін. На яго б забыцца, але ў памяці...

Гудзела поўным ходам вясковая ўрачыстасць. Спраўлялі дзень нараджэння Раі Сівянковай. Ніхто і не заўважыў, як у хату ўвайшла дзяўчынка гадоў дзевяці. Адчуўшы, што на яе не звяртаюць ніякай увагі, яна крыху збянтэжылася, але так і стаяла ля парога, не ведаючы, што рабіць.

— Марына, чаго стаіш? Праходзь за стол, — лагодна запрасіла Раіна маці, якая толькі што ўвайшла ў хату.

Дзяўчынка сарамліва села за стол і апусціла вочы.

"Чыя ты, Марынка?" — хацелася запытацца мне, але гаспадыня сама растлумачыла, што гэта дачка Віці Трынкевіча ад другой ці трэцяй жонкі. Дагэтуль я ніколі не бачыў яе. Ды і не толькі я. Пачаставаўшы дзяўчынку вішнёвым сокам і дамашнім пячэннем, мы зноў заняліся сваёй справай, а тая неўпрыкметку пакінула нас. Ужо на парозе хтосьці запрасіў яе прыходзіць вечарам на Купалле.

І яна прыйшла. Загадзя, каб не спазніцца. Вечаровае сонца пяшчотна гладзіла вясковы пейзаж сваімі апошнімі промнямі.

Праз паўгадзіны мы кіруем за вёску.

І вось вогнішча раскладзена. Калі полымя крыху супакоілася, пачаліся забавы, гульні, жарты. Трэба было пераскочыць цераз касцёр. У мяне захоплівала дух, калі я бачыў, як маленькае цельца праносілася над вогнішчам...

Хата, дзе спынілася Марына, была ў другім канцы вёскі, і я вырашыў правесці дзяўчынку, каб які сабака не напалохаў. Па дарозе яна расказала мне, што прыехала сюды адна з Маладзечна, што маці яе ў бальніцы, што пабудзе ў бацькі і бабулі, пакуль тая паздаравее.

Размова зайшла пра школу. Я тады быў студэнтам педінстытута і рыхтаваўся да сваёй будучай прафесіі.

— Табе якая мова больш падабаецца: руская ці беларуская?

— Руская. Менш правілаў трэба вучыць...

Так, мы, беларусы, часам аддаём перавагу другой мове, другой модзе толькі таму, што, як і гэтай дзевяцігадовай дзяўчынцы, там "менш правілаў трэба вучыць".

Сярод вёскі нас сапраўды пераняў сабака. Вялікі, як воўк. Ён стаяў на дарозе і глуха скуголіў. Я яшчэ думаў, як улагодзіць звера, а Марына рашуча і смела пайшла на сабаку, і той саступіў убок.

— Я не баюся сабак, — ціха сказала яна, калі я параўняўся з ёй.

Праз колькі хвілін мы развіталіся, пажадаўшы адно аднаму добрай ночы.

Ідучы дахаты, я ўвесь час думаў пра гэту чарнявую дзяўчынку. Хацелася, каб яна была шчаслівай...

Назаўтра я даведаўся, што Марынка паехала. Паехала назад, у Маладзечна, пераначаваўшы на вуліцы. Здалося дзікім і нечалавечным, што родны бацька не пусціў дачку ў хату. "Едзь туды, адкуль прыехала..."

І яна паехала. І ніколі больш не прыедзе. А мы жывём, як і жылі...

Калі праз два дні я сустрэў Віцю Трынкевіча і спытаў пра дачку, той адказаў:

— Яна будзе ў бальніцы вылежвацца, падчапіла нейкую заразу, а я дзяцей карміць буду! Аліменты плачу, з мяне хопіць! Знайшла дурнога...

Я больш не слухаў. Хацелася заплакаць, вярнуць чарнявую дзяўчынку і сказаць ёй, як роднай: "Даражэнькая мая, любая мая! На свеце шмат добрых людзей. Трымайся, Марынка, усё жыццё яшчэ наперадзе".

Хацелася...

Праз два гады я даведаўся, што маці не стала.

Дзе ты зараз, маленькая Марынка, гаротная сіротка? Якія людзі акружаюць цябе? Так хочацца верыць, што яны — добрыя.

На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

# Артыст: мастак і сааўтар

**Імя-эпоха, глыба, феномен, акцёр з аўтэнтычнай творчай індывідуальнасцю… Вядома, тэатр можа вызначыць лёс чалавека, але каб чалавек вызначаў лёс тэатра… Гэта здараецца. Ці не таму ў Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага публіка ходзіць “на Янкоўскага”?**

Расціслава Янкоўскага слушна называюць трагікам вялізнага тэмпераменту. У яго ўсе героі — трагічныя, лірычныя, сатырычныя — значныя, рэльефныя, грандыёзнага маштабу. Макбет, Людовік XIV, Фларыян Гайшун, Арбенін, Антоній, Макар Нагульнаў, Андрэй Голубеў, граф Лестар, Максіміліян Маор, фізікі і лірыкі, салдаты, трэнеры, бізнесмены, партызаны, палкаводцы, прыдворныя, каралі, арыстакраты, купцы, чыноўнікі — іх зашмат, каб пералічыць. А ў кожным створаным вобразе — выразнасць, асаблівая ўнутраная палеміка, сапраўднае перажыванне. Пастаноўкі з героямі Р.Янкоўскага, як кажуць, мелі доўгае лета. Ды і на сённяшнія спектаклі з яго ўдзелам цяжка набыць білеты. І гэта не дзіва: сярод усіх рэгалій і ўзнагарод Артыста галоўным здабыткам застаецца глядацкая любоў. Ён заўжды ў цэнтры ўвагі, заўжды з кветкамі і добрай усмешкай.

Падчас юбілейнай вечарыны, прысвечанай 80-годдзю Р.Янкоўскага, якая сталася знакавай падзеяй у культурным жыцці сталіцы, між іншым высветлілася, што акцёр працуе над галоўнай роллю ў новым спектаклі. А праз нейкі час яго ўжо ўбачылі ў гэтай прэм’еры: “Пане Каханку”…



Расціслаў Іванавіч ужо даўно стаміўся адказваць на пытанні пра сваю біяграфію, дарэчы, грунтоўна апісаную тэатральным крытыкам, доктарам філалагічных навук, прафесарам Таццянай Арловай у кнізе “Расціслаў Янкоўскі. Артыст”. Здаецца, акцёр, як ён кажа, “заслужыў законнае права на захаванне маўчання”. Таму замест звычайнага інтэрв’ю прапаную вось такі маналог-споведзь Расціслава Янкоўскага.

### Пасля юбілею

Фаіна Ранеўская казала, што страшна, калі пасля юбілею застаешся сам-насам са сваімі “адраснымі” папкамі. Але я ў самоце не заставаўся, вакол мяне сям’я, дзеці, унукі. І самае галоўнае, што ў мяне ёсць праца ў тэатры, дзе я адчуваю сябе запатрабаваным і сёння, у мае восемдзесят.

Думаць няма калі — і дзякуй богу! Добра, што я вытрымаў юбілей. А гэта было нялёгка. Цяжкая праца — рыхтаваць гэты вечар. І мне дапамаглі тэатр, дзяржава, спонсары… Таксама я вельмі ўдзячны людзям тэатра, бо яны, як я зразумеў, усё рабілі з любоўю. Ну, якія пасля юбілейнага вечара могуць быць адчуванні? Вядома, лёгкага смутку. Прыемна, што адгукнуліся газеты, нават расійская “Литературная газета”, тэлебачанне, Міністэрства культуры, горад… Шчыра кажучы, я нават здзівіўся, што мой юбілей ператварылі ў падзею, рыхтаваліся загадзя. Але, ведаеце, не хочацца мне нешта згадваць са свайго жыцця, ахаць ды охаць, таму і сам вечар быў прысвечаны не адной маёй персоне, а дынастыі Янкоўскіх. А я праз дзень працягваў ужо рэпетыцыі ў новым спектаклі С.Кавальчыка паводле п’есы А.Курэйчыка. Для мяне гэта актыўная, каласальная самааддача. Я толькі малю Бога, каб даў мне сілы, бо гэта вельмі цяжкая, супярэчлівая роля. Яна вымагае тэмпераменту, абаяльнасці. Не ведаю, ці мая гэта цалкам справа, але я паспрабую зрабіць нешта для сябе цікавае, радаснае. А тое, што Курэйчык напісаў спецыяльна для мяне ролю, гэтым ён мяне падштурхнуў. Здаецца, інакш я б спакойна працаваў, але калі спецыяльна напісана, думаеш: што мне рабіць? Адказнасць вялікая. Курэйчык, трэба аддаць належнае, вельмі гнуткі аўтар. Калі мне штосьці не падабаецца ў дыялогу, ён мяняе, правіць. Добра мець паблізу жывога драматурга.

### Пра свае ролі

Я ж і сёння памятаю ўсе свае ролі на памяць. Сэрцам! Не ведаю, якое сэрца трэба мець нам, акцёрам, каб утрымаць у памяці гэтыя ролі.

### Дзеля чаго трэба выходзіць на сцэну

У пэўныя моманты — самыя лепшыя — мы складаем з залай адзіны арганізм. Якое ж гэта свята, якія хвіліны! Надоўга пасля спектакля застаецца адчуванне: цябе зразумелі! У зале сядзіць твой аднадумец! Многія ўдалыя ролі цудоўных акцёраў вымагалі ад гледача сур’ёзнай душэўнай працы. Значнай працы…

Мне здаецца, што ўпотай глядач чакае ад артыста, што той, паказваючы сябе праз ролю, дапаможа яму глыбей зразумець, хто ж ён, які на самай справе. Каб самому спасцігаць сябе з усімі сваімі ўразлівымі комплексамі, патрэбна мужнасць.

### Аднаго таленту мала…

У маладыя гады, калі поўна жаданняў, энергіі, ахвоты спрабаваць і перарабляць наноў, адных акалічнасці падводзяць, другіх — выпадковасці, трэція не ўмеюць скарыстаць свой шанц. Мабыць, таму, што да таленту яшчэ патрэбна 99 працэнтаў працы! Ёсць фільм пра балетмайстра Ігара Маісеева “Вечны рух”. Здаецца, што лепш за яго ніхто не сказаў пра акцёрства. Пра тое, якое значэнне для акцёра мае слова “трэба”, пра жорсткі трэнінг, пра агромністае нервовае напружанне. Калі вынесці за дужкі “спецыфіку” акцёрскай працы, рэпетыцыі, вечаровыя спектаклі, паездкі і г.д. — возьмем адно: я акцёр, у мяне дрэнны настрой, бяда, урэшце, а я мушу прыйсці ў тэатр і адпаведна ролі павінен весяліцца, лётаць, спяваць… Ды яшчэ ў 20 гадзін 15 хвілін, ні секундай пазней, я павінны заплакаць, у 20.40 — рагатаць, а ў 21.30 — памерці… Уявіце, які прымус над уласнай індывідуальнасцю — і гэтак кожны дзень і ўсё жыццё! Для акцёра здаровая нервовая сістэма — катастрофа. Яна павінна быць рухомая, вострая, пластычная, лёгка ўзбуджальная, датклівая… Толькі тады на акцёра адгукаюцца гледачы.

### Вымушаныя выдаткі прафесіі

На маю думку, таго, хто ідзе ў артысты, бывае, гоніць фанабэрыя, імкненне да славы. Ніякавата ў гэтым прызнацца, але мы так даражым момантам прызнання! Дараваць нам можа хіба толькі тое, што, бадай, кожны, хто ўздымаецца на сцэну, усё ж мае за душой нешта вартае, каб быць публічна выяўленым. Не ўсім гэтае ўдаецца. Ды не ўсе здольныя на духоўнае самаагаленне. Раскрыццё душой… Бо гэта страшна.

### Станоўчы герой

Шмат дзідаў ламалася і ламаецца вакол праблемы станоўчага героя. Спрэчкі. Тэарэтычны туман. Хай даруюць мне тэарэтыкі, але асабіста я так разумею гэтую праблему: станоўчы герой — гэта той, хто прыносіць больш карысці людзям. Тым, хто побач. І такога героя нельга ўвагнаць ні ў якую схему, таму што ён заўсёды розны і жывы. Калі іграеш свайго персанажа, мімаволі робішся яго адвакатам, абараняеш яго дзеянні. Усё паводле Станіслаўскага: калі герой адмоўны, шукай, дзе ён добры, калі станоўчы, шукай, дзе ён дрэнны. Тады характар жывы, а не схематычны.

### Пра рэжысёраў і драматургаў

Мне імпануе сітуацыя, калі аўтар дапускае мае акцёрскія разважанні, тады я нібы сааўтар у той ці іншай ролі. Я ж мастак. Дарэчы, я ўжо даўно не працую з рэжысёрамі, у якіх я — пешка. Магу падпарадкоўвацца, але буду абавязкова спрачацца. Мне хочацца прапанаваць нешта арыгінальнае. Разумны рэжысёр возьме на ўзбраенне. Паспрабуем. Пакажам. На тое і працэс рэпетыцый.

Пры гэтым я, безумоўна, не адмаўляюся ад асноўнай думкі п’есы ці пастаноўкі. Калі аўтар паблізу, можна запрасіць яго на рэпетыцыі, пагутарыць, папрасіць нешта перапісаць ці ўдакладніць. А ўвогуле, мяркую, мы маем права дапоўніць кожнага аўтара. Мы — сучасны тэатр і маем справу з сучасным гледачом, якому не зусім цікавыя пэўныя старыя дэталі і падрабязнасці.

### Пра самае галоўнае ў жыцці

Гэта выбар прафесіі і жонкі. Гэта шчасце, калі ў цябе ёсць у жыцці чалавек, які цябе любіць і чакае, ёсць і любімая праца. Гэта вельмі проста і складана адначасова.

Калі сям’я — нагрузка, не варта, нават нельга яе заводзіць. Калі гэта тваё істотнае, галоўнае, тады ніякі груз не будзе цяжкі. Сям’я — гэта таксама праца, творчасць.

### Пра асабістае шчасце

Баюся назваць сябе шчаслівым чалавекам. Але я задаволены тым, што ў мяне ёсць, і ў нейкай ступені я сябе рэалізаваў… Вядома, ёсць пэўныя погляды, штосьці абурае ў жыцці, раздражняе. Як бы ты ні быў забяспечаны ў жыцці, не ў беспаветранай прасторы жывеш, штодня сутыкаешся з кімсьці альбо чымсьці ў сваім асяродку, што замінае працы, сям’і, табе. Але пры ўсім гэтым быць самім сабой – не проста важна, а жыццёва неабходна.

Марына ДОЎГЕР

(У матэрыяле выкарыстаныя вытрымкі з кнігі Таццяны Арловай “Расціслаў Янкоўскі. Артыст”).

На здымку: народны артыст СССР і Беларусі, вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Расціслаў Янкоўскі.

## Радуемся разам

Рэжысёр з Мінска Уладзімір Савіцкі ажыццявіў у Брэсцкім акадэмічным тэатры драмы і музыкі пастаноўку спектакля “У спісах не значыўся” паводле аднайменнай аповесці класіка рускай літаратуры Барыса Васільева. Сюжэт твора звязаны з першымі днямі вайны ў цытадэлі над Бугам. Прэм’ера інсцэніроўкі, галоўную ролю ў якой увасобіў Віктар Піскун, прымеркаваная да 65-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Мора на палотнах Івана Айвазоўскага ды сямі іншых вядомых рускіх мастакоў-марыністаў XIX стагоддзя (А. Беграва, П. Тызенгаўзена, І. Крачкоўскага,



Л. Лагорыя...) усцешвае вока наведнікаў Гомельскага палаца Румянцавых і Паскевічаў. Гэтая выстаўка, на якой прадстаўлены карціны з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, прабудзе тут да 12 мая.

Мужчыны-мастакі, уражаныя адным з вясновых праектаў сталічнай галерэі “Універсітэт культуры”, шукаюць нагоду, каб наладзіць аналагічнае свята і для сябе. Што яны маюць на ўвазе? Безумоўна, той эфект і розгалас, якімі суправаджалася і прэзентацыя, і экспазіцыя “Горада жанчын”. Аўдыёвізуальны праект пад гэтай назвай, створаны радыёжурналістам Кацярынай Сушкевіч, фатографам Ягорам Войнавым ды стылістам Лалітай Угуран-Туміловіч, атрымаўся сапраўды арыгінальны. У лабірынтах галерэі былі размешчаныя фотапартрэты вядомых і рознабаковых асоб, сярод якіх актрысы Зінаіда Зубкова, Таццяна Мархель, Ганна Хітрык, Святлана Бень; оперная спявачка Алена Сало; кінааператар Таццяна Логінава; рэжысёр-дакументаліст Галіна Адамовіч; кампазітар Галіна Гарэлава; кіраўнік радыёканала “Культура” Кацярына Агеева; піяністкі Таццяна Старчанка, Даша Мароз; а



яшчэ — культуролаг, псіхолаг, мастак... Усяго 30 чорна-белых фота, зробленыя ў нязмушаных і даверальных хатніх умовах. Мала таго: кожны наведнік мог “пагаварыць” з гераінямі праекта, набраўшы адпаведны нумар на ўласным мабільным тэлефоне, — а дакладней, пачуць фрагмент інтэрв’ю.

Барыс Крэпак у 1970-80-я гады актыўна і плённа супрацоўнічаў з “ЛіМам”. Цяпер, і ўжо доўгі час, ён працуе ў рэдакцыі газеты “Культура”. Наогул жа гэтага мастацтвазнаўцу, мастацкага крытыка і журналіста, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата прэміі “За духоўнае адраджэнне” ведаюць як аўтара дзесяткаў кніг, альбомаў, манаграфій, каталогаў, тысяч артыкулаў, рэцэнзій, творчых партрэтаў, нарысаў, публіцыстычных і даследчых публікацый на самыя розныя тэмы беларускага і сусветнага мастацтва. З нагоды 70-годдзя Барыса Аляксеевіча ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь прайшла выстаўка “Art-тандэм: крытык і мастакі”.

Лана ІВАНОВА

На здымках: “Італьянскі пейзаж” Івана Айвазоўскага; партрэт балерыны Вольгі Гайко з выстаўкі “Горад жанчын”.

Фота Віктара Кавалёва і аўтара

# «К сонейку шлях...»



У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася выстаўка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва студэнтаў 4-га курса і загадчыка кафедры касцюма і тэкстылю Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Валянціны Бартлавай. Назва экспазіцыі — ад купалаўскага твора “Песня сонцу”.

Я пакажу ўсе вам чары –
Чары ўсе неба, зямлі, –
Шчасця другога пажары,
Дзе б сагрэцца маглі.
Праўду ў лад новы настрою,
Новыя песні злажу…
Гэй жа, за мною, са мною!
К сонейку шлях пакажу!...

Так пісаў Янка Купала.

Менавіта Валянціна Бартлава, улюбёная ў творчасць беларускага песняра, натхніла сваіх студэнтаў — Вераніку Багачову, Настассю Лапіцкую, Юлію Мардванюк, Кацярыну Разанкову і Ксенію Ціханаву на прачытанне і мастацкае ўвасабленне яго паэзіі. Яны “перачыталі” паэтычныя радкі Янкі Купалы ў тэхніках маляванкі і габелена. За плячыма гэтых маладых і таленавітых творцаў — удзел у рэспубліканскіх і міжнародных выстаўках, творчых акцыях, конкурсах, маладзёжных праектах і фестывалях. У прадстаўленых работах яны выказалі шчырую любоў да роднага краю, выявілі пачуццё гармоніі, цікавасць да сваіх каранёў.

Падчас адкрыцця выстаўкі адна з юных мастачак распачала новы твор: “Гэй, да сонца, гэй, да зор…”, а магчымасць закончыць яго і пакінуць свой уласны штрых атрымаў кожны наведвальнік. Як прыемна адчуць сябе мастаком і пакінуць след у гісторыі слыннага музея! Як зазначыла яго дырэктар Алена Мацевасян, за першыя ж два дні працы выстаўкі на палатне ўжо амаль не засталося белага лапіка.

Кацярына ЯКУБЕНЯ,
студэнтка БДПУ імя Максіма Танка

На здымку: дырэктар музея Алена Мацевасян распавядае пра выстаўку.

Фота аўтара

Легендарная спявачка, выдатны музычны дзеяч, педагог… Гэтую яркую постаць ведалі многія. І вось — сумная нагода прыгадаць яе: 11 лютага завяршыўся зямны шлях оперная спявачкі, народнай артысткі СССР, Героя Сацыялістычнай Працы, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, акадэміка Ірыны Архіпавай. У 1986 годзе яна была абраная старшынёй Цэнтральнага праўлення Усесаюзнага музычнага таварыства, а з 1991-га і да канца свайго жыцця заставалася прэзідэнтам створанага на аснове таварыства Міжнароднага саюза музычных дзеячаў, асацыятыўным членам якога з'яўляецца Беларускі саюз музычных дзеячаў. 26 лютага ў Маскве адбыўся пазачарговы з'езд МСМД, на якім прэзідэнтам саюза аднагалосна абраны народны артыст СССР Уладзіслаў П'яўко. Дэлегаты з'езда ўспамінаюць пра Ірыну Канстанцінаўну…

# Незабыўная Ірына Канстанцінаўна

Алег Мельнікаў, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі, член праўлення БСМД. На з'ездзе абраны ў праўленне Міжнароднага саюза музычных дзеячаў:

— Ёсць у жыцці лёсавызначальныя сустрэчы, памяць пра якія застаецца з табою назаўсёды. Для мяне незабыўная сустрэча з таленавітай спявачкай, бліскучай актрысай, Чалавекам з вялікай літары Ірынай Канстанцінаўнай Архіпавай. У ёй спалучаліся велізарная самаададача і бескарыслівасць, душэўная шчодрасць і геніяльная прастасць, любоў да мастацтва і да свайго слухача.

Калі я быў студэнтам 3 курса Адэскай кансерваторыі (клас легендарнага спевака і педагога Я.Іванова) і ўжо двойчы станавіўся лаўрэатам міжнародных конкурсаў, мяне ўпершыню запрасілі ў Талін як удзельніка праграмы "Ірына Архіпава прадстаўляе...". Напярэдадні ў зале ратушы Ірына Канстанцінаўна спявала сольны канцэрт. Яе сустрэлі бурай авацый. Ва ўсім у той вечар была нейкая неспасціжная загадкавасць зачаравання. Голас спявачкі ўзрушваў глыбокім пранікненнем у музыку, пераконваючы, што сапраўдная дасканаласць дасягальная і што перад намі не проста спявачка, а музыкант, вялікі музыкант нашага часу. Валодаючы найвышэйшым майстэрствам, густам, музычнасцю, Ірына Канстанцінаўна ўмела радавацца новым талентам, поспехам маладых спевакоў. Яна высока ацаніла і некалькі маіх работ: раманс С.Рахманінава "Лёс", "Песню пра блыху", арыю Фарлафа, партыю Барыса Гадунова. За партыю Барыса і падзвіжніцкую выканальніцкую дзейнасць у Расіі я быў узнагароджаны срэбным Ордэнам імя І. Архіпавай.

Нашы стасункі з Ірынай Канстанцінаўнай працягваліся і на міжнародных вакальных конкурсах, дзе я быў членам журы. Працаваць з такім старшынёй, як Архіпава, было надзвычай цікава і павучальна. Запомнілася фраза, якую Ірына Канстанцінаўна прамаўляла ў самым пачатку: "Працаваць будзем так, каб я не чырванела на заключным канцэрце". А гэта значыла: журы абавязана быць гранічна аб'ектыўным.

Ірына Канстанцінаўна мела выключную памяць: яна правяла вялікую колькасць фестываляў "Ірына Архіпава прадстаўляе...", аднак памятала ўсіх лаўрэатаў, іх прозвішчы і праграмы. Невыпадкова яе называлі "мамай маладых вакалістаў".

Я шчаслівы, што з гадамі нашы сустрэчы перараслі ў глыбокае сяброўства. А размовы з такім майстрам былі непаўторныя і надзвычай цікавыя. Яна ведала шмат: гісторыі стварэння опер, рамансаў, у тым ліку вакальнага цыкла "Песні і скокі смерці" М.Мусаргскага, які сама спявала так натхнёна!

Думаю, што геній Ірыны Архіпавай яшчэ не ацэнены ў поўнай меры, аднак яна будзе заўсёды жыць у нашых сэрцах і памяці, як сама музыка!

Валерый Уколаў, арт-дырэктар некамерцыйнага прадзюсерскага цэнтра "Класіка" Беларускага саюза музычных дзеячаў, член праўлення БСМД. На з'ездзе абраны ў праўленне Міжнароднага саюза музычных дзеячаў:

— Мне пашанцавала: калі я працаваў рэжысёрам канцэртных залаў Белдзяржфілармоніі, амаль штогод сустракаўся з Ірынай Канстанцінаўнай. Часам гэта былі яе сольныя канцэрты, але ж часцей — праграмы "Ірына Архіпава прадстаўляе...". Пасля кожнага Усесаюзнага конкурсу імя М.І.Глінкі, нязменным старшынёй журы якога яна была доўгія гады, ажыццяўляліся гастрольныя туры лаўрэатаў конкурсу па многіх гарадах СССР. Ірына Канстанцінаўна дапамагала маладым спевакам атрымаць прызнанне публікі, уважліва сачыла за лёсам кожнага, давала ім пуцёўку ў творчае жыццё. Так было з нашым Валерыем Кучынскім, які пасля перамогі на Усесаюзным конкурсе спевакоў імя М.І.Глінкі стаў лаўрэатам Міжнароднага конкурсу імя П.І.Чайкоўскага. Лаўрэатам 1-й прэміі конкурсу імя М.І.Глінкі была Марыя Гулегіна — колішняя салістка Беларускай оперы, цяпер спявачка з сусветным імем. У свой апошні прыезд у Мінск Ірына Архіпава выканала ў нашым Акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета партыю Графіні ў спектаклі "Пікавая дама". Дырыжыраваў А.Анісімаў.



Наталля Вітчанка, першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў, абраная віцэ-прэзідэнтам і членам праўлення Міжнароднага саюза музычных дзеячаў.

— Для мяне Ірына Архіпава заўсёды была на недасяжным п'едэстале, як ідэал артысткі, жанчыні і чалавечай прыгажосці. І якая ж я была шчаслівая, калі прыйшла працаваць намеснікам старшыні праўлення ў Музычнае таварыства БССР і даведалася, што мой непасрэдны кіраўнік у Маскве — непаўторная Ірына Канстанцінаўна! У тыя гады яна вельмі дапамагала нам: без усякіх лімітаў мы атрымалі неабходную арттэхніку, у 1989 і 1991 гадах сумеснымі намаганнямі правялі ў Мінску Усесаюзныя курсы выканальніцкага майстэрства "Акадэмія старадаўняй музыкі", што вельмі паспрыяла росту прэстыжу нашай маладой арганізацыі. У тым жа 1991-ым Масква дапамагла нам пракласці дарогу на знакамітыя "Еўрапейскія музычныя сустрэчы" ў Нямеччыне. Тады гэта было само сабой зразумела. Але летась, калі мне выпадкова ў рукі трапіла кніга І.Архіпавай "Музы мае" (выд. "Молодая гвардия", Масква, 1992 г.), я на яе 9-й старонцы адкрыла для сябе прычыну гэтай клапатлівай непрыкметнай увагі. "Мой бацька Канстанцін Іванавіч Веташкін, — пісала Ірына Канстанцінаўна, — прыехаў з Беларусі. Ён быў з сям'і патомных рабочых-чыгуначнікаў, якія валодалі глыбока і сур'ёзна сваім рамяством. Дзед па бацькавай лініі служыў на чыгунцы, якая ішла да Варшавы. У адну са сваіх паездак ён пазнаёміўся з чароўнай польскай дзяўчынкай Альбінай з-пад Кракава, і тая разам са сваёю сястрою Станіславай збегла з дому за маладым чыгуначнікам. У Мінску яны ажаніліся. Там і нарадзіўся мой бацька. Сястра бабулі так і пражыла ўсё жыццё разам з сям'ёю дзеда... Пазней сям'я пераехала ў Гомель, куды і нас вазілі дзецьмі на летнія канікулы...". Вось які факт выпаў з нашай гісторыі! І гэта ў той час, калі мы раскопваем старадаўнія архівы, вяртаем забытыя імёны на радзіму! Імя Ірыны Канстанцінаўны Архіпавай — планетарнага маштабу — не асацыіруецца з беларускімі каранямі…

♫

На з'ездзе ў Маскве было прынята рашэнне наконт распрацоўкі і ажыццяўлення міжнароднай праграмы па ўвекавечванні памяці вялікай артысткі. І Беларускі саюз музычных дзеячаў лічыць сваім абавязкам скаардынаваць намаганні дзяржаўных і грамадскіх устаноў, каб імя Ірыны Канстанцінаўны было назаўжды ўпісана залатымі літарамі ў летапіс нашай краіны.

Гутарыла Наталля ВАСІЛЬЕВА

На здымку: народная артыстка СССР Ірына Архіпава і заслужаны артыст Беларусі Алег Мельнікаў.

Фота Валерыя Уколава

# Цымбальнае сузор'е

"Настаўніца і яе плеяда. Прафесія — цымбалістка". Адметная і незабыўная творчая вечарына пад гэтай назвай, што адбылася ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, прысвячалася 30-годдзю педагагічнай дзейнасці дацэнта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, намесніка старшыні Асацыяцыі беларускіх цымбалістаў Рымы Падойніцынай.



Вядомая сваёй падзвіжніцкай дзейнасцю, гэтая выкладчыца — сапраўдная Асоба, Майстар, падрыхтавала больш як 50 спецыялістаў. Сярод іх артысты Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І.Жыновіча, славутых "Харошак", Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь інструментальнага ансамбля "Лірыца", выкладчыкі трох універсітэтаў, у тым ліку ў Аўстрыі, музычных вучылішчаў і каледжаў, музычных і сярэдніх школ. У ліку яе выпускнікоў — 17 лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, два — Дэльфійскіх гульняў, тры — нацыянальных конкурсаў…

Як даведаліся госці вечарыны, Рыма Уладзіміраўна не толькі рыхтуе выдатных музыкантаў, але і сама працуе надзвычай плённа і актыўна ў самых розных сферах. Яна — аўтар навуковых прац, вучэбна-метадычных дапаможнікаў, праграм, метадычных распрацовак, удзельніца міжнародных навуковых і навукова-практычных канферэнцый у Беларусі, Расіі, Малдове, удзельніца радыё- і тэлеперадач. Яна з'яўляецца аўтарам канцэпцыі сайта "Беларускія цымбалы", чытае лекцыі і вядзе практычныя заняткі на курсах павышэння кваліфікацыі ў БДАМ, БелІПК, БДПУ імя М.Танка, кожны год праводзіць майстар-класы для цымбалістаў Беларусі, летась давала міжнародны майстар-клас у Рэспубліцы Буратыя. Яна ж распрацавала і правяла курс "Методыка выкладання ігры на ёчыне" (бурацкія цымбалы) ва Усходне-Сібірскай акадэміі культуры і мастацтва ва Улан-Удэ. Яна з'яўляецца аўтарам шэрага творчых праектаў, ажыццёўленых у Польшчы і ў Расіі. Апрача таго, працуе ў журы міжнародных і нацыянальных конкурсаў, кангрэсаў і фестываляў. Яе прафесійнае майстэрства адзначана шматлікімі дыпломамі міжнародных конкурсаў, граматамі і медалямі.

Можна было б шмат казаць пра гэтую яркую асобу, але варта пагаварыць пра канцэрт, у праграме якога прагучалі творы айчынных і замежных кампазітараў XVI — XXI стагоддзяў, апрацоўкі народных мелодый. У яскравым суквецці кампазіцый, разнастайных па вобразным складзе, стылістыцы ды жанрах, знайшлося месца і для прэм'ер: студэнты класа Р.Падойніцынай выканалі чатыры новыя творы ў яе рэдакцыі (Таката для цымбал і фартэпіяна А.Безенсон, цыкл для альтовых цымбалаў і фартэпіяна "Адвечнасць" Я.Паплаўскага, Сем экзатычных п'ес для цымбал або хакбрэта з фартэпіяна нямецкага кампазітара Х.Вінклера, п'еса кітайскай кампазітаркі Сянь Джу Хоа "Зялёны бамбукавы лес" для кітайскіх цымбалаў.

У канцэрце бралі ўдзел лаўрэаты міжнародных конкурсаў — выпускнікі мінулых гадоў і студэнты класа, творчыя "ўнукі" Р.Падойніцынай — навучэнцы ДМШ і Мінскага музычнага вучылішча імя М.І.Глінкі, усяго 22 удзельнікі, у тым ліку знаны ансамбль "Лірыца". Варта адзначыць высокі прафесіяналізм піяністкі Ксаны Садоўскай, а таксама эмацыянальнасць, зацікаўленасць і шчырасць музыказнаўцы Алы Агаркавай, якая вяла імпрэзу.

Пры канцы вечара Рыма Уладзіміраўна атрымала ўзнагароду Беларускага саюза музычных дзеячаў — нагрудны знак "За ўнёсак у развіццё музычнага мастацтва". Але, падаецца, не толькі ганараванне знакамітай цымбалісткі сталася апафеозам канцэрта. Яго галоўным акцэнтам, своеасаблівай звышмэтай аказалася ўхваленне самога цымбальнага мастацтва, у розных яго праявах і адценнях, у сузор'і дзівосных і непаўторных музычных фарбаў.

Вольга ДАДЗІЁМАВА

# Сябры па суполцы

Прэзідыум праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў зацвердзіў новую творчую структуру.



Ансамбль трубачоў "Festivo" створаны ў 1984 годзе. З таго часу актыўна ўдзельнічае ў музычным і грамадскім жыцці краіны, з'яўляецца пераможцам шматлікіх конкурсаў і фестываляў: V міжнароднага фестывалю духавой музыкі WASBE/UNESCO (1998 г.); міжнароднага фестывалю духавой музыкі "Mid Europe" 2001 г.; міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік", рэспубліканскіх (2004, 2006 гг.) і І міжнароднага (2008 г.) фестываляў духавой музыкі "Беларускія фанфары"; ІІ міжнароднага конкурсу выканальніцкага майстэрства "Санкт-Пецярбургскія асамблеі" (2009 г.). У 2009 і 2010 гг. калектыў стаў лаўрэатам міжнароднага конкурсу-фестывалю "Пецярбургская вясна", у якім бралі ўдзел прадстаўнікі Расіі, Украіны, Казахстана, Паўночнай Карэі і Кітая. У 2005 годзе творчая дзейнасць ансамбля трубачоў "Festivo" была адзначана прэміяй Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Мастацкі кіраўнік "Festivo" — прафесар кафедры духавой музыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, кандыдат мастацтвазнаўства, член праўлення БСМД Аляксандр Карацееў.

На здымку: выступленне ансамбля "Festivo" на конкурсе-фестывалі "Пецярбургская вясна-2010" у канцэртнай зале Саюза музычных дзеячаў Санкт-Пецярбурга.

## Нашы юбіляры



Анатоль Мікалаевіч ПАПОЎ — дырэктар Дзіцячай музычнай школы № 11 імя У.Алоўнікава г. Мінска.



Леанід Барысавіч ШУРМАН — артыст, канцэртмайстар Беларускай дзяржаўнай філармоніі.



Таццяна Віктараўна ЯЛЕЦКАЯ — дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.

Тэлефоны: (017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.

# Паэзія літаратуразнаўцы

Нядаўна споўнілася 70 гадоў навукоўцу, перакладчыку і паэту Уладзіміру Іосіфавічу Мархелю. Пакуль што адзіная кніга вершаў (і перакладаў) У. Мархеля — "але..." (2007) — дае магчымасць чытачам наблізіцца да разумення такой складанай і цікавай з'явы, як паэзія літаратуразнаўцы. Першыя вершы зборніка выбранай (з усяго напісанага) лірыкі пазначаны 1957 годам, а кніга выйшла ў 2007-м, значыць, усе гэтыя 50 гадоў аўтар актыўна працаваў і як літаратуразнавец, і паэт.



Праўда, паэтычных публікацый, у адрозненне ад літаратуразнаўчых, было няшмат. Таму з'яўленне зборніка вершаў У. Мархеля вельмі ўзрадавала. Любоў У. Мархеля да вершаў вылілася і ў даследаванне творчасці паэтаў — А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, З. Манькоўскай-Тшашчкоўскай (Адам М-скі), і ў перакладчыцкую дзейнасць (акрамя тэкстаў гэтага зборніка — кніга перастварэнняў з польскай мовы "Водгулле" (2000).

Знаёмства з кнігай пачынаецца з назвы. Яе сэнс вынікае з аўтарскага вершаванага ўступу: "куды Бог слова ні пашле, / не закіпіць яно ў смале, / а насячэцца на скале / або прасвішча на страле / ці закружляе на крыле / не ў злоснай цемры — на святле / і ляжа на маім стале, / але...".

Які падтэкст хаваецца за гэтым "але..." ў яскрава-рамантычнай вобразнай падачы? Мо аўтар, гэтак жа як Ф. Цютчаў, задумваецца: "Нам не дано предугадать, / как слово наше отзовётся", як яго творы будуць успрыняты сучаснікамі і нашчадкамі. Бліжэй да ісціны, відаць, тое, што аўтар абраў для назвы кнігі слова максімальна шматзначнае, каб паказаць разнастайнасць і інтэрпрэтацыйную неадназначнасць яго мастацкага свету, яго асобы, яго адметнага светаўспрымання. (Аўтар вобразна абыгрывае сваё "але", вылучанае тлуста ў складзе розных слоў, у "Post scriptum'e"). Такое ўражанне, што на нашых вачах закладваецца традыцыя кароткіх кідкіх назваў — выклічнікаў-злучнікаў-часціц, відаць, для "остранения" (тэрмін В. Шклоўскага) лексічна-зрокавага першапачатковага ўспрымання кніг, для ўзмацнення людскога жадання іх хутчэй купіць, прачытаць, прааналізаваць. Беларускі мастак слова бачыцца асобай максімалістычна патрабавальнай да сябе, чалавекам цвёрдых прынцыпаў і перакананняў, моцнай сілы волі. Яго лірычны герой атрымаўся набліжаным да творцы. Пра лідэрскі характар У.Мархеля сведчыць і яго атаясамленне сябе з клічнікам ("Не буду браць сябе у дужкі..."), і значнасць для яго мэтанакіраванасці, упартасці на шляху да мэты: "Які ні быў бы лёс твой горкі, / Не пакідай занятай горкі". Пра гэта сведчыць і чырвоны колер кнігі (не ўсякі творца адважыцца "прыручыць" такую кідкую, агрэсіўную фарбу. Чырвоны таксама традыцыйна лічыцца колерам кахання, якое з'яўляецца тэматычнай дамінантай зборніка). Паэт асэнсоўвае гэту тэму шматпланава — ад цнатлівага сузірання аб'екта-"незабыванкі" да тонкага эратызму. Апошнім аспектам творчасць аўтара набліжаецца да донжуанскай лірыкі Л. Дранько-Майсюка, М. Шабовіча і Сл. Адамовіча. Па-майстэрску тонка паказаны жыватворная моц мілосці, псіхалагізм стасункаў, рух пачуццяў. Тут усё на нюансах, са складаным душэўным падтэкстам, які не заўсёды прагаворваецца дваімі: "Твае недамоўкі, мае недаверы / Расплавіць спагадна ратунак вачэй, / І выплача рэўнасць няспаных начэй / Твае недамоўкі, мае недаверы. / Рассеюцца здані, прывіды, хімеры, / І поўні пагляду стане лягчэй, / Калі недамоўкі, калі недаверы / Расплавіць спагадна ратунак вачэй".

У інтымнай лірыцы паэта заўважаецца літаратуразнаўчы склад яго розуму: нават пачуццё ён спрабуе апісаць максімальна канкрэтна, самымі дакладнымі словамі, паказаць нюансы думак і адчуванняў. Стан закаханасці "ўздымае неба", напаўняе быццё лірычнага героя высокім сэнсам, які "увесь святлее ў наближэнні", а такая ідэалізацыя жанчыны і свету падчас эмацыянальнай акрыленасці — выява рамантычнай традыцыі (згадаем, У. Мархель — даследчык творчасці А. Міцкевіча–рамантыка, да таго ж, відаць па вершах, падчас закаханасці навуковец таксама сябе бачыць і паводзіць, як рамантык). У рэчышчы рамантычнай традыцыі і проціпастаўленне мары (пра каханую) і явы (калі яе побач няма), якое выліваецца ў зразумелае мужчынскае жаданне пра здзяйсненне мілосных фантазій. Індывідуалізуе інтымную лірыку паэта яго меладычнае ўспрыманне абранніцы: "Ці чуеш ты, якая перамена, / Як ты агучыла маю істоту, / Як на цябе скіроўваю праменна / Я кожную сваёй мілосці ноту? / Ці я пачну мелодыю старую, / Ці да сучаснай далучуся з краю – / Я для цябе адное аркеструю, / Я ўсім сабою для цябе іграю".

Сэнс жыцця, які шукае У. Мархель, таксама неадрыўны ад рамантычнай традыцыі: аўтар уяўляе сябе вандроўнікам, а вабны далягляд будучых здзяйсненняў і набыткаў — мэтай: "Я кожны дзень, як пілігрым, / Хачу наблізіць далягляд, / Які ў прастора-часавай дзяльбе, / Каб бачыць тут, як там, за ім, / Не свету край, прадоння спад, / А сэнс быцця і, можа, сэнс сябе". Жыццясэнс, які дае неўміручасць, паводле У.Мархеля (і біблейскіх традыцый), — "цёплае, моцнае слова", якое "жыве з вякамі, / яго не затрэплюць языкамі". Прычым, даводзіць аўтар, "патрэбнае слова знайсці не проста. / Патрэбнае слова прыходзіць з узростам". Яно — абавязкова беларускае. І галоўнае – творчая індывідуальнасць: "Прагнеш моцна быць сваім у зор – / Вынайдзі ў сусвеце свой узор". Істотная асаблівасць У. Мархеля-вершапісца, паводле трапнай заўвагі С. Калядкі, — "раскрыццё філасофіі жыцця праз прызму іроніі". (Дарэчы, апошняя — добры сродак захаваць душэўную раўнавагу і спакой у наш псіхалагічна-складаны крызісны час). Нечаканы шлях да бессмяротнасці паэт адкрыў у пунктуацыйным знаку. Алюзійна звяртаючыся да гарацыеўскага матыву "помніка", У.Мархель разважае над тым, які знак прыпынку блізкі да яго інтэлектуальна-душэўнай сутнасці. Выснова такая: "Не буду браць сябе у дужкі / Або шматкроп'ямі надзельваць, / Сябе адолею падужаць / І ўзнесці клічнік, як надзею, / Каб здагадаліся патомкі, / Што клічнік — мой надзейны помнік!". Падчас зямнога жыцця, лічыць даследчык, трэба дбаць пра чыстую душу, якая лічыцца вечнай. У наш грахоўны час высокамаральна-этычным з'яўляецца тое, што У. Мархель прытрымліваецца хрысціянскіх запаветаў. Пра інтэлектуалізм паэта-літаратуразнаўцы сведчыць і філасофская глыбіня яго высноў з убачанага і перажытага, і яго добрае веданне лірыкі (што відаць і па мастацкіх, максімальна дакладных перакладах, і па эпіграфах з У. Шэкспіра, Г. Гейнэ, Якуба Коласа, Б. Пастарнака на мовах арыгіналаў). Зразумела, што і яго паэтычная лексіка больш нагадвае навуковую: узаемаадлегласць, крытэрыі, формула, ураўненне, паўмілiграма, дэкорум, постмадэрнізм, адрасат, субстанцыі... І хоць У. Мархель не цытуе лацінскіх выразаў, што характэрна для філолагаў, доказаў "навуковасці" яго паэзіі і так дастаткова.

У лірыцы У. Мархель нібыта прытрымліваецца някрасаўскага прынцыпу — "каб словам было цесна, думкам — просторна". Крэда ў яго паэтычным мастацтве – наяўнасць пачуццяў (што натуральна для паэта і дзіўна для літаратуразнаўцы). Літаратуразнавец абараняе сваё сентыментальнае перакананне лагічна-выверана: "Калі ў нязграбнасці быцця / Радок узнік без пачуцця, / Радку не рады адрасат. / І аўтар сам радку не рад. / Калі ж на глебе і на сцэне / Ад пачуцця няма і ценю, / То можа раб адзін застацца / Без пачуцця і без мастацтва". На мой погляд, тут усё проста. Эмоцыі ў лірыцы павінны прысутнічаць, гэта ж не навуковы трактат. Аднак творцу трэба кіравацца пачуццём меры і жанравай мэтазгоднасці: калі ў інтымнай лірыцы, кампліментарных прысвячэннях жанчынам пачуццёвасць апраўдана, то ў філасофскай лірыцы яе трэба мінімізаваць, бо ў ёй дамінуюць разважанні.

Тэксталагічна-слушнай з'яўляецца і падрабязнае датаванне вершаў (дзень-месяц-год), каб чытачы маглі прасачыць станаўленне аўтарскага светапогляду на працягу насычанай падзеямі біяграфіі. У. Мархелю, даследчыку беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязей і перакладчыку паэзіі рамантычнага XIX стагоддзя, эстэтычна дысгарманічны сучасны постмадэрнізм, у якім аўтар бачыць зашмат фармальных пошукаў і замала змястоўных: "Не пост- — пустмадэрнізм, / не пост-, а пустаслоўе / дыктуе порсткі арганізм / на лес пусты, на безгалоўе, / на пост вялікі і на свята — / слоў шмат, а з сэнсам пуставата...".

Рыфмы ў вершах У. Мархеля максімальна дакладныя на працягу ўсяго зборніка, такая нязменная павага да рыфмы рэдка сустракаецца ў сучаснай паэзіі. Аўтар валодае шырокім спектрам жанрава-фармальнай разнастайнасці. Ён ужывае такія цвёрдыя формы і віды верша, як трыялет, акраверш, санет-брахікалан, рэхаверш, прысвячэнні, максімы. У зборніку У. Мархеля ёсць тры брахікаланы (прычым два з іх яшчэ і санеты). Іх пісалі, напрыклад, рускія паэты Ілья Сяльвінскі, Уладзіслаў Хадасевіч, польскі — Юзаф Янкоўскі і беларускі – Юрась Пацюпа. Дзіўна, чаму крытыкі лічаць гэтую паэтычную форму набыткам постмадэрнізму? (Згадаем, што многія аўтары гэтай і іншых сінтэтычных паэтычных форм: санетаў-брахікаланаў І. Сяльвінскі, У. Хадасевіч, трыялетна-актаўнага санета Ф. Салагуб, паэмы-"камбайна" У. Дубоўка, "Лірычнай кантаты" Р. Крушына, акрасанетаў М. Кузмін, А. Архангельскі, Г. Іваноў і Р. Барадулін — не постмадэрністы).

Калі ў інтымнай лірыцы жаночыя адрасаты не пазначаны (за выключэннем зашыфраванай у акравершы Наташы), у прысвячэннях мужчынам — калегам па працы ў Інстытуце літаратуры — і знаёмаму кампазітару — імёны і прозвішчы ўказаны.

Літаратуразнаўчыя працы, пераклады і паэзія У. Мархеля надзвычай цікавыя і глыбакадумныя, напісаны на высокім узроўні і варты сур'ёзнага вывучэння. Пра самае істотнае ў вершах з гэтай кнігі я вам распавяла. Але! Кожны з чытачоў тут знойдзе штосьці сваё.

Таццяна БАРЫСЮК

# Пад родным небам

Нясвіжская зямля стала другой радзімай для многіх творцаў. З яе краявідаў чэрпаў натхненне паэт Паўлюк Пранўза, адсюль выйшлі на літаратурную сцяжыну Уладзімір Ліпскі і Мікола Маляўка… Другой радзімай стала Нясвіжчына і для паэта з Аршаншчыны, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі паэта Міхася Сазончыка.

Міхась Яфрэмавіч Сазончык нарадзіўся ў 1932 годзе ў сям'і служачага, у вёсцы Юрцава Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Большую частку свайго жыцця Міхась Яфрэмавіч, аграном па прафесіі, прысвяціў сельскай гаспадарцы: працаваў галоўным аграномам у калгасах і саўгасах рэспублікі. Але, нягледзячы на, здавалася б, такую празаічную прафесію, яго ніколі не пакідала паэтычнае натхненне.

Цяпер мы ведаем М. Сазончыка як аўтара зборнікаў вершаў "Пад родным небам", "Люблю", Крыніца", "Выпрабаванне часам". Самыя лепшыя творы гэтага паэта адрасаваны дзецям. Яны знайшлі сваё ўвасабленне ў зборніках "Вераб'іная дача" і "Навагодні светлячок". Вершы нашага земляка пастаянна друкуюцца ў многіх рэспубліканскіх выданнях.

Найбольш поўна атрымаць уяўленне аб творчасці гэтага паэта можна, пазнаёміўшыся са зборнікам "Крыніца", які ўключае вершы разнастайнай тэматыкі, напісаныя ў розныя перыяды творчасці.

На першым плане — тэма Радзімы. І ў маладосці, і ў сталыя гады паэт не перастае захапляцца родным краем, прысвячае яму свае лепшыя радкі.

Я краявідам мілым рады,
Яны — у золаце зары —
Хвалююць-цешаць сэрца ўладна
Яшчэ з дзіцячае пары.

Паэта не вабяць замежныя краявіды. Нават крапіва здаецца яму больш прывабнай, чым іншаземныя эўкаліпты.

Міхась Яфрэмавіч належыць да пакалення, дзяцінства якога абпалена вайной. Вайна забрала бацьку і брата. Некаторы час ён з мамай і сёстрамі жыў у партызанскім атрадзе, баючыся расправы фашыстаў за сувязь з партызанамі.

Тэма Вялікай Айчыннай вайны закранаецца ў вершах "Вёска Лагі" (прысвечаны памяці брата Аркадзя), "Галава ад селядца", "Успаміны баляць". Светлай памяці бацькі, маці, брата прысвечаны верш "Сумленна жыву".

Зараз мы маем і хлеб, і да хлеба. Але калі-нікалі правіць баль незадаволенасць, нечага пастаянна не хапае. У такія хвіліны звярніцеся да вершаў М. Сазончыка, якія распавядаюць пра пасляваеннае галоднае дзяцінства, і тады ўсё стане на свае месцы…

Паэт непакоіцца і за нашу мову, якая займае пачэснае месца сярод моў свету, але не заўсёды самі беларусы ставяцца да яе належным чынам. І дзе, як не на роднай зямлі, ёй квітнець, зачароўваць сваёй прыгажосцю?

Маці-радзіма і маці, якая дала жыццё паэту — адзінае цэлае. У многіх яго вершах — смутак аб тым, што самага блізкага чалавека няма побач. Засталася толькі памяць. Але маці жыве ў яго вершах:

Гэта ты навучыла мяне
Жыць сумленна,
як бацька і брат.
І заснула ў сасновай труне,
Перажыўшы і ўбачыўшы шмат.

Не твая гэта, мама, віна,
Што ў дзяцінстве не піў сырадой.
Я — Міхась для цябе, а вайна
Ахрысціла мяне сіратой.

Як жывая, стаіш уваччу,
Абдымаеш, цалуеш мяне.
Успаміны баляць, і крычу
Я начамі, бывае, у сне.

Пачэснае месца ў творчасці М. Сазончыка адведзена Нясвіжчыне, якая стала для паэта другой радзімай, нямала твораў прысвечаных тэме паэта і паэзіі.

У наступным годзе Міхась Яфрэмавіч і яго жонка Зінаіда Фёдараўна будуць святкаваць залатое вяселле. Амаль паўстагоддзя разам. Але пачуццё, якое нарадзілася ў маладосці, не згасла, а, загартаванае жыццём і часам, стала яшчэ больш моцным. Найлепшы доказ таму — творы, прысвечаныя жонцы.

Уключаны ў зборнік "Крыніцы" і вершы для дзяцей, а таксама гумарыстычныя творы, сабраныя, здавалася б, пад такой невясёлай назвай "Горкія думкі".

Названыя вышэй тэмы паэт працягвае і ў новым зборніку "Выпрабаванне часам", які толькі цяпер з'явіўся на паліцах бібліятэк. У прадмове да яшчэ аднаго новага зборніка М. Сазончыка "Навагодні светлячок" вядомы беларускі паэт Мікола Маляўка гаворыць: "Новая кніжка — падарунак ад Міхася Сазончыка дзецям і іх бацькам. Калі ў дарослых вершах паэт часам бывае бескампрамісна-катэгарычным, суровым нават, то яго дзіцячыя творы шчодра апраменены сонечным святлом, акроплены гаючым дажджом і расою, асвечаны ласкаю і дабрынёю яго душы".

Валянціна ШЧАРБАКОВА

Таццяна Заміроўская герояў сваіх апавяданняў узнагароджвае дзіўнымі імёнамі, гэткае дзіцячае жаданне называць сваіх лялек экзатычна і загадкава — так яны выглядаюць больш прыгожымі і таямніча-ўмоўнымі. Тут і вядомая славянская пісьменніца Анісія, і бабуля Інжыр, безаблічныя героі-лічбы па замяцінскім прынцыпе — 343 і 221, і сімпатычны недарэка Фэщка. А яшчэ Грыгарыял, Мары, Сусанна, Эмма, Сара, Віталіна, Адам, Іда, Цэсла, Сафіко – па кнізе Заміроўскай якая-небудзь сямейная пара магла б выбіраць імя для будучага дзіцяці.

Кожнае апавяданне — гэта маленькі спектакль яе персанальнага сюррэалістычнага лялечнага тэатрыка, які, праўда, часам больш нагадвае інфернальную батлейку, дзе на гэтых мяккіх і бяскрыўдных персанажах Таццяна разыгрывае сцэнкі з самага сапраўднага дарослага жыцця — са здрадай і несправядлівасцю, з надрыўным адчаем, з чорным пылам расстання і салёным морам адзіноты. Магчыма, адлюстраваныя праз маленькіх цацачных герояў, гэтыя жорсткія праявы жыцця пачынаюць здавацца не такімі страшнымі, паменшанымі ў некалькі разоў мадэлькамі з пап'е-машэ.

Нядаўна ў маскоўскім выдавецтве "АСТ" выйшла першая кніга Таццяны "Жизнь без шума и боли". З гэтай нагоды карэспандэнт "ЛіМа" сустрэлася з беларускай журналісткай і пісьменніцай.

# Таццяна Заміроўская: «Для мяне чытач — гэта сябар»



— Таццяна, выхад кнігі штосьці істотна памяняў у тваім жыцці?

— Страшнае такое пытанне. Раней мне здавалася, што выхад кнігі кардынальна змяняе жыццё — вырастае німб над галавой, сябры пераўтвараюцца ў ворагаў, ворагі ў сяброў, бацькі пачынаюць глядзець на цябе так, нібыта ты нарадзіла ім чамадан унукаў. А на самай справе бярэш сваю кнігу ў рукі — і ніякай радасці альбо эйфарыі не адчуваеш абсалютна. Напэўна, гэта няправільна. З іншага боку, чалавеку ўласціва неяк звязваць падзеі ў творчасці і жыцці: думаеш, вось кніга выйшла, і па кармічным ланцужку за гэтым пацягнуліся пэўныя трагічныя падзеі ў асабістым жыцці. Гэта, безумоўна, нездаровы містыцызм. Магчыма, на самай справе нічога не памянялася, але мне пачынае здавацца, што памянялася абсалютна ўсё: скончыўся сямігадовы перыяд майго жыцця, у які пісалася гэта кніга, і цяпер у мяне пачаўся нейкі новы перыяд, а той закрыўся, усё памерла, згарэла, знікла і ператварылася ў попел. Гэта жахліва. Але і цудоўна.

— Ты так доўга чакала сваю кнігу, не было жадання выдаць яе раней, дапусцім, у беларускім выдавецтве за ўласныя сродкі, як сёння робяць многія пісьменнікі?

— Я аднойчы мела дачыненне да выдання кнігі — была рэдактарам зборніка маладога паэта, які рана пайшоў з жыцця, Андруся Белавокага. Выдаць сваімі сіламі нечую кнігу – гэта адно, ты ведаеш, навошта гэта робіш, а сябе цяжка ацаніць з боку. Я, мабыць, не вельмі ўпэўнены ў сабе чалавек. Я лічыла: калі нікому з выдаўцоў мае апавяданні не патрэбныя, то чаго я буду навязвацца, гэта так сорамна, навошта забруджваць свет макулатурай, калі пэўныя тэксты можна чытаць і ў Інтэрнэце.

— Дарэчы, часта бываеш у захапленні ад блога, а пасля чытаеш тыя ж тэксты ў кнізе — і расчароўваешся, бо не дацягваюць да літаратуры. З тваёй кнігай наадварот, тэксты ўспрымаюцца неяк больш сур'ёзна і літаратурна аформлена, чым у выглядзе постаў у Livejournal.

— Так, мне адзін мой сябар маскоўскі сказаў, што ў маіх апавяданнях у блогу заўважаў нейкія шурпатасці, памылачкі, нярoўнасці і не разумеў, выпадкова альбо адмыслова гэта зроблена. А ў кнізе яны пачынаюць іграць як спецыяльныя прыёмы, поўнасцю мяняецца змест.

— Твая кніга складаецца з дзвюх частак — "Праўда" і "Няпраўда". Ты такім чынам пяпярэджваеш пытанні пра рэальнасць і мастацкі вымысел?

— Так, многія апавяданні апісваюць рэальныя сітуацыі, хоць і ў такім сюррэалістычным ключы. Калі штосьці адбываецца, сядзіш у нейкай утрапёнасці, абсурдзе і стараешся асэнсаваць сітуацыю, упарадкаваць яе праз тэкст. Пасля перачытваеш яго і кажаш сабе: вось цяпер усё ясна. Такія тэксты пайшлі ў раздзел "Праўда". А тыя, якія незразумела з чаго ўзніклі, уключаныя ў раздзел "Няпраўда".

— Я ў кнізе не сустрэла ніводнага адмоўнага персанажа. Усіх герояў проста жудасна шкада, прычым такім шчымлівым, сорамным шкадаваннем.

— Значыць, гэта гуманістычная літаратура. Як у фільмах Кіры Муратавай: усе людзі слабыя, няшчасныя, жаласныя. Нават калі яны робяць штосьці жахлівае, гэта таму, што яны пакутуюць. Такое асэнсаванне невыноснага болю быцця, амаль будысцкае ўспрыманне пакутаў, калі іх трэба давесці да нейкага максімуму, абсалюта, наблізіцца да крытычнай кропкі, за якой усё лопаецца, расцякаецца і ператвараецца ў белую раку забыцця.

— Ведаючы цябе асабіста, цяжка сумнявацца, што абсурдная рэальнасць тваіх тэкстаў – твае сапраўднае светабачанне, іншымі словамі, у кнізе ты такая ж, як і ў жыцці. А вельмі часта ў такіх дзіўнаватых у творчасці людзей, напрыклад, у Кіры Муратавай альбо Людмілы Петрушэўскай, якія адчувальна блізкія табе па светаўспрыманні, пытаюцца: ці праўда што ваша паўсядзённасць такая ж сюррэальная, як і творчасць?

— На самай справе, сюррэальнае жыццё для іх і ёсць побыт. Яны не бачаць усё неяк дзіўна, яны бачаць усё так, як ёсць, і таму (гэта я па інтэрв'ю Муратавай заўважыла) іх звычайна раздражняе, што такое праўдзівае ўспрыманне свету ўсімі тлумачыцца як выдумка і сюррэалізм. Гэта ўвогуле нівеліруе ўсе іх дасягненні ў галіне магічнага візіянерства і разумення сутнасці рэчаў.

Дарэчы, я хацела папрасіць Людмілу Петрушэўскую напісаць мне водгук для вокладкі, мне нават далі тэлефон і электронны адрас, але забаялася, рука не паднялася. Затое я была нядаўна на яе канцэрце ў Маскве, сядзела поўнасцю зачараваная, яна такая прыгожая. І зразумела, што калі цяпер не падыду да яе, то буду ўсё жыццё шкадаваць. Відавочцы казалі, што я такая рашучая была, адважная, падляцела да яе, як тарпеда, уручыла кнігу. Там на вокладцы напісана, што я іду дарогай Людмілы Петрушэўскай, дык я баялася, што яна зараз убачыць і ёй не спадабаецца, што я за ёй іду. Таму я нешта такое дзіўнае ёй казала: "Я не іду за вамі, я не пераследую вас". А пасля я выбегла з гэтай грымёрачкі, у мяне рукі і ногі трэсліся, усю калаціла. Я такі вялікі яе прыхільнік.

— Не баішся, што цяпер крытыкі будуць пажыццёва ставіць цябе на яе дарогу? Звычайна пісьменнікі крыўдзяцца, калі ім прыпісваюць пэўнае пераймание, альбо калі праводзяць паралелі кштalту: вось беларускі Набокаў, беларускі Павіч, беларуская Ахматава.

— Гэта нармальна, я ж музыкальны журналіст, я пра ўсіх пішу: гэта беларуская "Placebo", беларуская "Talking heads". Праўда, у нас няма беларускіх "Talking heads", але ладна.

Не, гэта не пераймание, тут дзейнічае містычны досвед вучнёўства, калі пра нейкага чалавека можаш сказаць, што ён табе аднадумец, і адначасова стаіць на столькі прыступак вышэй за цябе, што ты можаш быць у нейкім сэнсе яго паслядоўнікам. Гэта не сорамна прызнаваць. І няхай ставяць на дарогу Людмілы Петрушэўскай, я ж яе люблю страшна. Горш калі вядуць абсалютна чужой дарогай, і ты не ведаеш, як ад гэтага адбіцца. Вось, напрыклад, на семінары ў Расіі маладыя пісьменнікі пра мяне казалі: "Яна падладжваецца пад стыль Маркеса, Борхеса, Картасара і Кафкі". А ў мяне з гэтымі аўтарамі ўвогуле цяжкія адносіны, таму што я на першым курсе вырашыла пачытаць кнігі, якія павінны чытаць усе такія "нестандартненькія" жанчыны. Набыла Борхеса, Маркеса, Кафку і Картасара на ўсю стыпендыю, пачала чытаць і ўвогуле нічога не зразумела. Усё здавалася такім чужым, нават Кафка.

— Ты магла б пісаць штосьці зусім іншае, напрыклад, вершы альбо рэалістычную прозу?

— А я, як і ўсе, пісала калісьці вершы. У мяне ёсць недзе дзесятак тых, якімі ганаруся.

— Тут на цябе, відаць, паўплывала паэзія Дзмітрыя Аляксандравіча Прыгава?

— Так, калісьці ён прыязджаў на філфак. Мы тады пабеглі на яго глядзець, ледзьве не ўсёй нашай журфакаўскай групай селі ў яго ў нагах. А ён чытаў мантры, заснаваныя на паэме "Яўгеній Анегін", выў кікімарай, бляяў казлом і быў нашым героем. І пасля мы, зразумела ж, усе пісалі вершы і стараліся быць падобнымі да яго.

— Назва кнігі "Жизнь без шума и боли" ў мяне выклікае нейкія стаматалагічныя асацыяцыі. Цікавая метафара атрымліваецца: з табой робяць штосьці страшнае, свідруюць, колюць, а ты пры гэтым нічога не адчуваеш, і нібыта нічога з табой і не адбываецца.

— Так, калі "пагугліць" назву маёй кнігі, то пашукавік выдасць рэкламу стаматалогіі. Рэдактар абрала для кнігі гэтую назву аднаймennага апавядання. Хаця гучыць яна не вельмі ўдала, мне ўжо паведамілі, што людзі больш старэйшага пакалення будуць асацыіраваць гэта з фразай "без шума и пыли" з "Джэнтльменаў удачы". А ўвогуле жыццё без шуму і болю – жыццё без яго асноўных характарыстык, гэта хутчэй аксіюмаран, таму што стан пастаяннага шуму і болю – натуральнае функцыянаванне нервовай сістэмы. А калі гэта анэстэзіруецца і знікае, то і чалавек знікае. Атрымліваецца добрае азначэнне знікнення праз дзеянне.

— У працяг стаматалагічнай тэмы. Андрэй Хадановіч калісьці казаў, што сучасная беларуская літаратура бяззубая, а як ты лічыш?

— Не, я думаю, у беларускай літаратуры ёсць зубы. Напрыклад, у Адама Глобуса дакладна ёсць, але яны такія ў яго не зусім чалавечыя.

— Распавядзі, як прайшла прэзентацыя тваёй кнігі на Маскоўскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы?

— Выданні "Что читать" і "Книжное обозрение" зладзілі некалькі мерапрыемстваў, дзе маладыя расійскія пісьменніцы Яўгенія Даброва, Маша Ульянава і я распавядалі пра свае новыя кнігі. Туды таксама паклікалі вядомага расійскага пісьменніка Дзмітрыя Быкава, але ён не змог прысутнічаць, таму каб не расчароўваць публіку, якая прыйшла менавіта на Быкава, мы з Жэняй Дабровай зрабілі яго лялькy. Звонку наша лялька – гэта навалачка, а набілі мы яе пластмасавымі карыткамі з-пад марожанага, такім чынам яна сумяшчае ў сабе салодкасць і начныя жаночыя мроі. Вочы мы ўзялі ад сяявачкі Lykke Li з вокладкі моднага часопіса. Аказваецца, калі іх перавярнуць і памяняць месцамі, то атрымліваюцца вочы Дзмітрыя Быкава. Мы вельмі перажывалі, што Быкаў узненавідзіць нас за гэту лялькy. Але пасля атрымалі інфармацыю, што ён яе бачыў, і яна яму спадабалася.

— Ты так часта бываеш у раз'ездах, хтосьці з тваіх сяброў нават трапна заўважыў, што ў цябе "заўсёды цягнік праз гадзіну". А дзе тэрытарыяльна пісаліся апавяданні з гэтага зборніка?

— Многія з іх пісаліся ў родным для мяне Барысаве. Барысаў – цудоўны горад, калыска цывілізацыі, месца, дзе была разгромленая Напалеонаўская армія, дзе жывуць пісьменнікі Юрый Станкевіч і Алена Брава.

— Дарэчы, у аповесці Юрыя Станкевіча "Любіць ноч — права пацукоў" Барысаў (хоць ён там і не называецца, але ўгадваецца) — вельмі змрочны горад. А які паўстае Барысаў у тваіх апавяданнях?

— У рукапісе маёй кнігі была яшчэ трэцяя частка — пра Барысаў, якую рэдактар выдавецтва "АСТ" адклала ў бок і прапанавала калі-небудзь выдаць асобнай кнігай, бо гэта абсалютна іншыя апавяданні — вельмі змрочныя, рэалістычныя і досыць невыносныя. Так што, можа быць, калісьці я гэта ажыццяўлю. Увогуле многія пісьменнікі, якія выраслі ў правінцыйных гарадах, пасля пачынаюць пра іх пісаць, і аповед ператвараецца ў апісанне нейкіх колаў пекла. Вось расійскі пісьменнік Уладзімір Казлоў таксама рос у невялікім беларускім горадзе, а пасля стаў гэтыя свае кнігі страшныя пісаць — "Гопники", "Школа". І маё жыццё ў Барысаве таксама было абкружана досыць суровымі і драматычнымі рэаліямі. Таму ў гэтых апавяданнях смерць — як прадмет побыту, неабавязковая такая. Зразумела, пра гэта цікава пісаць, калі падрасцеш, толькі не адразу, трэба пераасэнсаваць. Увогуле, мне здаецца, не хапае ў беларускай літаратуры суровага драматычнага досведу пераасэнсавання восьмі гэтых дзікіх 1990-х.

— Заўсёды было цікава, як падбіраюцца водгукі вядомых людзей на вокладку кнігі. У цябе нават лідэр гурта "Ляпис Трубецкой" Сяргей Міхалок адзначыўся, які напісаў нешта пра "рускі сюррэалізм".

— Было важна сабраць людзей, духоўна значных. Таму я сама папрасіла напісаць водгук расійскага журналіста Сяргея Мастаўшчыкова, я ў часопісе "Крокодил", дзе ён быў галоўным рэдактарам, друкавалася са сваімі апавяданнямі. Ён мяне ўвогуле аднойчы вельмі падтрымаў. Калі мне нічога не хацелася — ні жыць, ні пісаць, патэлефанаваў і сказаў: "Я Мастаўшчыкоў, я прачытаў вашыя апавяданні, яны вельмі добрыя". І гэтым літаральна мяне ад смерці выратаваў, я, можа быць, ужо ў пятлю палезла б, а тут зразумела, што можна яшчэ кудысьці рухацца.

А Сяргей Міхалок цяпер увогуле ў ролі гуру, яму трэба заснаваць секту, і мы ўсе за ім пойдзем. Ну і трэці чалавек, які напісаў водгук, — Яўгеній Папоў – добры рускі пісьменнік, вясёлы, дзіўны. Напэўна, ён быў першым чалавекам, які прачытаў мае апавяданні і сказаў пра іх нешта літаратуразнаўчае.

— У Даўлатава было пра літаратурныя амбіцыі журналістаў: "— А праўда, што кожны журналіст марыць напісаць раман? – Няпраўда, — схлусіў я". Хочацца тое ж і ў цябе спытаць.

— Калі пытаюцца, чаму журналіст раптам сеў і напісаў кніжку, мяне гэта неяк пужае. Бо я нават, здаецца, раней пачала пісаць апавяданні, чым займацца журналістыкай. І на журфак пайшла, бо пісала мастацкія тэксты, а ў Беларусі няма Літаратурнага інстытута. Быў нейкі пераломны момант: на пятым курсе я адаслала апавяданне пра пірамідку ва ўкраінскі часопіс "Наш", які цэлы год бамбардзіравала сваімі творамі, бо вельмі хацела, каб ён стаў маім сябрам на ўсё жыццё. Я яшчэ пафасна казала сваім аднакурснікам, што калі да заканчэння журфака хоць адзін мой тэкст апублікуюць, то ніколі не буду займацца журналістыкай, а толькі літаратурай. І вось раптам мне прыйшла рассылка ад часопіса "Наш", дзе паведамлялася, што ў іх грунулася пошта, згубіўся ўвесь архіў і яны шукаюць дзяўчыну з Мінска, якая даслала апавяданне пра пірамідку, бо хочуць яго апублікаваць. Прыходжу на журфак, а я там зорка, бо аказваецца, многія пісалі ў гэты часопіс, і іх "емэйлы" трапілі ў базу рассылкі. Для мяне гэта была такая унікальная верыфікацыя таго, што я раблю.

— Калі хтосьці перакладзе твае апавяданні на беларускую мову, што ты яму скажаш?

— Я сказала б дзякуй вялікі, што вы вярнулі мяне ў маю калыску, з якой я калісьці вывалілася. Я, напэўна, сама сябе не магла б перакласці на родную мову, мне здаецца, гэта павінен рабіць хтосьці з боку. Бо пераклад — заўсёды новы твор, напісаны супольна з аўтарам арыгінала. Дарэчы, хачу праз вашу газету звярнуцца да выдатнага перакладчыка і майго даўняга сябра Алеся Пяткевіча, вельмі была б рада, калі б ён пераклаў маю кнігу на беларускую мову.

— Хто для цябе твой чытач?

— Калі я захапляюся нейкім аўтарам, чытаю яго творы, то, мне здаецца, што я яго сябар, хоць ён пра гэта і не ведае. Мяне вельмі грэе гэта адчуванне магічнага сяброўства, якое ніколі не адбудзецца. Таму і для мяне чытач — гэта сябар, з якім я пакуль не знаёмая альбо не пазнаёмлюся ніколі.

Саша ДОРСКАЯ

Фота аўтара

## Гусіным пяром



Марыя ШАЎЧОНАК. Нарадзілася ў вёсцы Новы Востраў Клічаўскага раёна на Магілёўшчыне ў 1944 годзе. Скончыла філалагічны факультэт БДУ (1965). Настаўнічала ў Шчучынскім раёне, з 1966 года працавала ў мясцовай раённай газеце. З 1978 года — старшы рэдактар аддзела прапаганды Гродзенскай студыі тэлебачання. Выступае ў перыёдыцы з 1958 года. Выдала зборнікі вершаў: "Белая ластаўка" (1971), "Свята зямлі", "Бацькоўскае імя", "Раса-расінка"… Жыве ў Гродне. Там жа пабачыў свет чарговы зборнік паэтэсы "ОЗЁРНАЯ СВЯТЫНЯ" (2009, на рускай мове).



# «Купаются в лужице мелкой высокие небеса»

Як толькі гэты зборнік патрапіў мне ў рукі і я нарэшце дапетрыў, што Мария Шевчёнок гэта і ёсць вядомая мне паэтэса Марыя Шаўчонак, унутры мяне пачалі таемна варагаваць і адкрыта вылузвацца вонкі супрацьлеглыя пачуцці і думкі. З аднаго боку я незалюбіў Марыю, з другога — пранікся шкадаваннем да яе. Навошта і чаму?! — вось два пытанні, якія не пакідалі маёй галавы.

Яшчэ на службе ў арміі, у далёкіх уральскіх Карталах пад Чэлябінскам, сярод іншага я чытаў і ледзь не ў халяве кірзавых ботаў насіў дасланы мне маім дзядзькам са Слуцка яе першы танюткі паэтычны зборнік з такім лёткім сімвалічным назовам — "Белая ластаўка"…

Хоць, каюся, там жа, будучы адзіным беларусам на ўсю роту, пачаў я выпрабоўваць і свае паэтычныя здольнасці… у рускай мове. Былое такое. І нават мела працяг пасля арміі, аднак, далей раёнкі не пайшло, бо, добра памятаю, што на першую маю нізку вершаў, дасланую ў часопіс "Нёман", грунтоўным, але дакліва-педагагічным адказам адгукнуўся Валянцін Тарас, які, сам пішучы па-руску, можна сказаць, ледзь не сілком вярнуў мяне да сваёй роднай мовы (той аб'ёмны і пераканальны ліст я і цяпер захоўваю ў сваім архіве).

А найлепш, апроч згаданых фігур, возьмем насамрэч вялікіх і сусветна вядомых, скажам, А. Пушкіна і Ф. Цютчава. Па тым часе, як ведаем з гісторыі, у Расіі сярод вышэйшага свету была моднай і пануючай мова французская. Гаварылі, чыталі і ліставаліся спрэс на ёй. Мацярынскую, рускую, лічылі простанароднай, не раўнуючы як у нас цяпер беларускую, — вяскова. Але не выпадаючы з той моды, і адзін, і другі расійскія геніі пісалі свае высокамастацкія творы выключна на рускай мове. На ёй і толькі! Ні аднаго прыстойнага вершаванага радка пры жыцці па-французску не выдрукавалі. Ну, дык то ж геніі! Куды нам! (Ціха адцемім тут, што ў свой час мелі не надта ўдалыя літаратурныя спробы і нашы першыя класікі: Янка Купала — у польскай, а Якуб Колас і Максім Багдановіч — у рускай мовах. Але ўрэшце сваё боскае прызванне і нацыянальнае адраджэнскае прызначэнне ўразумелі і годна спраўдзілі.)

Вось і Марыя Шаўчонак. Калі ўжо на тое пайшло (не папракаючы, а напамінаючы кажу), то яна ж з беларушчыны, Богам ёй дадзенай, не толькі духоўна, але яшчэ і матэрыяльна жыла — і выкладаючы ў школе родную мову і літаратуру, і ў райгазеце, і ведучы перадачы на Гродзенскай абласной студыі тэлебачання, а да ўсяго яшчэ паспела выдаць і чатыры зборнікі вершаў…

Пра яе творчасць пісалі не абы-хто, а шырока вядомыя пісьменнікі і паэты: А. Звонак, М. Хведаровіч, Ю. Свірка, А. Грачанікаў, В. Макарэвіч, В. Коўтун, Ю. Голуб, С. Кавалёў… І вершы яе, між іншым, перакладаліся на англійскую, рускую, латышскую і літоўскую мовы…

Як кажуць, была і літаратурная вядомасць, і жыццёвая пэўнасць, і трывалы грамадскі грунт пад нагамі. Што ж адбылося з пашанотнай паэтэсай на другой палове яе жыцця? Адсюль з Мінска, маючы на руках толькі вершаваныя тэксты, пра тое цяжка гаварыць і разважаць, каб груба не памыліцца. І ўсё ж, што змусіла беларускую паэтэсу схіліцца да рускай мовы? (Крый Божа, я не асуджаю і не збіраюся чытаць натацый чалавеку за гэты ўчынак, бо гэта яе права, а тым больш, у нашай дзяржаве дзве дзяржаўныя мовы…) Як сабрат па пяры, я проста не разумею Марыю Шаўчонак… Бо ў яе, як у беларускай паэтэсы (сябра Саюза пісьменнікаў з 1979 года), мова творчасці павінна быць беларуская. Ніхто ж не будзе пярэчыць, што мова нацыянальнага мастацтва — мова мацярынская. Таму я і выношу сваё неразуменне на шырокую чытацкую аўдыторыю.

Зрэшты, можа, і не рабіў бы гэтага, каб тымі ж днямі не пачуў па радыё яшчэ адну паэтэсу. Насамрэч рускую. Марыну Наталіч (Наталлю Давыдзенку), якая нарадзілася на расійскім Далёкім Усходзе і, заўважу, беларускіх каранёў у радаводзе не мае. І вось, жывучы ў Беларусі і выдаўшы ў Мінску пяць рускамоўных кніг, яна пачала пісаць беларускамоўныя вершы. Яна кажа, што "на паэта моцна ўздзейнічае мацярык мовы. І калі ты патанаеш у стыхіі другой мовы, чужой, то ў табе адбываецца нейкая падмена". І галоўнае, што напрыканцы я выхапіў з той, цікавай, думаю, не толькі для мяне, гутаркі — вось гэта: "Не магу сказаць пра іншых пісьменнікаў, якія пішуць толькі па-руску, ці адчуваюць яны ўздзеянне беларускай літаратуры. Магу сказаць толькі пра сябе. На мяне асабліва ўплывае класічная беларуская паэзія, прычым не толькі XX, але і XIX стагоддзя. Калі ты сапраўды палюбіў мову гэтай зямлі, на якой ты жывеш, то не ўздзейнічаць на цябе яна проста не можа, яна становіцца каханай. І тут дадаць няма чаго: калі ты кахаеш — ты проста кахаеш. Вось і ўсё."

А як трапна і хораша пісала Марыя Шаўчонак пра сябе трыццаць гадоў таму:

У Беларусь буслы прынеслі
Калісьці і мяне, і вас…
…………………………………………
І мне здаецца – я тут вечна,
Як гэта неба і зямля.

І вось сёння пачынае свой зборнік вершаў такімі "пакаяннымі" радкамі:

Стихи мне иногда покоя не дают,
Порой от них совсем спасенья нету.
Ну что же?
Пишутся — пускай живут,
Надеюсь, что не засорят планету.

Не ведаю, як чытач успрыме гэтую "тлумачальную" аўтара да свайго выдання. Напраўду, чытаючы шмат якія вершы М. Шаўчонак, адчуваеш, што, часцей за ўсё, не родная, а бытавая дапаможная (можна яе назваць і мяшчанска-гарадской) руская мова, "тармозіць" паэтычны палёт аўтаркі, міжволі падрэзае ёй крылы. І тады сапраўднае багацце душы паэтэсы выносіцца чытачу на відочную паверку ўсяго толькі бедным яе адбіткам (не адлюстраваннем нават). Хадавыя размоўныя выразы, як латкі на портках бедняка, прыкрываюць галізну плоці, але не хаваюць духоўнай нястачы. Часам даходзіць да неўразумеласці і абсурду. Скажам, як патлумачыць сэнс гэтых радкоў ("Просушу свою душу…"; "Пропущу свою душу сквозь волны прибоя"; "Идёт по земле душа…"; "Прощу обиду на судьбу,// Она не виновата"; "Земля — она не просто шар.// Она всегда – жива")? Адным словам:

Как мы живём и что мы говорим! —
Прости нас, Господи, за это.

Аднак жа побач сустракаюцца і вельмі добрыя радкі, строфы і нават цэлыя вершы, як гэты:

Текут облака и реки,
Их лаской полны глаза.
Купаются в лужице мелкой
Высокие небеса.
Высокое в мелком не тонет,
Не тонут лучи в воде.
Тучку слеза обронит,
Потянутся травы к звезде.

Думаю, паэтэса (жанчына), якая напісала такі радок ("Надёжный спаситель — Природа"), недзе ў падсвядомасці і ўсёй сваёй прыродай агулам супраціўлялася спробам рускамоўнага стылю творчага жыцця. І нездарма ж яна ўзяла эпіграфам да верша "Стихи о маме" такую пагаворку:"Безродные долго не живут"… Таму, на мой погляд, усе пытанні эзатэрычнага і, можна сказаць, экзістэнцыяльнага складу схіляні яе да таго, што ўрэшце адбылося (я маю на ўвазе пераход да пісання на рускай мове, пісання, але не думання). Можна сказаць, што Усявышні запатрабаваў (як ёй думаецца) ад Марыі Шаўчонак і вышэйшай мовы духоўных зносін. Беларуская, відаць, не дацягвалася да Бога, нават стаўшы на дыбачкі. Але ж як быць з той агульнавядомай ісцінай, што менавіта Гасподзь надзяліў кожны народ сваёй мовай. Нас, прынамсі, — беларускай. І Марыю Шаўчонак у тым ліку. Марыя ж піша:

Посредине тьмы и света
Кто моей рукою пишет?
Кто диктует эти строки
Через муки и страданья?
…………………………………………
Принимаю, принимаю
Всё, что мне доверил кто-то…

Абсалютна незавуаліраваны намёк на тое, што вершы паэтэсе нашэптвае сам Гасподзь… Мне здаецца, што калі б так было на самай справе, то і вершы гэтыя адпавядалі б яго вышыні, як адпавядалі ў Купалы, Пушкіна, Шаўчэнкі, Шэкспіра, Дантэ і Гамера… Мяне заўжды здзіўляе, што чамусьці смеласцю падобных заяў вызначаюцца паэты далёка не роўныя пералічаным вышэй творцам…

Увогуле, асабліва па другой частцы зборніка, адчуваецца, што рэлігійныя матывы і экзістэнцыя мыслення паэтэсы былі выкліканы рэзкімі пераменамі ў яе жыцці, відаць, нездарма і матывы гэтыя характарызуюцца сваёй навязлівасцю… Магчыма, тое падаецца толькі чытачу, а не аўтару, які засяроджаны і загіпнатызаваны ўласнымі перажываннямі і духоўнымі пакутамі. На жаль, прасталінейнасць зніжае высокую паэтычную мэтаскіраванасць падобных вершаў:

Путь к Богу начинается с Земли.
Я на Земле, а Бог — во мне и всюду.
Но, Господи, ты путь мой озари,
И я идти увереннее буду.
Альбо:
АУМ — звучанье сфер,
Его на земле не слышат,
Но в нём Божественный свет,
И солнца и звёзд он выше.

Падобных тэкстаў, сабраных у асобным раздзеле, даволі шмат. І ўсё ж я не магу казаць, што большасць вершаў зборніка пакінулі мяне абыякавым. Кніжка ў сваёй цэласнасці пакідае добрае ўражанне сваім высокім духоўным пасылам. Дастаткова ў ёй твораў, якія зачапілі і ўсхвалявалі мяне. Напрыклад, гэты, хіба не выдатны?

Как стрелка компаса
повёрнута на север,
Так я всегда повёрнута к тебе.
И ты поверь,
пожалуйста, поверь мне,
Что Бог и ты —
всегда в моей судьбе.
Всегда, всегда со мной
ты будешь всюду
И в светлый миг,
и в годы темноты.
Да, ты не Бог,
обожествлять не буду,
Но лучшее земное — это «ты».

Маё пажаданне Марыі Шаўчонак такое: сабраць сябе ў адно і быць адным. Прыйсці да сябе — нялёгкая задача для чалавека. Зазвычай яна патрабуе ўсяго жыцця. І збочваць на паўдарозе са свайго шляху — дарэмная трата сіл, якіх можа не хапіць для вяртання…

Безумоўна, у нашых чытачоў могуць (і павінны) быць іншыя, адрозныя ад маіх, думкі. Я ж выказаў толькі сваё суб'ектыўнае меркаванне. Маю права.

ЛеГАЛ

## Розгалас

# «Любіце жывапіс, паэты…»

На юбілейнай вечарыне Генадзя Говара — сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі і сябра Саюза беларускіх мастакоў — увагу гасцей адразу прыцягнулі жывапісныя палотны: у зале Гомельскай гарадской цэнтральнай бібліятэкі імя А. Герцэна была наладжана выстава работ юбіляра.

Г. Говар працуе ў розных жанрах жывапісу — пейзаж, партрэт, нацюрморт. Значнае месца ў яго творчасці займае кніжная графіка. Пра тое сведчылі размешчаныя на выстаўцы кнігі, мастацкае афармленне якіх рабіў Г. Говар.

Віншуючы юбіляра, намеснік дырэктара выдавецтва "Барк" Міла Беразоцкая прывяла словы М. Забалоцкага "Любіце жывапіс, паэты" і выказала думку, што менавіта талент жывапісца дадае пільнасці зроку Говара-паэта і робіць яго літаратурныя творы такімі адметнымі.

З гэтым нельга не пагадзіцца. Г. Говар — аўтар шасці паэтычных зборнікаў. Яго пяру належаць публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя артыкулы.

Госці вечарыны — прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, а таксама родныя і блізкія Г. Говара — не пакінулі без увагі яшчэ адну рысу Генадзя Васільевіча — дар добразычлівасці ў адносінах да людзей наогул і да пачынаючых творцаў у прыватнасці. Апошнім ён заўсёды дапамагае і падтрымлівае іх разумным словам і парадаю.

Шэраг сваіх работ Г. Говар падараваў Гомельскай абласной, Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэкам, а таксама Жлобінскай цэнтральнай раённай бібліятэцы.

Генадзь Говар вядзе вялікую работу па прапагандзе мастацтва сярод насельніцтва. Разам з жывапісцам Р. Ландарскім і скульптарам Д. Паповым Генадзь Васільевіч дэманстраваў свае графічныя работы на І персанальнай выстаўцы "Па гомельскім Палессі".

Уменне адлюстроўваць навакольную рэчаіснасць у розных відах мастацтва ўласціва і для Евы Дударгі — сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Ева Дударга — аўтар аповесці "Наследніца".

Але на мерапрыемстве, што адбылося ў сакавіку ў Цэнтральнай бібліятэцы Гомельскага раёна, ішла размова пра яе як пра фотамастака. Нядаўна выйшаў у свет фотаальбом Евы Антонаўны "Вчера, сегодня, навсегда".

Ураджэнка Гомельскага раёна, на старонках свайго альбома яна змясціла краявіды роднай вёскі Рамановічы і прылеглых да яе мясцін. Гэта тыповыя краявіды Беларусі, пададзеныя так, што хочацца сказаць: "Якая прыгожая наша Радзіма!" Мабыць, таму выпуск альбома быў прафінансаваны Гомельскім райвыканкамам.

Фотаработы Евы Дударгі неаднаразова друкаваліся на старонках перыядычных выданняў, дэманстраваліся на выставах у Гомельскай абласной бібліятэцы і ў населеных пунктах Гомельскага раёна. З яе работамі людзі знаёміліся на Грачанікаўскіх чытаннях у в. Шарпілаўка, у Бальшавіку на свяце, прысвечаным 67-ай гадавіне вызвалення Беларусі, у Брылёве.

Е. Дударга лічыць сябе пачынаючым фотамастаком і з увагаю ставіцца да парад як простых гледачоў, так і майстроў, удасканальваючы сваё ўменне ў фотаклубе "Аддзел кадраў", членам якога яна з'яўляецца.

На прэзентацыі фотаальбома "Вчера, сегодня, навсегда" гаварылася пра яе і як пра кіраўніка літаратурнага аб'яднання "Пралеска", якому яна аддае шмат энергіі.

Відавочна, што творчая праца ў двух відах мастацтва з'яўляецца плённай для абодвух гомельскіх літаратараў, бо гэта дапамагае ім больш шырока бачыць навакольны свет і адлюстроўваць яго ў мастацкай форме.

Галіна РАГАВАЯ

# Чым завабіць слухача на літфестываль? Ірыскамі!

Літаратурныя фестывалі — унікальная магчымасць у адным месцы і ў адным часе пазнаёміцца з творчасцю паэтаў і празаікаў, графаманаў і сапраўдных майстроў слова, сваіх творцаў і гасцей…

Фестывалі лучаць мовы, мастацкія метады і прыёмы. Было б добра, каб ядналі, збліжалі яшчэ і людзей: творцаў з творцамі, творцаў са слухачамі, слухачоў са слухачамі. Натуральна, на фестывалях завязваюцца кантакты, пісьменнікі абменьваюцца тэлефонамі, часам нават ствараюць спантанныя калектывы, якія развіваюцца ўжо пасля фестывалю, знаёмяцца і слухачы (мая сяброўка, напрыклад, нядаўна выйшла замуж за хлопца, з якім пазнаёмілася на фэсце ва Украіне). Атрымліваецца, што сувязь у парах творца-творца, слухач-слухач ёсць. Была і будзе. А вось сувязь у пары творца-слухач часта нават не ўзнікае…

Як заўважыў арганізатар турніру “Бойка паэтаў”, што ладзіўся ў межах міжнароднага фестывалю “Парадак слоў-4”, Андрэй Каровін, адбываецца такая невытлумачальная рэч, якая паўтараецца, незалежна ад месца правядзення фестывалю: свае ходзяць на сваіх! Так было і на чацвёртым фестывалі, што ладзіўся ў Мінску, — на выступы беларускіх аўтараў прыходзілі беларускія слухачы, на вечарах гасцей з Расіі “тусаваліся” госці з Расіі… Але фестываль на тое і фестываль, каб усе хадзілі на ўсіх! Натуральна, правільней было б прывіваць слухачам-гледачам культуру “паходу на вечары гасцей”, але гэтае пытанне арганізатары вырашаюць працей (хаця праблема ад такога вырашэння, на жаль, застаецца): яны ладзяць вечары, на якіх выступаюць як свае пісьменнікі, так і госці фестывалю. Апошні “Парадак слоў” запомніўся мне двума такімі вечарамі-яднаннямі: згаданай вышэй “Бойкай паэтаў”, дзе з бляскам перамог украінскі паэт Дзмітро Лазуткін, ды паэтычнай праграмай «8 жанчын». Пра апошнюю распавяду шырэй.

Арганізавала гэтую паэтычную акцыю вядомая паэтэса, перакладчыца, блогер Марыйка Мартысевіч. У жніўні мінулага года яна ездзіла на паэтычны фестываль “Слowwwo”, што ладзіўся ў Калінінградзе. Там яна пазнаёмілася з рускай арт-групай “Баб\Ищи”, у склад якой уваходзяць чатыры абаяльныя жанчыны: Юлія Скарадумава, Марына Хаген, Ганна Галубкова і Дар'я Сухавей. Яны між іншым сказалі Марыйцы, што збіраюцца прыехаць у Мінск. Марыйка прапанавала ім прыехаць не “проста так”, а – на фестываль: і горад паглядзець, і сябе паказаць. Калі высветлілася, што “Баб\Ищи” у Мінск сапраўды прыедуць, ды яшчэ і поўным складам (што, па прызнанні Дар'і Сухавей, бывае вельмі і вельмі рэдка), Марыйка задумала зладзіць паэтычную акцыю “8 жанчын”. Чаму восем? Усё проста: чатыры рускія паэтэсы, чатыры – беларускія. Дзякуючы магічнай васьмёрцы вечарына атрымала сімвалічны падтэкст, які зразумелі ўсе, хто глядзеў камедыю Франсуа Азона, якая так і называецца: “8 жанчын”.

Насамрэч жанчын было не восем, а дзевяць. Каця Зыкава, рускамоўная беларуская паэтэса, узяла на сябе ганаровую ролю “мосціка” паміж рускімі і беларускімі каляжанкамі.

Чыталіся вершы. Пры гэтым (што вельмі і вельмі парадавала), чыталі свае творы не тыя паэтэсы, якія выступаюць амаль на кожнай паэтычнай вечарыне, што ладзяцца ў Мінску, а тыя, каго я, напрыклад, чую гады ў рады. Вольга Бабкова прадставіла паэзію, вельмі характэрную для нашых любімых 1990-х, гомельская пісьменніца Югася Каляда, якую мы прывыклі ўспрымаць як празаіка, аўтара кнігі “Галоўная памылка Афанасія”, сваёй паэзіяй здзівіла, парадавала і прымусіла задумацца адначасова (апошнім часам на паэтычных чытаннях назіраецца адзін варыянт з двух: альбо ёсць змест, а форма ды манера выканання хіліць у сон, альбо форма ды манера выканання абуджае ды весяліць, а вось зместу — пшык! У паэзіі Югасі Каляды ўсё арганічна: і змест, і форма). Вельмі годна выглядала са сваімі глыбокімі тэкстамі пераможца конкурсу маладых літаратараў Алеся Башарымава з Магілёва.

А вось удзел ад беларускага боку “паэтэсы” Маргарыты Аляшкевіч для мяне асабіста застаўся незразумелым. Маргарыта — журналіст, крытык, выкладчык Інстытута журналістыкі, нарэшце. Да сваёй паэзіі яна сама ставіцца як да несур'ёзнае гульні. Ды і вершаў у яе раз-два і аблічыўся… Марыйка, “абыгрываючы” выступ Маргарыты, сказала: існуе меркаванне, што крытыкі — тыя, хто самі пісаць не ўмеюць. І прапанавала нам пераканацца на прыкладзе Маргарыты, што гэта – не адпавядае сапраўднасці. Як на маю думку, “разбурыць міф” у Маргарыты не атрымалася...

Калі аўтар ставіцца да сябе з гумарам і ведае, што ягоныя тэксты не прэтэндуюць называцца “паэзіяй”, ён прыдумляе “форму” падачы тэкстаў. У гэтым выпадку ўся ўвага будзе накіравана на “відовішчнасць”, за якой глядач не засяродзіць пільнай увагі на змесце. Інакш кажучы, аўтары прыдумляюць перформанс. Што і зрабіла Маргарыта. Яна кідала ў залу ірыскі, чытаючы верш пра гэтыя цукеркі... Шпурлялася “Залатымі ключыкамі” ў шакіраваных і анямелых прысутных, якія ніяк не чакалі такога павароту падзей. “Ключыкі” падалі на падлогу, Маргарыта іх падымала і зноў шпурляла: “Ешце, ешце, дарагія мае!..” Усё гэта суправаджалася чытаннем верша. Пра што ён быў, пад “цукерачным абстрэлам” разабраць не выпадала… Калі гэта гульня сябе вычарпала, Маргарыта дастала малаток і талерку, на якой былі напісаныя яе вершы (каб не забыцца), і пачала шпацыраваць з ёй па зале, грукаць малатком па талерцы, прысядаць і крычаць нейкія словы, а пасля — укленчыла і пачала біць малатком па талерцы. Пакуль не разбіла. Ушчэнт.

Марыйка нам прызналася, што Маргарыта збіралася разліваць памыі (!) у галерэі “Ў”, але спадарыня Мартысевіч (вялікі дзякуй ёй!) забараніла гэта рабіць. Таму крытык і журналіст Маргарыта Аляшкевіч абмежавалася керамічным посудам…

Добра, што перформанс Маргарыты адбыўся напачатку. Арт-група “Баб\Ищи” вярнула слухачоў да прытомнасці і пераканала, што да Апакаліпсісу паэтычнага слова пакуль далёка.

“Баб\Ищи” (баб ищи, баб и щи) — унікальны калектыў, які склалі чатыры жанчыны з цвёрдым унутраным стрыжнем і актыўнай жыццёвай пазіцыяй. Гэта было бачна ва ўсім: у знешнім выглядзе, у разняволенай манеры выступленняў, у эмацыйным дэкламаванні твораў, у самім змесце, натуральна. Яны выдалі кнігу “Баб\Ищи и глобальное потепление”, якая “ў мэтах барацьбы з таварна-грашовымі адносінамі” распаўсюджвалася бясплатна.

Юлія Скарадумава піша пра Ноеў каўчэг, у якім — уся гісторыя чалавецтва, Марына Хаген ведае, што для кагосьці дажджавыя чарвякі — “ляжачыя паліцэйскія”, Ганна Галубкова хоча, каб ёй напісалі сапраўдны ліст, на паперы ў клетачку, выдраной са сшытка, а Дар'я Сухавей адмаўляецца чытаць уласныя тэксты і пускае іх “у народ”, каб гледачы выбралі тэксты самі і самі ж іх агучылі…

На маю думку, паэтычны праект “8 жанчын”, зладжаны Марыйкай Мартысевіч, стаўся спробай яднання творцаў і слухачоў. І трэба прызнаць — паспяховай спробай. Бо менавіта гэтага яднання нам, бывае, так не стае на літфестывалях. Вельмі хочацца, каб праз год, на наступным “Парадку слоў” падобных праектаў было як мага больш. Будзем спадзявацца...

Ася ПАПЛАЎСКАЯ



На здымку: выступае Маргарыта Аляшкевіч.

Фота аўтара



# Знакаміты фантаст — зямляк

Нядаўна чытальная зала цэнтральнай раённай бібліятэкі Дзяржынскага раёна была перапоўнена чытачамі самага рознага ўзросту. Тут адбылася сустрэча аматараў фантастыкі з удавой вядомага пісьменніка-фантаста Юрыя Брайдэра Ірынай Леанідаўнай, якая распавяла прысутным шмат цікавага з жыцця і творчасці Юрыя Міхайлавіча.

Нарадзіўся пісьменнік у 1948 годзе ў Оршы, а ўсё сваё свядомае жыццё пражыў у Дзяржынску. З самага дзяцінства захапляўся фантастычнымі творамі У. Бяляева, А. Азімава, Р. Брэдберы ды іншых савецкіх і замежных фантастаў.

У час вучобы ў Мінскім тэхнікуме сувязі Юрый Брайдэр пазнаёміўся са сваім будучым сааўтарам Мікалаем Чадовічам, які ўжо ў той час разгледзеў у ім талент. З тых часоў яны супрацоўнічалі разам.

Пісьменніцкая творчасць не перашкаджала Юрыю Брайдэру служыць у міліцыі. У 1983-м з'явіўся яго першы твор — аповесць “Парушальнік”, якая была надрукавана ў рэспубліканскай маладзёжнай газеце “Знамя юности”. Затым невялікія аповесці і апавяданні з'явіліся на старонках часопіса “Парус”. Але першае сур'ёзнае прызнанне Юрый Брайдэр атрымаў у 1987 годзе, калі за публікацыю ў часопісе “Нёман” аповесці “Посёлок на краю Галактики” быў узнагароджаны прэміяй імя Ленінскага камсамола Беларусі.

Значнай падзеяй у жыцці творцы стала яго знаёмства з вядомымі расійскімі пісьменнікамі-фантастамі братамі Стругацкімі. У 1980 — 1990-я гады ў Санкт-Пецярбургу штогод праходзіў кангрэс пісьменнікаў-фантастаў пад назвай “Странник”, які ўзначальваў Барыс Стругацкі. Для пераможцаў конкурсу на кангрэсе быў заснаваны своеасаблівы прыз — Меч Руматы. Гэтую ўзнагароду Юрый Брайдэр атрымаў у 1999 годзе за раман “Между плахой и секирой”. А крыху пазней пісьменнік быў уганараваны таксама і іншай, вядомай у асяроддзі пісьменнікаў-фантастаў узнагародай — Мячом у люстэрку. Гэты меч, сапраўды высакаякасны мастацкі выраб, уручаў яму вядомы амерыканскі пісьменнік-фантаст Пол Андэрсан. На сустрэчы з чытачамі Ірына Леанідаўна пазнаёміла з багатырскімі мячамі, дазваляла патрымаць іх у руках.

З 1983 года, часу надрукавання першага твора, пісьменніцкім дуэтам — Ю. Брайдэрам і М. Чадовічам — было напісана больш як 30 аповесцей і апавяданняў, а таксама 19 раманаў. Раннія творы сааўтараў аб'яднаныя ў зборнікі “Посёлок на краю Галактики” і “Ад на Венере”. Пісьменнікі стварылі цыкл фантастычных твораў. Вялікую вядомасць ім прынесла аповесць “Телепатическое ружьё”. У верасні 2009 года выдавецтва “Харвест” выдала першыя 12 тамоў серыі Саюза пісьменнікаў Беларусі “Бібліятэка сучаснай фантастычнай і прыгодніцкай прозы”, дзе змешчаны творы Юрыя Брайдэра і Мікалая Чадовіча.

Лявон ЦЕЛЕШ,
г. Дзяржынск

На здымку: мячы — прызы Ю. Брайдэру як факты прызнання яго ў асяроддзі пісьменнікаў-фантастаў.

Фота аўтара

## Дзіцячы свет

# Багата вясна кветкамі, а восень палеткамі!

Гэту і шэраг іншых прыказак, прымавак, песень дэкламавалі маленькія артысты дзіцячага садка № 266 г. Мінска на свяце гукання вясны ў музеі Якуба Коласа. Яны адгадвалі загадкі, вадзілі карагоды.

І ўсё — дзеля таго, каб наблізіць чаканую вясну-красну, бо ключ ад яе быў скрадзены лесавіком. Але і зламыснік, уражаны талентамі дашкольнікаў, вымушаны быў саступіць. “Агу! Вясна! Агу! Красна!”, — і Вясна з Сонейкам не прымусілі сябе чакаць.

Шыкоўнае дзейства, удзельнікамі якога былі пяцігадовыя акцёры побач са сваімі творчымі выхавальнікамі, згаданы садок ставіць у музеі не ўпершыню: супрацоўніцтва паміж установамі даўно ўжо стала традыцыйным і мерапрыемствы, як правіла, прымяркоўваюцца менавіта да ключавых сезонных святаў.

Такія імпрэзы з задавальненнем наведваюць і дзеці з іншых садкоў, і бацькі. Гэтым разам госці не засталіся ўбаку, а актыўна дапамагалі адгадваць загадкі на вясновую тэматыку. А пасля мерапрыемства з непрыхаванай цікавасцю аглядалі музейны інтэр'ер, які застаўся ў спадчыну ад народнага песняра, а таксама выставу эксклюзіўных лялек на самую разнастайную тэматыку.

Анатоль ТРАФІМЧЫК





У Магілёве адкрылася выстаўка “Кветкі Расіі на вашых плячах”. Такім чынам, у Магілёў, раней часу, дзякуючы наладжанаму святу, прыйшла не вясна, а нават лета, бо кветкі расцвітаюць толькі ў такую пару года. Адкрывалі выстаўку прадстаўнікі Магілёва і Паўлавага Пасада. Прысутнічалі намеснік кіраўніка гарадской адміністрацыі Фёдар Міхеенка і начальнік аддзела культуры Антаніна Шаркова, першы намеснік Паўлавапасадскай адміністрацыі Мікола Вахрамееў і галоўны мастак фабрыкі хустак і шаляў Віктар Зубрыцкі…

# Заміж персідскага ўзора

Развагі намесніка Паўлавапасадскай адміністрацыі Міколы Вахрамеева выклікаюць цікавасць, вабяць дасведчанасцю суразмоўцы і неацэннасцю гістарычных фактаў:

— Паўлаў Пасад праславіў сябе хусцінамі на ўвесь свет. На прадпрыемстве “Паўлавапасадскія мануфактуры” ўвесь час і па сённяшні дзень працуюць выдатныя людзі, якія ствараюць незямную прыгажосць. Што цікава: паміж Паўлавым Пасадам і Слуцкам яшчэ задоўга да семнаццатага года быў наладжаны, так бы мовіць, духоўны мост. Некалі паўлавапасадскія майстры дзівіліся вашым шэдэўрам — слуцкім паясам, а слуцкія ткачы захапляліся паўлаўскімі вырабамі. І што дзіўна — ніхто ў свеце не зрабіў прыгажэйшых за пасадскія хусцін, альбо паясоў, лепшых за слуцкія. Геніяльныя творы не паддаюцца падробцы, іх нельга перарабіць.

Калі ж прачытаў верш вашага класіка Максіма Багдановіча “Слуцкія паясы”, кранулі радкі:

…І тчэ, забыўшыся, рука
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

Я правеў цікавыя паралелі. Даведаўся, да прыкладу, што Слуцкая мануфактура шаўковых паясоў, альбо Слуцкая персіярня, была заснавана князем Міхалам Казімірам Радзівілам. І дзейнічала яна з 1740 па 1844 год. На пачатку князь прывёз да сябе персаў і туркаў, каб яны навучалі мясцовых майстроў гэтай справе. У гэты ж самы час — у 1795 годзе — узнікае мануфактура хустак у Паўлаўскім Пасадзе. Калі ж адлік часу прадпрыемства ў нас пачынаецца з прозвішчаў Гразнова і Лабзіна, то на слуцкую мануфактуру быў запрошаны з горада Станіслава (Івана-Франкоўска, што ва Украіне) майстар Ян Маджарскі. Ён і прывёз з сабою 28 ткацкіх станкоў, і кіраваў мануфактурай да 1776 года. Гэта пры ім нарадзіўся той пояс, які і атрымаў назву слуцкага.



Паўлавапасадскія майстры, знаёмыя з дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам Індыі, Францыі, Персіі ды, мусіць, са слуцкімі вырабамі, не захапляліся прывазнымі ўзорамі, не капіравалі ўсходнія кампазіцыі, а вынаходзілі нешта сваё, адметнае і непаўторнае. Як і ў вершы Максіма Багдановіча — ткалі свой “васілёк”, які служыў сімвалам радзімы. Адметна, што акрамя слуцкіх паясоў майстры выраблялі шаўковыя посцілкі і махры, залатыя і срэбныя галуны, падвязкі, стужкі, габелены. А з пачатку XIX стагоддзя выпускалі тканіну для літургічнага ўжытку, — як і на Паўлавапасадскай фабрыцы. Мануфактура цвёрда ўваходзіла ў жыццё і побыт людзей.

Калі на фабрыцы Якава Лабзіна выпуск ваўняных і напалову ваўняных хустак дасягаў больш мільёна адзінак, то слуцкіх паясоў выпускалася ўсяго каля двухсот. І таму каштавалі яны дорага — ад 5 да 50 рублёў, а пасля таго, як Беларусь была далучана да Расіі, — то і 50 — 100 рублёў. Слуцкія паясы з'яўляліся раскошай і служылі абавязковым упрыгожваннем касцюма магната і багатага шляхціца, а паўлаўскія хусткі і шалі нават саграналі царыцу…

Таму калі я завітваю ў Маскве ў гістарычны музей, альбо ў Санкт-Пецярбургу ў Эрмітаж ці ў Расійскі этнаграфічны музей, то абавязкова мой позірк спыняецца на паўлавапасадскіх хусцінах і слуцкіх паясах. Адчуваю знітаванасць традыцый і пабыту нашых народаў, прыгажосць душы нашых жанчын, іх імкненне да народнага мастацтва — да прыгожага, пяшчотнага... Прыгажосць, веру ў гэта, з'ядняе не толькі нас, але і сусвет.

Паводле Мікалая Руфавіча, мода на ўзорныя ваўняныя тканіны прыйшла ў Расію на пачатку XIX стагоддзя. Яны набылі папулярнасць у розных колах рускага грамадства – ад арыстакратыі да сялянства. Шалі служылі святочным дадаткам жаночага касцюма, упрыгожваннем свецкіх і царкоўных інтэр'ераў. З іх шылі адзенне і нават хітоны святароў. У сем'ях шалі былі як абярэгі, як каштоўныя рэліквіі, а ў канцы жыцця перадаваліся дзецям альбо ахвяраваліся храмам — для ўпрыгожвання прастолаў, ахвярніка, аналоя.

Вытворчасць хустак мела свой асабісты лёс. Заняўшы перадавыя пазіцыі ў той далёкі час, фабрыка працуе і сёння, з'яўляючыся адзіным у Расіі прадпрыемствам такога кшталту, а паўлаўская шаль, здабыўшы ўсенародную папулярнасць і славу, набыла сімвалічнае значэнне, яе выраб лічыцца унікальным народным промыслам. Як і сергіеўская матрошка, хахламскі посуд, жостаўскія падносы, яна ўспрымаецца цяпер як адзін з нацыянальных сімвалаў Расіі.

— Мікалай Руфавіч, а якія ўражанні ад Магілёва, ад беларусаў?

— Вельмі цудоўныя. Мы наведалі за кароткі час музеі, мясцовыя выстаўкі, пазнаёміліся з архітэктурай горада, — усё выдатна! Наведалі музей Бялыніцкага-Бірулі. Які гэта мастак! Дарэчы, мы з кіраўніком гарадской адміністрацыі Фёдарам Міхеенкам абмеркавалі шмат пытанняў і прыйшлі да высновы: нашым гарадам нішто не замінае стаць пабрацімамі. Дамовіліся, што будзем абменьвацца выставамі, культурнымі здабыткамі. На бліжэйшы час намецілі правесці выставу мастакоў. Так што наперадзе ў нас шмат працы.

Анатоль БАРОЎСКІ

На здымках: Мікалай Вахрамееў, першы намеснік кіраўніка адміністрацыі Паўлавага Пасада; хусткі Ірыны Дадонавай і Златы Альшэўскай.

Фота аўтара

## У наступным нумары

Рэдакцыя “ЛіМа” вырашыла аднавіць дзейнасць сваёй гасцёўні, дзе будуць сустракацца адметныя творчыя асобы, паяднаныя агульнымі інтарэсамі і памкненнямі.

Гэтым разам у “ЛіМ-гасцёўні” — навукоўцы, своеасаблівым магнітам прыцягнення для якіх сталася асоба доктара філалагічных навук, загадчыка аддзела рэдкай кнігі Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, ураджэнца Беларусі Мікалая Нікалаева.

Зацікаўленая гаворка прысутных вялася вакол факсімільных выданняў — унікальных, каштоўных і рэдкіх кніг, на якія шмат хто з чытачоў “ЛіМа” глядзіць як на неацэнны скарб. Бо факсіміле не толькі падае арыгінальны тэкст, але і адлюстроўвае сам час, аднаўляючы выданне з усімі асаблівасцямі паперы і пераплёту і нават са слядамі старэння і пылам стагоддзяў.

Сустракала гасцей Саша Дорская.

## З глыбінкі

# Музей Мар'яна

Вёску Адэльск у народзе называюць Гродзенскай Камчаткай. Шмат знакамітых людзей нарадзілася на зямлі Адэльскай. Адзін з іх — народны майстар па вырабе драўляных музычных інструментаў Мар'ян Скрамблевіч.

Майстар працуе з рознымі пародамі дрэва — з клёнам, акацыяй, ясенем, чаромхай, сасной, дубам, рабінай. Каб інструменты добра гучалі, Мар'ян Антонавіч сушыць дрэва на працягу пяці гадоў. Асабліва захапленне выклікаюць яго акарыны. Гэты інструмент выраблялі з гліны ці фарфору. Скрамблевічу ўдалося зрабіць адзіную ў Еўропе калекцыю драўляных акарын у выглядзе птушак і рыб.

У 2009 годзе ў Адэльскім цэнтры культуры і народнай творчасці пасля рамонту адчыніў свае дзверы музей драўляных музычных інструментаў Мар'яна Скрамблевіча. Кіруе музеем сам майстар. Наведвальнікаў сустракаюць словы “І што ў душы аддаць паспею людзям — яно і ёсць быцця адвечны рух!” Прыгожа аформленыя стэнды з музычнымі інструментамі расказваюць аб цудоўным, чароўным свеце музыкі. Мар'ян Антонавіч і сам прыветна сустракае ўсіх гасцей – і на гармоніку пайграе, і акарына ў выглядзе рыбы гучыць у яго руках незвычайнымі мелодыямі. А самае галоўнае, што Мар'ян Антонавіч перадае сваё майстэрства юным жыхарам вёскі Адэльск, якія наведваюць і музей, і цэнтр культуры і народнай творчасці, і сельскую бібліятэку. Пакоі музея і бібліятэкі знаходзяцца побач.

У Адэльскай сельскай бібліятэцы сабраны і аформлены ў тэматычныя папкі багаты краязнаўчы матэрыял пра знакамітых людзей Адэльскай зямлі. Удзельнікі дзіцячага аматарскага аб'яднання “Эрудыт”, арганізаванага пры бібліятэцы, на сваіх пасяджэннях знаёмяцца з творчасцю Мар'яна Скрамблевіча і маюць магчымасць пазнаёміцца з прадметамі самабытнай культуры. Гэта ўсё выхоўвае ў маленькіх жыхароў вёскі Адэльск любоў да сваёй маленькай радзімы, яе звычаяў, абрадаў.

Святлана РОБАК,
галоўны бібліятэкар аддзела
бібліятэчнага маркетынгу Гродзенскай
раённай бібліятэкі

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”
РВУ “Літаратура і Мастацтва”

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на “ЛіМ”.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканская унітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3057
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 22.04.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1866
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12